# НАШ КРАЙ

## ШТОМЕСЯЧНІК Ц. Б. КРАЯЗНАЎСТВА ПРЫ ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ



№ 4-5 (7-8) 1926 г. КРАСАВІК-МАЙ



МЕНСК

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

Цэнтральнага Бюро Краязнаўства

ПРЫ

ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ



№ 4-5 (7-8) Красавік—Травень 1926

ВЫДАНЬНЕ
Інстытуту Беларускае Культуры
МЕНСК—1926

# Нашы чарговыя заданьні.

Першы Ўсебеларускі Краязнаўчы Зьезд, які адбыўся 7 лютага гэтага году, у сваіх пастановах выразна адзначыў тую вялікую ролю, якую павінна мець краязнаўчая справа ў савецкім будаўніцтве, а таксама высьветліў тыя шляхі, па якіх павінна разгортвацца ў далейшым праца краязнаўчых арганізацый. Гэтымі шляхамі зьяўляюцца: наладжаньне кіраўніцтва і організацыйнага боку, уцягненьне шырокіх мас у працу краязнаўства, узмацненьне ўвагі да школьнага краязнаўства і наладжаньне справы па выданьні часопісу „Наш Край“.

ЦБК і некаторыя акруговыя т-вы краязнаўства сталі на гэты шлях і ў сваёй працы імкнуцца ажыцьцёвіць пастановы Зьезду. Другая-ж частка краязнаўчых організацый, як можна бачыць па іх працы, па іх зацікаўленасьці гэтай справай, амаль што зусім ня ўзяла пад увагу пастаноў Зьезду і ня кіруецца імі ў краязнаўчай справе: у шмат якіх акруговых і раённых т-вах пасьля Зьезду краязнаўчая справа амаль што не пасунулася наперад; таксама ў шмат якіх т-вах, як і да Зьезду, у гэтай справе прымае ўдзел адно настаўніцтва. А між тым і на Зьезьдзе, і ў друку, і па партыйнай лініі заўжды падкрэсьліваецца вялізарная важнасьць гэтай справы і абавязковая патрэба прыняцьця ўдзелу ў ёй партыйных, савецкіх, профэсыянальных організацый і шырокіх сялянскіх мас. Калі краязнаўчая справа не ахопіць шырокіх мас, і калі і надалей у ёй будзе прымаць удзел адно настаўніцтва, то яна ня выканае тых вялікіх задач і мэт, якія паставіла, і вырадзіцца толькі ў школьнае краязнаўства. На гэты бок трэба ўсім краязнаўчым організацыям зьвярнуць значную ўвагу.

Другім вялікім недахопам краязнаўчых організацый зьяўляецца тое, што яны аб сваёй працы маўчаць, не паведамляюць аб ёй вышэйшыя краязнаўчыя організацыі і не прысылаюць корэспондэнцый у часопіс „Наш Край“. Была па гэтым пытаньні пэўная пастанова Зьезду. Каб ажывіць часопіс „Наш Край“ і прыдаць яму больш мясцовы ўхіл трэба зьмяшчаць вынікі працы мясцовых краязнаўчых організацый і г. д.

Вядома, што выканаць гэтую пастанову, пры ўсім жаданьні, ЦБК ня зможа, калі ня будуць дасылацца матар'ялы з месц аб працы краязнаўчых організацый і аб іх плянах. А між тым, да гэтага часу гэтыя матар'ялы атрымоўваліся больш-менш рэгулярна толькі ад 10—20 організацый. Пры такіх умовах выканаць пастанову Зьезду аб наладжаньні справы па выданьні часопісу „Наш Край" было немагчыма.

Побач з гэтым з пастаноў Першага Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду выцякае яшчэ адно вельмі важнае заданьне. Краязнаўчыя організацыі павінны распачаць працу ўсебаковага краязнаўчага апісаньня Беларусі. Каб дапамагчы мясцовым організацыям у гэтым кірунку, ЦБК у плян сваёй працы ўнесла пункт усебакова абсьледваць за летні і васеньні пэрыод г. г. адзін тыповы раён БССР і потым апрацаваць і выдаць сабраны матар'ял асобным выданьнем. Па розных прычынах ЦБК намячае на першае абследваньне Асіпавіцкі раён Бабруйскае акругі. ЦБК думае зьвярнуць на гэты раён усю ўвагу навуковых сіл, прыцягнуць да гэтай справы мясцовыя краязнаўчыя і іншыя організацыі. ЦБК выносіць гэтую думку на абгаварэньне і заклікае акруговыя організацыі да правядзеньня такой спробы ў сябе. Паводле думкі ЦБК толькі такім чынам можна будзе мець праз некалькі гадоў больш-менш сталае апісаньне акруг і ўсёй БССР.

Вось галоўныя задачы, якія высоўваюцца жыцьцём у краязнаўчай справе. ЦБК упэўнена, што ўсе краязнаўчыя організацыі паложаць іх у падставу сваёй працы, чым дапамогуць пашырэньню і ўзмацненьню краязнаўчае справы.

**Прэзыдыум ЦБК.**




Проф. В. І. Пераход

# Да характарыстыкі сасновых дрэвастанаў Бабруйшчыны.

*(З габінэту леса-экономікі пры Беларускай С.-Г. Акадэміі).*

Пытаньне аб сасновых дрэвастанах мае надзвычайнае значэньне для беларускіх лясоў, бо сасна займае каля паловы ўсёй лясной плошчы БССР; апроч таго, вартасьць гэтай пароды і попыт на яе значна вышэй іншых парод (елкі, бярозы, вольхі, асіны).

Характарыстыку сасновых дрэвастанаў Бабруйскае акругі мы даем на аснове асабістага азнаямленьня з некаторымі дачамі (Бабруйская, Брыцалавіцкая) і тымі данымі закладкі спробных плошчаў, якія былі атрыманы студэнтамі-дыплёмнікамі (Стаўровічам і Лапцэвічам), працай якіх кіравала катэдра леса-экономікі.

Галоўнай мэтай было—характарызаваць продукцыю сасновых дрэвастанаў, бо ад яе залежыць зыскоўнасьць.

Ніжэй мы прыводзім даныя асобна па дзьвюх паказаных лясных дачах.

### 1. Брыцалавіцкая дача.

Сасновыя дрэвастаны гэтай дачы падзяляюцца на два тыпы (асноўныя):

а) *бор узгорысты*, які займае каля 1.800 дзес., або 18 проц.
б) *бор раўнінны*, які займае каля 1.500 дзес., або 15 проц.

Апроч таго, ёсьць яшчэ тып сасновага бору з другім паверхам з елкі, які займае каля 3 проц. плошчы (400 дзес.) і ў другім паверсе мае 0,9 сасны і 0,1 елкі і бярозы.

*Бор мокры, або субалаць* (нізінны) мала пашыраны (150 дзес., або 1 проц.), у сваім складзе мае: 0,7 сасны і 0,3 бярозы, падлесак з бярозы, вярбы, і акрыцьцё, якое складаецца з моху (Sphagnum), зязюлькавага лёну і багуна.

*Узгорысты бор* выяўляе сабой чысты сасновы дрэвастан, у якім паасобку дзе-ні-дзе трапляецца бяроза, без падлеску; глебавае акрыцьцё складаецца з моху і верасу. Гэты тып бору займае ўзвышшы ў заходняй частцы дачы, дзе ўтварае даволі значны масыў, а ўва ўсходняй частцы сустракаецца толькі на высокіх бугрох і ўзгорачках.

Характарыстыка гэтага бору ў лічбах наступная:

| №№ спроб | Клясы бонітэту | Лік гадоў | У пераводзе на 1 дзес. і адзінку паўнаты | | Запраўдны | | Якасная лічба | Вартасьць 1 дзес. лесу (руб.) | Агульная лясная рэнта (руб.) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Запас у такс. саж. | Сярэдні прырост (такс. саж.) | Запас спробы на 1 дз. | Сярэдні прырост у такс. саж. | | | |
| 3 | II | 107 | 68,8 | 0,64 | 54,9 | 0,51 | 20,59 | 1130,62 | 10,50 |
| 6 | II | 169 | 98,3 | 0,60 | 68,8 | 0,42 | 21,83 | 1501,78 | 9,17 |

Сасна ў веку 107 год дасягае ў гэтым тыпе 35 арш. вышыні, маючы сярэдні дыямэтр 7,9 вяршкоў пры паўнаце 0,7—0,8; у веку 83 год—сярэдні дыямэтр мае 6,3 вяршка, а сярэдняя вышыня—33 арш. Выхад будаўнічых сортымэнтаў атрымліваецца значны, жывыя сукі і галіны пачынаюцца каля $^2/_3$ вышыні, зьбег 0,5 вяршка, часьцей 0,4.

*Раўнінны бор* характарызуецца прымешкай бярозы (да 0,3); пасекі яго зарастаюць травой, а пасьля—бярозай і асінай; глебавае акрыцьцё складаецца з ягаднікаў, паверхня роўная.

Гэты тып сасновага бору характарызуецца такімі данымі:

| №№ спроб | Клясы бонітэту | Лік гадоў | У пераводзе на 1 дзес. і адзінку паўнаты | | Запраўдны | | Якасная лічба | Вартасьць 1 дзес. лесу (руб.) | Агульная лясная рэнта (руб.) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Запас у такс. саж. | Сярэдні прырост (такс. саж.) | Запас спробы на 1 дз. | Сярэдні прырост у такс. саж. | | | |
| 7 | I | 104 | 91.0 | 0,88 | 72,8 | 0.70 | 21,00 | 1528,8 | 14,70 |
| 10 | I | 116 | 100,4 | 0,86 | 80,3 | 0,69 | 21.07 | 1691,9 | 14,51 |

Сасновыя дрэвастаны гэтага тыпу ў веку 116 год маюць сярэдні дыямэтр 7,5 вяршка, сярэднюю вышыню—41 арш., пры паўнаце 0,8.

### 2. Бабруйская дача.

Сасновыя дрэвастаны Бабруйскае дачы займаюць больш 70 проц. усёй плошчы і могуць быць падзелены на тыя самыя тры асноўныя тыпы (бор узгорысты, раўнінны і нізінны). Самым пашыраным тыпам зьяўляецца *раўнінны бор*, які займае роўныя паверхні, пяшчаныя, слаба-ападзоленыя глебы, з акрыцьцём з моху, ягаднікаў і папаратніку; у падлеску—крушына, рабіна і ляшчына. Раўнінны бор мае прымешку бярозы ад 0,2 да 0,4 складу, а часам і асіны.

*Узгорысты бор* зьяўляецца ўжо чыстым дрэвастанам, у якім пасобку трапляюцца бяроза і асіна; падлеску тут няма, глеба бедная, палажэньне ўзвышанае; калі ёсьць верас,—зьяўляецца сасновы парасьнік.

*Бор нізінны*, мокры (субалаць) займае нізкія з мокрай тарфяной глебай месцы, якія ня маюць стоку.

| №№ спроб | НАЗВА ТЫПУ | Клясы бонітэту | Сярэдні век | Лік дрэў | Сярэдния | | Запас у такс. саж. | Сярэдні прырост | Бягучы прырост | СКЛАД |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Вышыня | Дыямэтр | | | | |
| 1 | Раўнінны бор | I | 90 | 536 | 36 | 7,2 | 76 | 0,814 | 1,10 | 9/10 С 1/10 Б |
| 2 | " " | I | 110 | 385 | 40 | 8,2 | 116 | 1,045 | 1,58 | 8/10 С 2/10 Б |
| 3 | Узгорысты бор | II | 105 | 665 | 35 | 6,5 | 80 | 0,701 | 1,25 | Сасна |
| 4 | " " | II | 125 | 452 | 38 | 8,3 | 92 | 0,736 | 1,18 | " |
| 5 | " " | II | 140 | 435 | 39 | 8,4 | 95 | 0,680 | 1,01 | " |
| 6 | Нізінны бор | III | 70 | — | 24 | 4,0 | 45 | 0.642 | — | " |
| 7 | " " | III | 50 | — | 14 | 3.0 | 27 | 0,54 | — | " |

Як відаць з прыведзеных даных[1]), найбольш продукцыйнымі сасновымі дрэвастанамі зьяўляюцца першыя два тыпы, прычым, усе названыя *тыпы сасновых лясоў Бабруйшчыны*, у сувязі з гэтым, адзначаюцца клясамі бонітэту.

*Сасновыя дрэвастаны Бабруйшчыны*, у зьвязку з зьменай веку зьмяняюць і свае таксацыйныя элемэнты (вышыню, дыямэтр) так, напрыклад:

| У веку. | Сярэдні дыямэтр. | Сярэдняя вышыня. |
|---|---|---|
| 105 год | 6,5 вяршка | 35 арш. |
| 125 " | 8,3 " | 38 " |
| 140 " | 8,4 " | 39 " |

Павялічэньне дыямэтраў і вышыні адбываецца непропорцыянальна веку; так, у першым прамежку (20 год) рост у вышыню і ў таўшчыню сільнейшы, чым у другім (15 год).

Роўналежна з гэтым зьмяняецца і *прырост па масе*, што відаць з наступных даных:

| Век. | Сярэдні прырост. | Бягучы прырост. |
|---|---|---|
| 105 год | 0,701 т. с. | 1,258 т. с. |
| 125 " | 0,736 " | 1,185 " |
| 140 " | 0,680 " | 1,018 " |

Тут ужо пасьля 125 год адбываецца спад прыросту, г. зн. у першы прамежак награмаджэньне драўніны яшчэ мае месца, а ў другой—яно значна слабее.

---

[1]) Прыведзеныя даныя пералічаны на адзінку паўнаты.









Якуб Тараноўскі.

# Да пытаньня аб паходжаньні назваў вёсак, мястэчак, гарадоў Беларусі [1]).

Заселеныя пункты Беларусі маюць розныя назвы адпаведна свайму прызначэньню, а таксама часу пачатку свайго існаваньня, як напрыклад: сяло, сяленьне, пасёлак, вёска, дзярэўня, мястэчка, фальварак, засьценак і горад.

Назва—сяло паўстала тады, калі народ перашоў з вандроўнага быту на аселы, наладзіў жыльлё, акружыў яго забудаваньнем, расчысьціў сярод лесу поле і пачаў займацца ральніцтвам.

Слова—дзярэўня пацьвярджае той факт, што першапачатковыя насельнікі сяліліся сярод густога з буйнымі дрэвамі лесу.

Назва—вёска, славянская—весь, якая супадае з займеньнікам тэйжа назвы, мае той сэнс, што пад пэўным паселішчам разумелася ўся скупнасьць яго жыхароў.

Мястэчка—дробны гандлёвы пункт,—сярод аколічнага сельскага насяленьня, які задаваляе яго неадкладныя жыцьцёвыя патрэбы і зьяўляецца найбольш адпаведным для гэтага месцам. Горад зьяўляецца больш умацаваным цэнтрам, у якім знаходзіцца асяродак гандлёвага і прамысловага насяленьня.

Засьценкі і фальваркі—сялібы пазьнейшага часу, напамінаюць эпоху фэўдальнага ладу, калі паны-магнаты акружалі сябе натоўпам шляхты, паміж якой дзялілі свае буйныя маёнткі на дробныя вучасткі.

Таксама заслугоўваюць увагі пункты, якія служаць патрэбам культу і маюць назвы пагостаў, капліц, могілак.

Хаця паселішчы па сваім значэньні і часе іх паходжаньня даволі рознастайныя, але яны цесна зьвязаны з іх насельнікамі, і таму ў іх назвах заўважваецца значнае падабенства. Сустракаюцца назвы сёл, зусім падобныя да прозьвішчаў іх насельнікаў: Цясты, Камаляны, Летхі, Дразды і г. д. Часта сустракаюцца вёскі з назовамі прозьвішчаў, хаця іх насельнікі маюць іншыя прозьвішчы, напрыклад: Скукі, Сікачы, Кавалі, Дзятлавічы, Баранавічы, Абуховічы, Асінаўцы, Міцкевічы, Грыгаровічы, Вароновічы, Вярбовец, Гарбуны, Грабенікі, Сьцяпанкі, Сямёнхі, Кашталяны, Маршаны і інш.

[1]) Зьмяшчаецца ў парадку дыскусіі.

Такое супаданьне назваў вёсак з прозьвішчамі тлумачыцца тым, што продкі беларусаў, займаючы тэрыторыю, сяліліся асобнымі сем'ямі, і надавалі ўтвораным імі сялібам назвы свайго прозьвішча. У пазьнейшым часе, калі лік насельнікаў у кожнай вёсцы размножыўся, гэта сувязь назваў магла нарушыцца і захавацца толькі ў некаторых асобных выпадках.

Але раз ужо выпрацаваўся суфікс, дык ён мог ужывацца для азначэньня назвы вёсак і ў тых выпадках, калі карэнная аснова гэтай назвы не супадала з асноўным прозьвішчам: напрыклад, такія назвы вёсак як Кублічы, Целядовічы, Боркі, Кадышкі і г. д. Вышэйпаказаныя прыклады назваў вёсак маюць паміж сабой тое агульнае, што яны зьяўляюцца канчаткамі множнага ліку, напамінаючы такім чынам назоўнікі, якія ўжываюцца толькі ў множным ліку.

Назоўнікі, якія ўжываюцца ў множным ліку, утварыліся з далучэньнем да асновы слова пытальных частак—*кі, чы, ці, лі*, а таксама асабовых—*оны, аны, яны*. З такімі самымі канчаткамі часта сустракаюцца назвы сёл, якія падобны да прозьвішчаў. Вось прыклады назваў з суфіксам—*кі*: Горкі, Боркі, Гуркі, Дуброўкі, Грабяшкі, Колышкі, Лукішкі, Вышадкі, Стайкі, Сямёнкі, Сьцяпанкі, Чашнікі і інш.

Назвы з суфіксам—*чы*: Варонічы, Ярэмічы, Кублічы, Бабынічы, Хацінічы, Сікачы.

Назвы з суфіксам—*овічы*: Адамовічы, Абядовічы, Барковічы, Дзярновічы, Любашковічы, Грыгаровічы, Кахановічы, Пахомавічы, Храповічы, Дзятловічы, Мішковічы, Фальковічы, Абуховічы, Пятровічы і г. д.

Назвы з суфіксам—*аўцы*: Курылаўцы, Манькаўцы, Мальцаўцы, Сербінаўцы, Асінаўцы і інш.

Назвы з суфіксам—*лі*: Гжэлі, Гарбулі, Кавалі, Жагулі, Прэлі, Чэплі, Шпылі.

Назвы з канчаткам—*ты*: Сямоты, Усьвяты, Чарствяты, Цясты.

Назвы з канчаткам—*оны*: Вязьмоны, Русоны, Рассоны.

Назвы з канчаткам—*аны*:Ástручаны, Марчаны, Струнаны.

Назвы з канчаткам—*яны*: Казьляны, Кашталяны, Бараўляны.

Ува ўсіх назвах вёсак, якія ўжываюцца ў множным ліку, адчуваюцца элемэнты ўвасабленьня. Яны разглядаюцца як зграмаджэньне ўсіх насельнікаў, якія ў іх жывуць і становяцца падобнымі да тых сяленьняў, люднасьць якіх цесна зьвязана паміж сабой адзінствам паходжаньня або агульнасьцю заняткаў. Прыкладам апошніх могуць служыць—Цясты, Камосты, Дзятлавічы, Сікачы, Гарбуны, Маршаны, Жукі, Павілкі, Сьцяпанкі, Сямёнкі, Грыгаровічы і інш. Таму ня раз я чуў такія выразы: „Сабраліся Цясты, Гарбуны, Камоскі, Дзятлавічы“ заместа таго каб сказаць—сход такой і такой вёскі.

Але зразумела, што такія назвы вёсак маглі ўтварыцца ў тую эпоху, калі яны былі малалюдныя і больш аб'яднаныя па складзе сваіх насельнікаў. З павялічэньнем ліку насельнікаў у вёсках і з падзелам іх складу паказаны мотыў паступова траціць сваю вартасьць, апроч таго, з бегам часу зьмяняюцца экономічныя і політычныя формы агульнага жыцьця, што адпаведна адбіваецца і ў назвах новых вёсак. У даным выпадку паўстае пытаньне аб адносінах сельскіх насельнікаў да пануючай клясы, які разглядае вясковыя сялібы з пункту погляду іх прыналежнасьці да пэўнай акругі або да прыватнага ўласьніка.

Прыкладамі, якія пацьвярджаюць фэўдальны погляд на вёску, могуць служыць такія сялібы як Багушэўскае і Багушэўка, Адамова, Юзафова, Марыянпаль, Княжыца, Альгова і г. д. Пры такім поглядзе

на рэчы суфікс з канчаткам множнага ліку, які паказвае на сялібы, як зграмаджэньне асабістасьцяй, ня мае свайго рацыянальнага дапасаваньня і павінен быць заменены адпаведным суфіксам адзіночнага ліку.

Калі прыняць пад увагу зьменлівыя варункі гандлёва-прамысловага жыцьця народу, дык стане відавочным рознавіднасьць суфіксаў назваў рознага гатунку сяліб, якія насілі характар маёнткаў, фальваркаў, засьценкаў, слабод, торговых пунктаў (мястэчак), пагостаў. Назвы гэтых сяліб выражаюцца суфіксамі з канчаткамі адзіночнага ліку, а ня множнага, таму што не ўвасабляюць сабой зграмаджэньня самастойных асабістасьцяй, а маюць іншы сэнс, які паказвае на пэўны гатунак прадметаў у політыка-экономічным жыцьці краю.

Таму што ў экономічным жыцьці вялікае значэньне маюць рэльеф краін, рэчкі, склад глебы, багацьце расьліннасьці і жывёл, дык, зразумела, што яны адбіваюцца на назвах сяліб, уносячы ў гэтую галіну значную рознавіднасьць як па аснове, так і па суфіксах.

Даволі пашыраны назвы сяліб з канчаткам—*ка*, якія адбіваюць у сабе характар мясцовасьці, пануючую расьліннасьць, а таксама залежнасьць ад уласьніка, як напрыклад: Забалоцінка, Пяшчанка, Вапнярка, Сасноўка, Асінаўка, Дуброўка, Бярозаўка, Баярка, Багушоўка, Падзіонаўка, Калінаўка, Малінаўка і г. д.

Часта сустракаюцца сялібы з суфіксам—*іца*, які можна разглядаць як зьмену—іка *ка*: Будніца, Расіца. Прымошчэніца, Журавіца і г. д. Блізка да папярэдняга стаіць суфікс—*ец*, які дае ўтварэньне сяліб такіх, як—Трасьцінец, Пехацінец, Лупінец, Каменец. Да—*іка* падходзіць суфікс—*іха*, які ўтварае назвы—Бычыха, Лабічыха, і які надае ім элемэнт увасабленьня.

Сустракаюцца ў Беларусі і назвы сяліб з канчаткам—*ская*, як напрыклад: Багушэўская, Разіноўская, у якіх ясна гучыць уласьніцкі—панскі прынцып, які доўгі час панаваў і ўціскаў сельскае насяленьне.

Сустракаюцца назвы сяліб з канчаткам—*кае*, які ёсьць нішто іншае, як ніякі род займеньніка—*кой;* гэты займеньнік мае вялікае значэньне ў утварэньні беларускіх прозьвішчаў. Прыклады: Глыбокае, Плоскае, Вузкае; у іх малюецца характар мясцовасьці, у якой яны разьмешчаны. Адпаведнымі прозьвішчамі можна лічыць—Гладкі, Кароткі, Вобразкі і іншыя ім падобныя, як—Бэцкі, Хруцкі, Латоцкі, Патоцкі, не гаворачы ўжо аб значным ліку прозьвішчаў з канчаткам—*скі*.

Вельмі шмат сяліб з суфіксамі—*ава, ова, ева*, якія можна разглядаць, як ніякі род славянскага займеньніка—*овый*, і як канчатак ніякага роду прыметнікаў, якія канчаюцца на *оў, (аў), еў*. Суфікс—*овы, (авы)* надае іменьням якаснае значэньне, як ружовы, а—*оў, (аў) ова, (ава)* надае ім адценьне прыналежнасьці. Вось чаму ў некаторых назвах паселішчаў з гэтым канчаткам выяўляецца ўласьніцкі прынцып.

Прыклады: Адамова, Безкатава, Зайкава, Логава, Рабова, Іванава, Сямёнава, Ольгава, Станіславова, Гарбачова, Скуражова, Межава, Трахадзева, Андрэева, Каралёва. Азеерава. Такія назвы сёл, як Адамава, Каралёва, Станіславова, Азеерава ясна кажуць аб іх уласьніцкім пахаджэньні.

Тое самае можна сказаць і аб паселішчах, якія маюць у сваіх назвах суфікс—*іна*, які можна лічыць ніякім родам займеньніка—*іны* (*ына*), у кароткай форме, а таксама канчаткам ніякага роду прыметнікаў, якія канчаюцца на—*ін*. Прыклады: Ветрына, Замшына, Ку-

рына, Кошкіна, Сёміна, Турэччына, Цяпіна, Хоціна, Кузьміна, Ільліна. Апошнія адносяцца да гатунку ўласьніцкіх паселішчаў.

Блізка стаяць да назваў паселішчаў і такія назвы, якія канчаюцца на—*но, на, ня.* Гэты суфікс можна разглядаць як ніякі род асабовага займеньніка ў скарочаным відзе, дзеля чаго ён ужываецца для абазначэньня паселішчаў, якія карысталіся да пэўнай ступені незалежнасьцю, як мястэчкі і гарады. Прыклады: Лужасна, Пышна, Стукальна, Магільна, Пясочна, Маладэчна, Дно, Дубна, Ліозна, Сенна, Горадня, Вільня, Дзярэўня, Паташня. Падобныя суфіксы сустракаюцца і ў адпаведных назвах прозьвішчаў: Дахно, Махно, Шахно, Гарашчэня, Пастушэня і г. д.

Сустракаюцца часам назвы сёл з канчаткам—*ча*: Варонеча, Зьвяняча, Ушача, такія канчаткі тым цікавы, што яны часам пераходзяць у—*чы*, як напрыклад: заместа Вараняча кажуць Варонечы, заместа Ушача—Ушачы. Такім чынам, назвы паселішчаў зьбліжаюцца з канчаткамі адзіночнага і множнага ліку.

Ад—*ча* паходзіць суфікс *шча, шышча*, што азначае павялічэньне, таму што нагадвае словы—яшчэ, яшчо, якія маюць сэнс дабаўленьня. Такім чынам утварыліся назвы—Гарадзішча, Дварышча, Селішча, Царкавішча. Ад злучэньня частак—*шча* з—*іна* (*ына*) утварыўся суфікс *шчына*, які мае шырокае дапасаваньне як у вадносінах да прасторы, так і да часу: Віцебшчына, Віленшчына, Мазыршчына, Барысаўшчына, Піншчына і г. д. Сустракаюцца і сялібы, назвы якіх маюць сваім суфіксам—*шчына*, пераважна тыя, якія як быццам складаюцца з некалькіх частак, як напрыклад Макаўшчына, Казельшчына.

Па разглядзе выводных канчаткаў назваў беларускіх паселішчаў варта зьвярнуць увагу на ўтварэньне асноўнай (каранёвай) часткі гэтых назваў. Ня раз ужо ўспаміналася аб падабенстве назваў паселішчаў да беларускіх прозьвішчаў; таму ўплыў прозьвішчаў на ўтварэньне назваў сельскіх паселішчаў і асабліва ў старадаўні час мы павінны паставіць на першы плян. Таксама казалі ўжо аб тым, што некаторыя паселішчы атрымалі сваё імя ад імя сваіх заснаваўцаў або ўласьнікаў, напрыклад: Станіславова, Юзафова, Лукішкі, Радзівілішкі, Марыянпаль, Альгоўка, Адамава і г. д.

Далей ідуць паселішчы, назвы якіх адбіваюць рэльеф мясцовасьці склад глебы, напрыклад Глыбокае, Гламбачына, Вузкае, Высачэні, Гарэльле, Гараны, Горы-Горкі, Горка, Гуркі, Высачаны, Далысы, Холм, Халамер'е, Далосцы, Пяшчанка, Пясочнае, Каменка, Камень, Вапнярка, Забалоцінка і г. д.

Мясцовая фаўна і флёра таксама мела ўплыў на назвы паселішчаў. Так, ад пануючых у пэўнай мясцовасьці сысуноў атрымаліся назвы паселішчаў: Быкі, Бычыха, Казлы, Казловішчы, Казьляны, Ваўковічы, Кошкіна, Псова, Мядзьведзіна, Зайкава, Турэчына, (Тур-Зубр), Мышы, Туроўля. Птушкі былі прычынай наступных назваў паселішчаў: Вароны, Варонеча, Вараноўцы, Сакоўцы, Сакольнікі, Сарокі, Сарачынцы, Аўсянкі, Соіна, Дразды, Дзятлы, Дзятлавічы, Вераб'ёва, Салаўкі, Селезьні, Качароўка, Гусяцін, Грачы, Гусіняты, Вараняты, Кукушкіна. Да гэтай групы назваў адносяцца і Стан, Стайкі, якія паказваюць на зборышча птушак, якія прыгатаўляюцца да выраю. Ад рыб паходзяць назвы паселішчаў—Сомава, Соніна, Шчукіна, Яршова, Карпова. Шасьціножкі былі прычынай пахаджэньня такіх назваў як Жукі, Жукава, Жуковічы Камары, Камароўка, Клапы, Клапатоўка, Асавец, Шмялі, і г. д. Дрэвы і кусты

далі падставу для адпаведных назваў сельскіх паселішчаў, як Калінаўка, Малінаўка, Дубова, Дуброва, Дуброўкі, Дубокрай, Паддуб'е, Бярозаўка, Беразань, Падбярэзьзе, Сасноўка, Альхоўка, Алешша, Лазавая, Вярбовец, Берасьце, Асінаўка, Асінавец, Арэхаўка, Грушаўка, Вішэнка і г. д. Да паселішчаў, якія атрымалі сваё імя ад мясцовай флёры, трэба аднесьці—Крапіўна, Люцікі, Аўсянікі, Гарохава, Апенкі і інш., як Лясохіна, Замошша, Палесьсе. У зьвязку з мясцовай прыродай і яе натуральнымі багацьцямі знаходзяцца саматужныя заняткі жыхароў, што не магло не адбіцца і на назвах аколічных паселішчаў. Напрыклад: Кавалі, Секачы, Ганчары, Смаловічы, Тапары, Абознае, Абоднае, Лапацінцы, Курылаўцы, Тавароўка, Сакольнікі, Пільнікі і г. д.

Той факт, што на Беларусі знаходзіцца шмат унутраных вод, натуральна адбілася і ў назвах паселішчаў, якія ці зусім супадаюць з назвамі рэк, ці паходзяць ад іх з зьменай канчатку. Наступныя назвы зусім супадаюць з назвамі рэк: Аболь, Улла, Сорня, Сьвеча, Лучоса, Свольна, Усьвят. Выводныя назвы: Касьпляны, ад ракі Касьпля, Ямёнец, ад ракі Ямёнка, Прыдруйск ад ракі Друя, Таропец ад ракі Таропа. Апроч таго, у сувязі з мноствам рэк і азёр утварыліся такія назвы як Парэчча, Зарэчча, Вярхоўе, Вусьце, Азярышча, Сіназер'е, Перавоз, Узвоз, Прудок, Крыстацель.

Але таму што рэкі маюць вялікае значэньне ў гандлёва-прамысловым жыцьці народу, у вёсцы выключную ролю іграў час, калі ня было штучных шляхоў зносін, дык, зразумела, назвы іх адбіваліся ў назвах гарадоў. Гарады засноўваліся пераважна ў крыжавых пунктах, у месцах, дзе прытока ўпадае ў галоўную раку, з тэй мэтай, каб можна было карыстацца гандлёвымі выгодамі палажэньня тэй ці другой ракі. Назвы гарадоў у такім выпадку ці зусім супадаюць з назвамі рэк, ці ўтвараюцца ад іх шляхам далучэньня адпаведных суфіксаў. Зусім падобныя назвы гарадоў і адпаведных рэк: Дрыса, Друя, Дзісна, Ворша, Невяжа, Рэжыца, Усьвят, Вулла. Гарадоў з назвамі, якія ўтварыліся ад далучэньня выводнага канчатку да іменьняў рэк значна больш, напрыклад: Віцебск, Полацак, Дзьвінск, Вільня, Вілейка, Пінск, Бабруйск, Слуцак, Расіены, Таропец. Галоўнейшыя суфіксы, якія ўжываюцца для назвы гарадоў можна разлажыць у такім парадку:

Суфікс—*ск* зьяўляецца скарочанай формай суфіксу—*скі*, які служыць для ўтварэньня прыметнікаў адносных і адпаведных прозьвішчаў, а таму і назвам гарадоў ён прыдае адпаведнае адценьне мысьлі. Віцебск азначае горад, які ляжыць пры Віцьбе; Полацак горад—на Полаце; Дзьвінск—на Дзьвіне. Колішняя назва нямецкая—Дзінабург зусім дапасоўваецца да вышэйпаказаных меркаваньняў. Ня мала сустракаецца гарадоў з канчаткамі *аў*, *еў (эў)* Барысаў, Чэрыкаў, Быхаў, Койданаў, Радзівілаў, Магілеў, Рагачэў. Канчатак—*аў* можна разглядаць як суфікс прыметнікаў, а таксама як кароткую форму суфіксу *овы*, які ўжываецца для ўтварэньня прыметнікаў якасных і адносных. Таму не ўва ўсіх назвах гарадоў паяўляецца адценьне прыналежнасьці, як гэта можна заўважыць у назвах Барысаў, Радзівілаў.

Суфікс *ін* (ын) не азначае прыналежнасьці, як гэта можна заўважыць у фамільных назвах, а якраз характар канчатку назоўнікаў, як татарын, баярын, барын, грамадзянін. Сюды адносяцца гарады Брагін, Казацін, Драгічын.

Сустракаюцца гарады з канчаткам—*іца* (ыца) Рэжыца.

Суфікс *на, ня* пераважна ўжываецца для азначэньня мястэчак, аднак, і для назваў гарадоў, напрыклад: Вільня, Горадня, Дубна, Роўна, Сенна, Кутна. Сустракаюцца гарады, назва якіх мае канчатак *аны, яны*: Пружаны, Ставучаны, Казьляны.

Суфікс *ель, ль*, які пэўна мае свой пачатак у лацінскім займеньніку—*іль, он*, мае таксама адпаведнае значэньне ў назвах некаторых гарадоў, напрыклад Невель, Гомель, Рослаўль, Мсціслаўль, Радомысьль.

Што-ж датычыцца асноўнай (каранёвай) часткі ў назвах гарадоў, дык за выключэньнем гарадоў, якія атрымалі сваю назву ад рэк, ля якіх яны знаходзяцца, сказаць што-небудзь агульнае аб іх вельмі трудна, таму што кожны з іх меў асобую аснову для сваёй назвы.





Анатоль





Тычына

І. Сосіс.

# Соцыяльны і культурны стан яўрэяў у Літве і Беларусі перад эпохай падзелаў Польшчы[1]).

## Соцыяльныя адносіны.

У самым канцы XVIII сталецьця, пасьля другога і трэцяга падзелу Польшчы, да Расіі, разам з новай тэрыторыяй і новым літоўска-беларускім насельніцтвам, пераходзіць і значная частка яўрэяў, былых падданых польскай дзяржавы.

З гэтага моманту і пачынаецца, уласна кажучы, гісторыя яўрэяў у Расіі. Да канца XVIII сталецьця ў межах Расійскай імпэрыі сустракаліся невялічкія групы гандляроў-яўрэяў, а на Украіне, яшчэ раней перашоўшай да Расіі,—знаходзіліся невялікія яўрэйскія грамады, зьвязаныя, гістарычна і культурна, з польска-літоўскім яўрэйствам.

Спробы, якія рабіліся не адзін раз,—пачаць гісторыю яўрэяў у Расіі з пачатку Маскоўскай або нават Кіеўскай Русі—зьяўляюцца зусім ненавуковымі.

Як у Кіеўскай, так і Маскоўскай Русі мы маем справу толькі з невялічкімі колёніямі чужаземных яўрэяў, якія зьяўляюцца або толькі гандлёвымі пасрэднікамі, або прадстаўнікамі сваіх далёкіх аднапляменьнікаў на Ўсходзе ці Захадзе. Гэтыя яўрэйскія колёніі, як і яўрэі ў Хазарскай дзяржаве, не пакінулі пасьля сябе колькі-небудзь значных сьлядоў у далейшым гістарычным жыцьці яўрэяў сярод славянскіх народаў.

Толькі ў XIV і XV ст., асабліва-ж у канцы XV і пачатку XVI сталецьцяў з нямецкіх старонак у Польшчу, Літву і Беларусь адбываецца масавая эміграцыя яўрэяў. Перасяляюцца цэлыя яўрэйскія грамады, якія пераносяць у новую старонку і свае капіталы (сабраныя ў руках невялічкай, але надта ўплывовай групы яўрэйскіх фінансыстых і буйных комэрсантаў), і свае векавыя звычаі да гандлёвай дзейнасьці, і свой кагальны лад, і нямецка-яўрэйскую гутарку, і рэлігійныя традыцыі, і сыстэму талмудычнага выхаваньня.

Пры новых умовах экономічнага і палітычнага жыцьця ў Польшчы, Літве і Беларусі, паказаныя бакі экономічнага і культурнага

[1]) Гэтыя нарысы прадстаўляюць сабой кароткі зьмест больш шырокай працы, якую рыхтую да друку на яўрэйскай мове.

жыцьця яўрэяў дастаюць сваё далейшае разьвіцьцё, разам з ім усё ўзмацняецца социяльная дыфэрэнцыяцыя ўнутры яўрэйскага „гэто“. Такім спосабам, к канцу XVIII сталецьця, калі адбываліся, адзін за другім, падзелы Польшчы, ужо цалком склаўся экономічны і культурны быт польскага, літоўска-беларускага і украінскага яўрэйства. Такім чынам, каб зразумець далейшую эволюцыю яўрэйскага жыцьця ў „черте еврейской оседлости“, пад уладай царскай Расіі, трэба пачаць ня з гісторыі расійскага законадаўства аб яўрэях (як гэта часта рабілася дагэтуль), а з гісторыі социяльна-экономічнай структуры, грамадзкага ладу і духоўнай культуры яўрэяў у Польшчы, Літве, Беларусі і Украіне.

Польшча шырака адчыніла свае граніцы для яўрэяў, цярпеўшых цяжкі ўціск і гвалты ў Заходняй Эўропе ў сярэдніх вякох (у часы і, асабліва, пасьля крыжовых паходаў) і ў пачатку новага часу.

З гэтай прычыны офіцыяльныя польскія гісторыкі не адзін раз указвалі на гуманнасьць, гасьцінасьць і верацярпімасьць польскай каралеўскай улады. На самай-жа справе галоўную ролю тут адыгралі прозаічныя інтарэсы польскай скарбніцы і экономічнага разьвіцьця Польшчы.

Сярэднявечная польская дзяржава з яе каралеўскай уладай, якая аказалася няздольнай сваімі ўласнымі сіламі і сродкамі ўмацаваць сваю скарбніцу, паставіць монэтную справу, організаваць падатковую сыстэму—з яе грамадзкім ладам, у якім надта слаба быў разьвіты гарадзкі гандлёва-прамысловы стан,—такая дзяржава мела вялікую патрэбу ў новых, здатных элемэнтах насельніцтва. Такімі зьявіліся спачатку немцы, а потым і яўрэі. І тыя і другія адыгралі вялізную ролю ў экономічным жыцьці Польшчы. Польская каралеўская ўлада цікавілася выключна капіталамі заможных яўрэяў, іх гандлёвымі сувязямі на міжнародных рынках, іх фінансавымі і організатарскімі здольнасьцямі і рухавасьцю. Яўрэі прыцягваюцца ў Польшчу, а потым і Літоўска-Беларускую дзяржаву, перш за ўсё, як буйныя крэдыторы скарбу, як прадпрыемцы і організатары такіх важных галін дзяржавы, як монэтная справа і збор падаткаў. На працягу цэлага шэрагу сталецьцяў каралеўская ўлада, а потым і шляхта маюць справу выключна з гэтымі буйнымі прадстаўнікамі яўрэйскага фінансавага капіталу: з банкірамі, „монэтчыкамі“, адкупшчыкамі падаткаў („мытнікамі“), арандатарамі буйных маёнткаў і г. д. Яны атрымоўваюць першыя прывілеі і каралеўскія граматы, якія давалі ім права свабодна пераяжджаць па абшарах дзяржавы і займацца сваімі справамі, недатыкальнасьць асобы і маемасьці, незалежнасьць ад мясцовай адміністрацыі і мясцовага суду, асобная „апека“ караля, якому яны былі падсудны.

К канцу XV і пачатку XVI сталецьця значна мяняецца характар і склад яўрэйскай эміграцыі ў Польшчу, Літву і Беларусь. З нямецкіх, галоўным чынам, зямель усё больш эмігруюць ня толькі заможныя яўрэі, якія шукалі ходу для сваіх капіталаў, але і сярэдняя і бедная яўрэйская маса, выціснутая з старых наседжаных месц—гандлёвай конкурэнцыяй і зьвязанай з ёй нацыянальнай і рэлігійнай нецярпімасьцю.

Большая частка яўрэйскай масы, якая пасялілася ў Польшчы, Літве і Беларусі, занялася дробным гандлем у гарадох і мястэчках, дзе яўрэям адведзены былі асобныя вуліцы, на якіх ім дазвалялася будаваць дамы, сынагогі, могілкі. Спэцыяльнымі каралеўскімі прывілеямі, якія пачалі атрымліваць ня толькі асобныя заможныя яўрэі, але і цэлыя яўрэйскія грамады—кагалы, яўрэям забясьпечвалася не-

датыкальнасьць асобы і маемасьці, пэўная свабода руху і заняткаў гандлёвымі справамі і рамесьніцтвам. Разам з гэтым на яўрэйскае насельніцтва ўскладаўся цяжар падаткаў—агульных і спэцыяльна-яўрэйскіх.

Яўрэйскае насельніцтва шырака скарыстала дадзеныя яму правы для разьвіцьця сваёй гандлёвай дзейнасьці, у якой такую моцную патрэбу меў край, пазбаўлены свайго мясцовага гандлёвага стану. Апошні быў толькі ў зародку, калі немцы і яўрэі сталі адыгрываць значную ролю ў польскіх і літоўска-беларускіх гарадох. Але гэты стан разьвіваўся і хутка (ужо ў XVI сталецьці) уступіў у жорсткую барацьбу з яўрэямі.

З ростам яўрэйскага і не яўрэйскага насельніцтва ў гарадох, усё больш узмацнялася гандлёвая конкурэнцыя паміж гэтымі двума варожымі лягерамі, бо вузкі нутраны, галоўным чынам, сялянскі рынак разьвіваўся надта марудна: запрыгоненае сялянства жыве сваёй замкнёнай натуральнай гаспадаркай, нязьвязанай з горадам, гарадзкім гандлем і рамесьніцкай прамысловасьцю.

Ужо к канцу XVI, асабліва-ж у VII сталецьці экономічны крызіс робіцца ўсё больш вострым у горадзе, а разам з гэтым узмацняецца і нацыянальная барацьба паміж яўрэямі і мяшчанамі-хрысьціянамі. Яўрэі, у барацьбе за існаваньне, імкнуцца пашырыць сфэру сваёй гандлёвай і рамясьніцкай дзейнасьці. Мяшчане-ж хрысьціяне і рамесьніцкія цэхі бачуць асноўную прычыну крызісу ў яўрэйскай конкурэнцыі і дабіваюцца ўсімі сіламі—і праз магістрат, і хадайніцтвам перад каралеўскай уладай—зьменшаньня правоў яўрэяў межамі яўрэйскага кварталу, рамкамі вызначаных галін і відаў гандлю і г. д.

У той-жа час усё часьцей адбываюцца выступленьні шляхты па павятовых сойміках і на вялікім вальным сойме проці яўрэйскага „ўціску“. Гэта таксама знаходзіцца ў шчыльнай сувязі з экономічным крызісам, які ўсё вайстрэй пачала адчуваць дробная шляхта, якая зьнемагала ад даўгоў і часта была вымушана аддаваць свае маёнткі сваім крэдыторам яўрэям. Буйная шляхта мела патрэбу ў яўрэях, у іх капіталах, здатнасьці, гандлёвых сувязях з горадам і замежным рынкам. Буйны арандатар-яўрэй, выплачваючы значныя арэндныя сумы, даваў поўную магчымасьць польскім магнатам жыць багата ў Варшаве, або ў іншых буйных гарадох і нават заграніцай. Оптавыя гандляры-яўрэі патрэбны былі шляхце для збыту сваіх сельска-гаспадарчых продуктаў і для правозу рэчаў збытку з-заграніцы. Дробная-ж шляхта, наадварот, з зайздрасьцю і ненавісьцю глядзела на яўрэяў, якія высунуліся сваімі капіталамі, буйнымі гандлёвымі опэрацыямі, шырокімі адкупамі падаткаў, арэндай вялізных маёнткаў, якія часта пераходзілі да іх ува ўласнасьць.

Калі на гарадзкім ці местачковым рынку адбывалася маленькая барацьба дробнага люду, яўрэя і хрысьціяніна, за розьнічны гандаль, за скупку продуктаў у селяніна, за права занятку рамяством і продаж сваіх вырабаў, то ў адносінах паміж капіталістычнымі яўрэямі і дробнай шляхтай мы бачым саперніцтва дзьвёх соцыяльных груп, прэтэндуючых на экономічнае панаваньне.

У гэтай барацьбе яўрэй быў слаб у політычных адносінах, бо ён быў пазбаўлены ўсякіх політычных правоў. Але соцыяльная моц гандлёвага капіталу часта замяняе яму політычную ўладу. Ён дабіваецца незалежнасьці ад мясцовай адміністрацыі і мясцовага суду, падтрымліваючы адпаведныя прывілеі аб яго падсуднасьці аднаму толькі кара-

леўскаму суду. Падатковыя концэсіі даюць яўрэйскаму адкупшчыкумытніку вялізную ўладу над насельніцтвам і моцны апарат, ужываючы часта рэпрэсіі ў адносінах да неакуратных выплатчыкаў падаткаў, да вінавайцаў у патайным вінакурэньні, у бязмытным правозе тавараў і да т. п.

Яўрэй быў пазбаўлены асноўных правоў шляхты—уладаньня прыгоннымі сялянамі—гэта не адзін раз падкрэсьліваецца юрыдычна ў розных законадаўчых актах. Фактычна, аднак, яўрэй-арандатар ці ўласьнік маёнтку, перашоўшага да яго ад няплатнага даўжніка становіцца і законным уласьнікам сялян, прымацаваных да зямлі, атрымлівае права неабмяжованай эксплёатацыі іхняе працы і суду над імі (уключна да сьмяротнай кары).

Яўрэйская фінансавая арыстократыя, пры ўсёй сваёй экономічнай моцы, не магла йграць грамадзка-політычнай ролі: ні ў гарадзкі магістрат, ні ў соймікі, ні ў сойм яўрэй, разумеецца, доступу ня мае. Але з організацыяй кагалу і з аб'яднаньнем іх у моцныя і вельмі ўплывовыя тэрыторыяльныя органы (для ўсяе Польшчы, а потым з 20-х гадоў XVII сталецьця—і асобна для Літвы і Беларусі), на чале іх,—як мы яшчэ далей пабачым,—становяцца тыя-ж яўрэі—буйныя арандатары, адкупшчыкі падаткаў, багатыя гандляры. А ў якасьці кагальных прадстаўнікоў яны становяцца ўплывовымі і перад магістратам, і соймікамі, і нават соймам. За кулісамі гэтых устаноў яны вядуць сваю політыку ня толькі для абароны інтарэсаў сваіх кагалаў, але і для ўзмацненьня сваіх уласных прывілеяў. Такую-ж ролю кагальных хадатаяў, ставячых і свае асабістыя выгоды, адыгрываюць яны ў сваіх зносінах з духавенствам і з каралеўскай уладай.

Гэты тып экономічна-моцнага яўрэя надта блізкі да заможнай шляхты па сваім дабрабыце, па сваіх уладарных нахілах, па сваім замілаваньні да высокіх тытулаў і ўшанаваньняў, па сваім імпозантным выглядзе, зусім непадобным да пазьнейшага тыпу дробнага арандатара-яўрэя, згінаючага плечы перед сваім панам.

Да гэтай социяльнай формацыі, якая склалася сярод польскага і літоўска-беларускага яўрэйства, дробная польская шляхта, выціснутая з сваіх ранейшых социяльных позыцый, мела вялікую варожасьць. Яна мела на сваім баку ўсе перавагі станавай політычнай улады, асабліва пасьля таго, як шляхэцкі сойм значна абмежаваў каралеўскую ўладу. Тым ня менш, у яе не хапала экономічнае моцы, каб выціснуць яўрэяў з сфэры дзяржаўных адкупоў і буйнага зямляўладаньня, ня гледзячы на юрыдычна-ўтвораныя абмежаваньні ў гэтых адносінах.

Побач з буйнымі арандатарамі-яўрэямі, складаўшымі невялічкую, хоць і надта ўплывовую социяльную групу,—мы сустракаем, пачынаючы з XVII сталецьця, другі, больш пашыраны тып дробнага арандатара-шынкара і карчмара-яўрэя. Экономічны крызіс у горадзе гоніць яўрэйскую масу на вёску, куды яна прыносіць тыя-ж пачаткі таварнай гаспадаркі і пасрэдніцтва паміж горадам і вёскай. Пазбаўленая капіталу, гэтая маса цалком падпадае пад уладу пана-зямляўласьніка, які ўсімі спосабамі эксплёатуе яе гандлёвыя і прадпрыемніцкія здольнасьці ў мэтах свайго ўзбагачэньня. Такім спосабам, вясковы яўрэй, прыціснуты вялікай арэнднай платай і рознымі павіннасьцямі, робіцца надзейнай зброяй у руках пана для выціскання з сялянства яго невялічкіх матар'яльных сродкаў.

Яўрэй-арандатар млына, крамнік, карчмар, шынкар, пактар і г. д. увесь час заняты ня толькі пагоняй за кавалкам хлеба, але, перш за ўсё,

вышуквае ўсё новых сродкаў дзеля задаваленьня ўсё ўзрастаючых апэтытаў свайго пана. У выпадку неакуратнасьці ў гэтых адносінах яму пагражае жорсткая кара з боку таго-ж пана, суду якога ён падлягаў. Але для селяніна той-жа яўрэй, якога эксплёатуе пан, зьяўляўся яго, селяніна, і бліжэйшым ворагам і эксплёататарам. Асабліва яскрава гэта выявілася ў справе спайваньня люду. Пану належыла монополія вырабу гарэлкі, і ён быў зацікаўлены ў пашырэньні сярод сялян п'янства, якое значна павялічвала яго даходы. І тут яўрэй-шынкар, які часта сам быў бедным, фактычна многа спрыяў разьвіцьцю народнага п'янства, здавальняючы фінансавыя запатрабаваньні пана, яго тэндэнцыі да ўсё большага павялічэньня арэнднай платы.

На гэтай глебе ўзьнікала варожасьць селяніна да яўрэя, якая пры падбухторваньні духавенства, прыймала форму нацыянальна-рэлігійнай няпрыязьні. Духавенства мела тут свае, як кажуць, профэсыянальныя мотывы: яўрэі рабілі свае кірмашы ў нядзелю і сьвяточныя дні, адхіляючы парахвіян ад набажэнства і казаньняў у царкве і зьвязаных з гэтым „паднашэньняў“, хрысьціяне, служыўшыя парабкамі і чэлядзьдзю ў яўрэяў, прывучаліся ігнораваць хрысьціянскую рэлігію і г. д.

На Украіне анты-яўрэйскі рух у горадзе і вёсцы выявіўся ў страшэнных пагромах, шчыльна зьвязаных з казацкімі паўстаньнямі XVII і XVIII сталецьця. Сялянская маса, падняўшыся супроць польскай шляхты, увасабляўшай у сабе соцыяльны і нацыянальна-рэлігійны прыгнёт, не шкадавала і яўрэяў. І тут да соцыяльнай ролі, якую адыгрывалі яўрэі ў якасьці пасрэднікаў паміж шляхтай і сялянствам, далучылася варожасьць гарадзкіх мяшчан, якія мелі зуб супроць сваіх конкурэнтаў-яўрэяў, і ўзрошчаная духавенствам нянавісьць да „хрыстапрадаўцаў“.

У Літве і Беларусі пагромы, выкліканыя тымі-ж соцыяльнымі прычынамі, насілі эпізодычны характар. Анты-яўрэйскі рух тут прыймаў організаваны характар,—у форме выступленьняў магістрату, соймікаў, цэхаў з проэктамі і хадайніцтвамі аб абмежаваньні правоў яўрэйскага насельніцтва. Апошняе, у сваю чаргу, аб'яднанае ў кагалы, змагалася супроць дамаганьняў сваіх праціўнікаў.

Паўстаньні казакаў і войны паміж Расіяй і Польшчай яшчэ больш узмацнілі гарадзкі крызіс і разарылі масу яўрэйскага насельніцтва. Процэс яе пролетарызацыі ўсё больш узмацняецца, выяўляючыся ў разьвіцьці жабрацтва,—супроць якога кагал дарэмна змагаўся,—і ў пераходзе да саматужнага рамяства, да якога яўрэйства адносілася не з вялікай прыхільнасьцю. Толькі цяжкае матар'яльнае становішча прымушала ўсё больш і больш значныя групы яўрэйства зьвярнуцца да рамесьніцкае працы, бяз тэй традыцыйнай вывучкі, якая была характэрна для цэхавых рамесьнікаў хрысьціян.

Яўрэйскі рамесьнік выступае, як „партач“, які ў цяжкай барацьбе за існаваньне заклапочаны ня столькі якасьцю сваіх вырабаў, колькі іх таннасьцю і комбінаваньнем рамесьніцкай працы з гандлем (продаж сваіх вырабаў на рынку). Ён разьлічваў на непераборлівы і надта бедны сялянскі рынак, якім, пераважна, карміласся і маса дробных гандляроў.

Раней (прыблізна да XVII сталецьця яўрэйскія рамесьнікі яшчэ абмяжоўвалі сваю дзейнасьць рамкамі ўнутранага рынку сваёй-жа грамады, дзе цэлы шэраг рамёстваў быў зьвязаны з рознымі рэлігійнымі абавязкамі, якія выконваў толькі рамесьнік-яўрэй. З процэсам зьбядненьня значных слаёў яўрэйскага насельніцтва (асабліва ў другой палавіне XVII

і ў XVIII сталецьці) значна ўзросшыя кадры яўрэйскіх рамесьнікаў ня могуць больш здавольвацца абмяжованым яўрэйскім рынкам. Аднак-жа, пры сваім выхадзе на агульны рынак, яны сустракаюцца з яго старымі монополістымі—хрысьціянскімі рамесьніцкімі цэхамі і з іх уціскам у адносінах да рамесьнікаў, не належачых да якога-небудзь цэху. Пачынаецца цяжкае змаганьне, у якім спачатку ўсе переваґі былі на баку хрысьціян: шчыльная організацыя цэхаў з іх векавымі традыцыямі, падтрыманьне магістрату, прыхільнасьць каралеўскае ўлады. Яўрэі-рамесьнікі, неорганізаваныя і бяспраўныя, доўгі час выконвалі патрабаваньні хрысьціянскіх цэхаў: уносілі вызначаныя сумы ў цэхавую касу, мірыліся з іх контролем, апекай, рэглямэнтацыяй яўрэйскага рамяства і цэлым шэрагам абмежаваньняў у гэтай галіне. З цягам часу, аднак, (асабліва ў XVIII сталецьці) яўрэйскія рамесьнікі, павялічваючыся ў ліку і ўсё больш гуртуючыся ў свае ўласныя цэхі („брацтвы“), вызваляюцца з-пад апекі хрысьціянскіх цэхаў і пачынаюць усё больш пасьпешную конкурэнцію з імі, дзякуючы таннасьці сваіх вырабаў і абмяжованасьці свайго ўласнага жыцьцёвага мінімуму.

Як у галіне гандлю, так і рамяства, яўрэйскае насельніцтва захоўвае і нават значна пашырае свае позыцыі, ня гледзячы на розныя мясцовыя і законадаўчыя абмежаваньні. У гуртовым і замежным гандлі, як і ў рознага роду буйнай арэндзе, адкупах, падрадах і інш. прыкмячаецца ня толькі колькасная перавага яўрэяў, але і павялічэньне іх дабрабыту, бо экономічным базісам тут служыла, галоўным чынам, задавальненьне патрэб шляхты і дзяржаўнае ўлады (вываз сельска-гаспадарчых продуктаў і прывоз мануфактуры, розных рэчаў збытку, буйная арэнда, адкупы акцызаў і іншых дзяржаўных павіннасьцяй, лясная, браварная справа ў вялікіх разьмерах і г. д. Вялізная-ж маса дробных яўрэйскіх гандляроў і рамесьнікаў, апіраючыся пераважна на бедны сялянскі рынак, вяла цяжкую і дробную барацьбу за існаваньне і вельмі цяжка было здавальняць свае самыя элемэнтарныя патрэбы. Гэтым тлумачыцца далейшы рух яўрэяў на вёску, каб заняцца там дробнай арэндай, дробным гандлем, шынкарствам. Ня гледзячы на страшэнныя украінскія пагромы, яўрэйская маса, з прычыны адсутнасьці іншых экономічных магчымасьцяй, чапляецца за тыя-ж промыслы, якія аддавалі іх у няволю паном і ўзбуджалі да іх варожасьць з боку сялянства, бо яўрэі выконвалі эксплёататарскія функцыі пана.

У канцы XVIII сталецьця, перад другім падзелам Польшчы, сярод лібэральных польскіх колаў узьнікла, паміж іншым, думка прыцягнуць яўрэйскія гушчы да земляробства. Але гэта добрае жаданьне засталося бяз вынікаў, бо земляробская праца была зьвязана з прыгонным правам, якога яўрэі, як гараджане, ня ведалі і ведаць не жадалі.

Селянін знаходзіўся на самай ніжэйшай ступені соцыяльнай лесьвіцы. Натуральна, што яўрэй згаджаўся займацца сваімі няпэўнымі промысламі, не дапускаючы і думкі аб магчымасьці спусьціцца яшчэ ніжэй—да ўзроўню падпрыгоннага селяніна.

---



# Расьліны на Беларусі.

М. Зьбіткоўскі.

## Аб зборы лекавых траў.

Сярод расьлін, якія трапляюцца ў Беларусі на палёх, сенажацях, балотах і ў лясох у дзікім стане можна налічыць больш сотні траў, якія ўжываюцца і ў навуковай і ў народнай мэдыцыне. Аднак, збор гэтых траў ня вельмі пашыраны, хоць і заслугоўвае самае пільнае ўвагі, як падсобны і выгодны пры пэўных умовах промысел.

У Палтаўскай губэрні збор лек.-траў існуе больш сто год і зрабіўся крыніцаю заробку. Галоўнаю перашкодаю да разьвіцьця гэтага промыслу зьяўляецца незнаёмства з лек.-травамі і спосабамі іх збору ды сушкі.

Каб праца і час збору лек.-траў ня траціліся дарма, трэба перш азнаёміцца хаця-б з самымі асноўнымі правіламі—калі, як і якія часткі лекавых расьлін трэба зьбіраць і якімі спосабамі лягчэй за ўсё атрымаць з іх беззаганны альбо, як кажуць, „кондыцыйны“, г. ё. здавальняючы пэўным запатрабаваньня тавар на продаж.

Першае вымаганьне ад лек.-трав. тавару, каб ён быў аднастайным, ня меў-бы непатрэбных прымешак, якія зьніжалі-б яго каштоўнасьць. Іншы раз гэта бывае дзякуючы незнаёмству, іншы раз—наўмысьля. Аднак, ад лек.-траў, якія пойдуць на прыгатаваньне лекаў, не дарма вымагаюць чыстаты збору.

Другая ўмова—гэта лік лекавых траў. Большы лік аднароднага матар'ялу лічыцца больш каштоўным, чымся маленькія рознародныя зборы асобных зборшчыкаў. З гэтае прычыны лепш за ўсё яднаць зборшчыкаў лекавых траў у варцелі,—тады з дробных збораў асобных зборшчыкаў складаюцца больш буйныя партыі іх, якія лягчэй і выгадней здаваць, чымся дробныя партыі.

Чаму лекавыя расьліны трэба зьбіраць у пэўны час?

Лекавыя расьліны зьбіраюцца дзеля іх лекавых матэрыяў, якія набіраюцца ў расьліне паступова і к пэўнаму моманту жыцьця расьліны колькасьць іх дасягае найбольшае меры.

Напрыклад, Валер'яна—асабліва багата на лекавыя матэрыі к таму часу, як вянуць яе лісьці, г. ё. у восень і перад іх распусканьнем—у весну. Большую-ж частку лекавых расьлін зьбіраюць у часе іх красаваньня—Сатурэя (Thymus wulgaris), бабоўнік (Menyanthes trifoliata),

баркун (Melilotus officinalis Desr.), дурнап'ян (Datura stramonium L.), ваўчкі (Bidens tripatitus L.), лантуш (Convallaria majalis L.), і шмат іншых. Аб вельмі каштоўнай лекавай расьліне—красаўцы (Atropa Belladonna L.), альбо бэлядоне вядома, што лісьці яе перад красаваньнем маюць у сабе ў 4 разы больш лекавых матэрый, чымся пасьля красаваньня. З сказанага вышэй зразумела, што каштоўным будзе толькі той збор лекавых траў, які будзе зроблены ў пэўны для данае расьліны час.

Якія часткі лекавых расьлін зьбіраць? Адны расьліны маюць лекавыя матэрыі *ўва ўсіх сваіх частках* і зьбіраюцца цалком, г. ё. з карэньнямі і лісьцямі, напр., падтыньнік (Chelidonium majus L.), сатурэя (Thymus vulgaris L.), браткі (Viola tricolor L.); іншыя толькі ў *лісьцях*, напр., падбел звычайны (Fussilago Farfara L.), бабоўнік, (Menyanthes trifoliata L.); красаўка (Atropa belladonna L.); *у кветках*, напр., рамонак (Matricaria Chamomilla L.), валошка (Centaurea Cyanus L.), мальва (Althaea rosea), ліпа (Tilia parviflora Ehr), дзіванна (Verbascum Thapsiforme Schrad); у *падземных частках:*—карэньнях—антэн (Althaea officinalis L.), дмухавец (Taraxacum vulgare Lam. Schk); у *сьцябло-корані*, напр., аер (Acorus Cabamus L.), пырнік (Triticum repens), дуброўка (Potentilla Tomentilla), валер'яна (Valeriana officinalis); *у каранёвых бародаўках*: (Colchicum autumnale L.), *зязюлька* (розн. від рода Orchts); *у пучкох*: ясакар (Populus); *у кары*: дуб (Quercus pedunculata Ehr), крушына (Rhamnus Frangula L.), і нарэшце, *у насеньні*. (Colchicum autumnale L.), дурнап'ян (Datura stramonium), блёкат (Hyoscyamus niger L.), гарчыца (Sinapis alba L. S. sigral). Ува ўсіх гэтых выпадках зьбіраюць толькі паказаныя часткі.

## Што трэба мець на ўвазе пры зборы, сушцы і захаваньні лекавых траў.

1. Нельга зьбіраць травы мокрыя ад дажджу альбо расы. Змочаныя вадою расьліны, як высахнуць будуць мець буры колер.

2. Ня трэба ў часе збору набіваць травы туга ў кашы альбо мяхі, бо травы могуць нагрэцца і потым пачарнець.

3. Не адкладаць сушку траў на другі дзень пасьля збору, дзеля таго, каб яны не зьляглісся і каб не сапсуўся іх колер.

4. Нельга сушыць травы і кветкі проста на сонцы, а лепш за ўсё ў цяньку, на гары, пад павецьцю, дзе ёсьць цяга. Травы ўкладаюцца тонкім пластам на якой-небудзь посьцілцы, толькі ня проста на зямлі. Каб яны хутчэй сохлі іх варушаць некалькі разоў на дзень. Сохнуць яны на працягу 2-4 дзён, у залежнасьці ад надвор'я. Калі кепскае надвор'е—можна сушыць у цёплым памяшканьні.

5. Сабраныя травы альбо часткі расьлін абавязкова павінны быць чыстымі, г. ё. да іх не павінны прымешвацца іншыя травы, бо, нават, калі іх і вельмі мала, яны псуюць збор і робяць яго нягодным для продажы.

6. Падземныя часткі—карэньні і сьцябло-корані зьбіраюць у вясну раней таго як распукаюцца лісьці, альбо ў восень, пасьля таго як яны зьвянуць. Сьвежыя падземныя часткі трэба абчысьціць ад зямлі, абмыць вадой і хутка абсушыць. Тоўстыя карэньні перад сушкаю разразаюць удоўж, нанізваюць на нітку і высушваюць на ветры. Такім-жа чынам сушаць і кару.

7. Ягады: маліна (Rubus Idaeus L.), чарніца (Vaccinuim Myrtillus L.), ядлоўнік (Juniperus communis L.) і інш. для сушкі зьбіраюць у сухое надвор'е і без галінак; як зялёныя, так і перасьпеўшыя ягады для сушкі нягодны. Сушку ягад робяць у простай печы, нягорача напале-

най, на рамах з нацягнутай тканінай альбо на рэшатах. У гарачыя дні іх можна сушыць пад жалезным дахам. Ягады не павінны падгараць, не павінны раскідацца на часткі і не павінны зьліпацца ў камякі. Колер ягад не павінен значна зьмяняцца.

8. Сухія лекавыя травы нятуга складаюцца ў мяшкі, кулі, скрыні, бочкі альбо кашы засланыя папераю, шчыльна зачыненыя, каб не праходзіў пыл, і захоўваюцца ў сухім месцы.

9. Нельга захоўваць розныя сухія расьліны, хаця-б і ў мяшкох, складаючы мяшкі адзін на другі, бо пры гэтым пахучыя расьліны аддадуць свой пах непахучым, і тавар будзе сапсуты.

10. Зьбіраць трэба ў кожнае расьліны толькі дакладна вызначаныя часткі і ў паказаны час.

11. Колер сухіх расьлін і іх частак павінен паходзіць на колер сьвежых расьлін. Лісьці павінны быць зялёнага колеру, кветкі павінны мець свой колер. Знадворны выгляд лекавага сырцу сьведчыць аб яго якасьцях. Добры выгляд сухога тавару будзе тады, калі пры зборы, сушцы і захаваньні выконваліся ўсе пералічаныя вышэй умовы.

I.

## Падбел звычайны.
## (Tussilago Farfara L.).

З красавіка месяца на месцах з гляістаю глебаю—па кручах яроў, рэчак, ля дарог нярэдка масамі цьвіце расьліна з сям'і складана-кветных (Compositae) з кошычкавіднымі жоўтымі кветкамі, падобнымі на дмухаўцы; ад апошніх падбел адрозьніваецца тым, што сьцябло яго покрыта бураватымі лушпінкамі і валаскамі. Лісьці зьяўляюцца пазьней, пасьля красаваньня. Яны растуць пры корані з хваставымі лісткамі, сарцавідна-ныркаватыя, выемчата-зубкаватыя, зьверху цёмна-зялёныя, гладкія, зьнізу апушаныя, нібы пакрытыя белым лямцам з вельмі выразнымі галоўнымі жылкамі.


Tussilago Farfara.

Калі прыкласьці ліст падбелу да шчакі яго паверхняю, дык ён здаецца халодным, а калі прыкласьці ісподам—дык ён здаецца цёплым. Адным бокам ён прыгравае, як родная маці, а з другога боку абдае холадам, як мачаха. Адсюль паходзіць яго расійская назва „маць-мачаха“ [1]).

Гэтая раньняя вясновая расьліна мае добра разьвітыя падземныя часткі, якія, аднак, вельмі цяжка выцягнуць з зямлі, не папсаваўшы іх, бо яны глыбака трымаюцца карэньнямі ў зямлі.

Кветкі расчынены толькі ў дзень. Пасьля пэрыоду красаваньня кошычкі зачыняюцца і зьвісаюць уніз. У такім стане яны знаходзяцца

[1]) Пры зборы гэтае расьліны трэба браць паасобнікі з кветкамі, а пазьней, калі зьявяцца лісьці—зьбіраць другі раз. Пры сушцы расьлін з кветкамі трэба мець на ўвазе, што належны колер расьліна захавае ў тым выпадку, калі сушка будзе зроблена хутка з частаю зьменаю паперы.

аж да высьпяваньня насеньня, калі кошычкі зноў падымаюцца ўверх, каб вецер рязьвеяў іх насеньне, якое, як і ў дмухаўца, мае апушок.

Кветкі зьбіраюцца з красавіка, а пасьля пэрыоду красаваньня зьбіраюць лісьці, якія сушаць у памяшканьні з добрай вэнтыляцыяй. Шэсьць частак сырых лісьцяў даюць адну частку сухіх. Захоўваюць іх у сухім месцы, асьцерагаючыся вільгаці і казюлек.

Ужываюцца кветкі і лісьці, як народныя лекі, ад залатухі і кашлю ў відзе воднага адвару.

II.

## Дмухавец лекавы.
## (Taraxacum vulgare (Lam.) Schk).

Шматгадовая расьліна, трапляецца паўсюды на сенажацях, палёх, у садох, каля дарог і каля хат. Гэта адна з рана цьвітучых расьлін.

Ад сьцябло-кораня йдзе простастаўны галоўны корань таўшчынёю ў палец; пасьля распуканьня пучкоў з пачатку мая разьвіваюцца пры карэньнях акружкі лісьцяў і сьледам за імі бязьлісныя, пустыя ў сярэдзіне стрэлкі, на версе якіх бачым кошычкі з масаю дробных жоўтых кветак. Лісьці перкавата-надрэзаныя з няправільнымі, нібы выгрызенымі часткамі, з чырванаватай і іншы раз валасістаю зьнізу жылкаю. Пустыя ў сярэдзіне стрэлкі ў верхняй частцы шарсьцістыя. Калі стрэлку сарваць, дык з яе выцякае малочна-белы сок. Плады з доўгім носікам і чубком накшталт парасона разьлятаюцца ва ўсе бакі, калі дзьмухнуць на кошычак з дасьпелымі пладамі, з чым добра знаёмы дзеці.



Taraxacum vulgare

У мэдыцыне ўжываецца корань дмухаўца сабраны разам з лісьцямі да пэрыоду красаваньня, пачынаючы з канца красавіка альбо ў восень, у верасьні. У гэты час карэньні асабліва багаты на інулін і ўжываюцца пры хваробе жывата на вольнасьць, а парашок з кораня—для пілюльнай масы. У народнай мэдыцыне карыстаюцца адварам на вольнасьць пры нястраўнасьці і завалах.

Збор *травы дмухаўца* (г. ё. карэньняў з лісьцямі) нецяжкі. Выкапаныя карэньні абмываюць вадой ад зямлі, хутка абсушваюць на ветры і разьвешваюць для сушкі ў цяньку на працягнутых вяроўках альбо раскладаюць нятоўстым пластам на подсьцілках. На 100 частак сырога матар'ялу атрымліваецца каля 35 частак сухога кораня.

Сухія карэньні знадворку бываюць чырванавата-бурага колеру, а ўнутры—белага. Даўжынёю ад $^1/_4$—$^1/_2$ аршына пры таўшчыні ад $^1/_4$—$^3/_8$ вяршка.

Лісьці дмухаўца, перш выбеленыя, ужываюцца ў страву, як салата. Дзеля гэтага плады высяваюць у восень на грады, а ў вясну, калі разаўюцца акружкі лісьцяў іх засыпаюць зямлёю дзеля таго, каб лісьці пабялелі. Таксама можна рабіць і з дзікарослымі лісьцямі дмухаўца. Каля вялікіх гарадоў існуе промысел выганкі лісьцяў дмухаўца для салаты.

У першы год зьбіраюць толькі лісьці, а на другі год у восень зьбіраюць карэньні.

У гэткай форме можа быць выгоднай і культура дмухаўца, бо карэньні яго раней вывозіліся заграніцу.

III.

## Лантуш майскі.

## (Convallaria majalis L.).

Трапляецца лантуш у лясох і ярох на у меру вільготнай пяшчанай глебе. Расьліна гэта шматгадовая. У вясну ад схаванага ў зямлі сьцябло-кораня вырастаюць два лісты, а потым зьяўляецца стрэлка з гронкаю белых пахучых кветак. Кветкавая стрэлка разам з вузкімі часткамі лісьцяў абкружана плеўкавымі, у ліку 3—6, похвамі. Плод—кулявідная ягада колеру чырвонага ляку. Красуе з канца красавіка, у маі. Лантуш—расьліна атрутная. Мае ў сабе матэрыі, узмацняючыя дзейнасьць сэрца. У мэдыцыне ўжываюцца сьвежыя, ня сухія кветкі, якія заліваюць сьпірытусам, альбо перасыпаюць сьвежыя кветкі сольлю для захаваньня, таксама ўжываюцца і высушаныя кветкі. З сьвежых кветак перагонкаю здабываюць пахучы этэрны алей, які ідзе на выраб парфумы.



Лантуш.

Раньняе красаваньне лантуша, прыгожы выгляд яго пахучых кветак зрабілі тое, што гэтаю расьлінаю спрытна гандлююць у буйных гарадох. Дзеля гандлю ў садаводзтвах спэцыяльна займаюцца раньняй выганкай лантуша. Разводзяць яго наградах, высаджваючы ў вясну альбо ў восень кавалкі яго сьцябло-кораняў з вочкамі, г. ё. з пучкамі, з якіх у вясну разаўюцца надземныя часткі. У гэтым выпадку ў першы год разьвіваюцца толькі лісьці, а кветкі зьяўляюцца на другі год пасьля высадкі.

Попыт на кветкі лантуша вельмі значны, дзеля чаго вельмі карысна іх зьбіраць.

Кветкі зьбіраюць у сухое надвор'е ў маі. Зьбіраюць зусім расьцьвіўшыя

кветкі з кветкавым сьцяблом ніжэй апошняе кветкі на 1—$1^1/_2$ сантымэтры. Пры зборы клапоцяцца аб тым, каб кветкі ня былі зьмяты—гэта іх робіць нягоднымі, бо пры далейшай сушцы яны бурэюць. Для сушкі кветкі лантуша рассыпаюць тонкім пластам на чыстых посьцілках або на рамах з нацягнутым палатном на гары альбо ў іншым месцы з добрай вэнтыляцыяй, але толькі не на сонцы. У часе сушкі для хутчэйшага і больш роўнамернага высыханьня пласты паціху пераварочваюць. Ссохшыя кветкі губляюць свой пах і набываюць цытрынава-жоўты колер. Пабурэўшыя кветкі выбіраюць і выкідаюць, як нягодныя. З 100 частак сьвежых кветак атрымліваецца 8-9 частак сухіх. Пасьля сушкі кветкі аддзяляюць ад кветкавых стрэлак, асьцярожна праціраючы праз грохат, альбо адрываючы кветкі рукамі. Потым адсяваюць ад пылу і абломкаў і захоўваюць у высланых бляшанках, або скрынках.





О. Полянская.

# Беларускія жоўтазелі (Genista).

Жоўтазелі належаць да сям'і бабовых і адрозьніваюцца ад усіх іншых родаў гэтай сям'і тым, што маюць простую пабудову лісьця. Гэты нявысокі (30—60 sm.) хмызьнячок мае жоўтыя краскі падобныя да красак зяноўца. Жоўтазель лёгка можна адрозьніць ад зяноўца (cytisus) па форме і па будове лісьця: у жоўтазеля лісьце простае, эліптычнай формы, у зяноўца-ж складана-патройнае. У Беларусі вельмі часта можна спаткаць яшчэ адзін від хмызьняку з жоўтымі краскамі з сям'і бабовых—„жоўтую акацыю", або курасону (caradana arborescens), але і яе таксама можна лёгка адрозьніць ад жоўтазеля,—лісьці „жоўтай акацыі" перыста-складаныя і складаюцца з многіх лісточкаў; апроч гэтага, „жоўтай акацыі" ў дзікім відзе няма ў нас на Беларусі; яна расьце ў нас толькі ў гародчыках, парках, садох.

На Беларусі жоўтазель расьце ў двух відах: жоўтазель хварбоўны (genista tinctoria) і жоўтазель нямецкі (genista germanica L.). Жоўтыя краскі абодвух відаў жоўтазеля сабраны ў суквецьці, якія маюць выгляд доўгай простай гронкі. Плод жоўтазеля—струк [1]).

Хварбоўны жоўтазель адрозьніваецца ад нямецкага тым, што першы ня мае калючак, лісьце і стручкі голыя; у нямецкім-жа жоўтазелі ніжнія галінкі бяз лісьця і струкі кашлата-валасатыя. Больш сустракаецца ў Беларусі хварбоўны жоўтазель; назва гэта дадзена з тэй прычыны, што з гэтага віду жоўтазеля вырабляюць жоўтую хварбу. Расьце ён большай часткай у барох паўднёвай Беларусі; у сярэдняй сустракаецца вельмі рэдка, а ў поўночнай Беларусі гэтых расьлін зусім няма.

У вялікай колькасьці жоўтазель расьце ў стэпавай паласе Эўропейскай Расіі; у нас-жа, на Беларусі, жоўтазель зьяўляецца паўднёвай флёрай хмызьняковых стэпаў. На Беларусі жоўтазель расьце некалькі далей на поўнач, чым другі наш стэпавы хмызьняк—зяновец (cytisus). Паўночная мяжа распаўсюджаньня жаўтазеля ідзе прыблізна па лініі Менск—Горкі. Жоўтазель хварбоўны і зяновец двухкветнікова расьце ў вялікай колькасьці ў паўднёвай Беларусі і ўтварае характэрную для апошніх асоцыяцыю: сасновыя бары бяз прымешкі ельніку, але з пад-

[1]) Струк у сэнсе батанічнага разуменьня—сухі плод; складаецца ён з дзьвюх палавінак; гарох таксама мае струк. Лускаўка (siligna)—гэта такі самы плод, як і струк, але адрозьніваецца ад апошняга тым, што першы ня мае перагародак, а лускаўка мае перагародкі, напрыклад, як у расьлін: рэдзькі, бручкі, моркаўкі, капусты.




**Жоўтазель хварбоўны.** Зьлева направа: 1) Уздоўжны разрэз тычачкі і слупка. 2) Галінка з кветкамі. 3) Галінка з плодам.

лескам стэпавага поўхмызьняку—жоўтазеля і зяноўцу. Другі від жоўтазеля—нямецкі, сустракаецца прыблізна ў той-жа мясцовасьці, дзе і жоўтазель хварбоўны, але толькі ў значна меншай колькасьці.

Вельмі пажадана запісаць усе месцы знахаджэньня нямецкага жоўтазеля, сабраць некалькі экзэмпляраў і засушыць, як узор для зельніка. Важна таксама ўстанавіць пэўную мяжу распаўдсюджаньня жоўтазеля хварбоўнага, прычым трэба адзначыць самыя паўночныя пункты, дзе ён яшчэ расьце дзе-ні-дзе дзічкаю.

## Беларускія зяноўцы.

Зяноўцамі называюцца нявысокія хмызьнякі з складанымі патройнымі лісьцямі і досыць буйнымі (2—2½ сант.) жоўтымі кветкамі. Зяноўцы належаць да тэй-жа сям'і струковых, да якой належаць такія, усім вядомыя расьліны, як боб, гарох і інш. Дзеля гэтага, кветкі зяноўца пабудаваны амаль што так, як кветкі гэтых расьлін.

Вяночак кветкі зяноўца складаецца з 5 асобных пялёстак, з якіх 4 парныя, адзін самы большы, няпарны; падвяночак маленькі, зрослапялёсткавы, які мае 5 зубчыкаў; тычачак 10, якія зрасьліся ніткамі ў агульны ліставы пласток; плодазавязь верхняя, шыйка адна.

У Беларусі часьцей за ўсё сустракаюцца зяноўцы двухкветкавыя (Cytisus biflorus[1]). Вышыня яго кустоў 60—100 сант., кветкі яго разьмешчаны па дзьве (радзей па 3—4) у васнове бакавога лісьця. Плод зяноўца—струк, калі ўжо дасьпее бывае чорны, пакрыты шаўкавістымі валаскамі. Зяновец двухкветкавы—зьяўляецца ў флёры Беларусі прадстаўніком расьлін паўднёвага тыпу. Ён распаўсюджаны, галоўным чынам, у паўднёвай палове Эўропейскай Расіі і зьяўляецца галоўным членам так званага хмызьняковага стэпу. У Беларусі ён заходзіць на поўнач прыблізна толькі да шыраты Бабруйску[2]) і расьце тут звычайна на цёплай пяшчанай глебе сасновых бароў. Для дакладнага азначэньня паўночнай мяжы распаўсюджаньня гэтага паўднёвага госьця пажадана, каб аматары прыроды дакладна запісвалі яго месцазнаходжаньне ў сярэдняй частцы Беларусі, дзе ён паступова зьнікае на поўнач. На поўдні-ж Беларусі, у Мазырскай акрузе, ён зьяўляецца самым звычайным падлескам сасновых бароў.

Далёка радзей сустракаецца ў лясох Беларусі другі від зяноўца—Cytisus nigricans—зяновец, які чарнее, названы так дзеля таго, што ён пры сушцы чарнее. Ён розьніцца ад папярэдняга зяноўца тым, што кветкі яго сабраны ў суквецьце: доўгую, шматкветкавую простастаўную гронку.

Зяновец, які чарнее, распаўсюджаны толькі ў самай заходняй частцы Беларусі (напр., у ваколіцах Менску) і сустракаецца там даволі рэдка. Дужа важна адзначыць яго месцазнаходжаньне і засушыць зельнікавыя экзэмпляры. Апроч формы суквецьця яго можна адрозьніць ад зяноўца двухкветкавага яшчэ і па велічыні; вышыня яго дасягае ня больш 60 сант.

Урэшце, мясцамі можна сустрэць яшчэ адзін гатунак зяноўца—Cytisus scoparius—зяновец пруткавідны. Гэта расьліна заходня-эўро-

---

[1]) У некаторых азначніках ён сустракаецца таксама пад назвамі Cytisus ruthenicus і Cytisus ratisbonensis Schaef; гэта яго батаніч. сынонімы.

[2]) Прыблізна да лініі: Слуцак—Бабруйск—Клімавічы.



**Зяновец двухкветкавы.** Cytisus biflorus [L'Herit: 1) Галінка ў кветках. 2) Галінка з пладамі.

пейская, і ўсходняя мяжа яго натуральнага распаўсюджаньня праходзіць па прывісьленскай краіне (быўшае царства польскае). Усё-ж у Беларусі ён сустракаецца дзе-ні-дзе ў выглядзе адзічэлай расьліны[1]) як кажуць тутэйшыя лясьнічыя, гэты зяновец развадзіўся ў лясох панамі дзеля прыкормкі зайцоў у зіму, бо яго галіны заставаліся сакавітымі і зялёнымі праз усю зіму. Асаблівымі адзнакамі гэтага адзічэлага ў нас эўропейскага госьця зьяўляюцца наступныя: кветкі яго разьмешчаны па аднэй на кутох лісьцяў, а галіны яго маюць выгляд дубцоў з выпуклымі кантамі, лісьце мала разьвітае, а струкі надта плоскія і шырокія (1 сант. шыр.) і пакрыты валаскамі толькі на рубцох. Гэты апошні зяновец дасягае найвялікшай вышыні з усіх раней апісаных (да $1^1/_2$ м.).

Кветкі ўсіх зяноўцаў надта мядовыя. Народная назва зяноўца ў Мазырскай акрузе „зноваць“; урэшце, гэтак сама часамі называюць і жоўтазель (genista tinctoria).




[1]) Я асабіста знаходзіла Cytisus scoparius у двух месцах: 1) Бабруйскай акрузе, недалёка ад вёскі Жорнаўка, 2) у Мазырскай акрузе, у ваколіцах Нароўлю.




# Бюлетэнь надвор'я па БССР за лістапад 1925 году.

Агляд сыноптычных карт, выданых Галоўнай Геофізычнай Обсэрваторыяй і Украінскім Мэтэоролёгічным Бюро, і разам з гэтым вывучэньне нагляданьняў мэтэоролёгічных станцый БССР даюць такі малюнак ходу дынамічных процэсаў атмосфэры ў Эўропе ды тых зьмен надвор'я, якія адбываліся ў БССР і былі выкліканы разьвіцьцём гэтых процэсаў.

У самым пачатку лістапада 1925 г. паўночная падканцавосная краіна вялікага ціску дала магутную галіну на поўдзень праз Паўночную Скандынавію на контынэнт Эўропы. Разьвіваючыся за кошт падканцавоснае краіны, гэтая галіна хутка расла і пашыралася на поўдзень, але затым адасобілася ў самастойны моцны контынэнтавы антыцыклён, аддзяліўшыся ад матчынай краіны. 3-га лістапада гэты антыцыклён пакрываў блізка што ўсю эўропейскую частку СССР, а 5-га—асяродак яго ўжо перасунуўся за Каспійскае возера. Зразумела, што адзначаная галіна высокага ціску і ўтвораны з яе антыцыклён, разьвіваючыся і пасоўваючыся на поўдзень і ўсход, ня мог не захапіць і тэрыторыі БССР, выклікаўшы тут адпаведныя зьмены мэтэоролёгічных элемэнтаў. Папершае, яшчэ з канца кастрычніка, пад уплывам праходу цераз Беларусь ядра вялікага ціску, баромэтр пачаў хутка падымацца, а з 3-га лістапада—таксама хутка падаць. У першыя два дні месяца наглядаліся слабыя паўночныя вятры, затым іх раптоўна замянілі такія-ж слабыя паўднёвыя і паўднёва-заходнія. Адпаведна гэтаму адбываліся зьмены тэмпэратуры. Да 4-га лістапада сярэдняя начадзенная тэмпэратура няўхільна зьмяншалася і 3-га чысла блізка што па ўсёй БССР зьнізілася да—5°. Пасьля гэтага яна пачала даволі хутка падвышацца, і ўжо 5-га паднялася да+4°—+6°. Найніжэйшая тэмпэратура наглядалася ў ноч з 2-га на 3-яе, калі мароз дасягаў да—9°,—13° (Стукачова—13,2°, Новае-Каралёва—10,5°, Мар'іна-Горка—8,8°, Турск—9,5°).

Разгледжаныя процэсы ў атмосфэры (пераход галіны вялікага ціску з поўначы на контынэнт і разьвіцьцё яе ў антыцыклён) павінны былі затрымаць на некалькі дзён рух мінімумаў з Заходняй Эўропы на ўсход удоўж паўночных берагоў нашае часткі сьвету. Аднак, гэты рух зараз-жа аднавіўся, калі антыцыклён прасунуўся на паўднёвы ўсход. З сыноптычных карт лёгка ўбачыць, што ўжо 3-га лістапада ўсьлед за антыцыклёнам пасоўваецца на ўсход ад берагоў Ангельшчыны невялікі мінімум. 5-га раніцай ён быў ужо моц-

ным цыклёнам з асяродкам у межах Пскоўскае губэрні. Уплыў яго на надвор'е ў БССР пачаў выяўляцца, пачынаючы з 4-га і скончыўся 8-га. Дзякуючы яму, пасьля 5-га пачалося паступовае зьніжэньне тэмпэратуры і пачалі выпадаць ападкі. Сярэдняя ночадзенная тэмпэратура паветра 8—9 лістапада дашла да 0°, а ў паўночных акругах апусьцілася яшчэ ніжэй.

Зьніжэньню тэмпэратуры ў гэтыя дні дапамог новы цыклён, які ў гэты час ішоў з цэнтральнай Эўропы і захапіў тэрыторыю БССР сваёй паўночнай часткай. Затым, па меры пераходу гэтых цыклёнаў, у сувязі з заменай халодных вятроў цяплейшымі, тэмпэратура паветра пачала ўзрастаць аж да 11 чысла.

Ападкі ў працягу першай дэкады лістапада ў сувязі з праходам цыклёнаў падалі ў стане дажджу 4—5 і 7—10, а ў стане сьнегу 4-га (у паўночнай палове БССР) і 7—9 (па ўсёй тэрыторыі рэспублікі).

Як бачым, у працягу ўсёй другой паловы першай дэкады ў большай частцы Эўропы і ў тым ліку ў БССР панаваў цыклёнічны тып надвор'я. Гэта тлумачыцца тым, што ў гэты час Эўропа знаходзілася ў межах краіны зьніжанага ціску, а ў такіх умовах заўсёды лёгка ўтвараюцца, свабодна прасоўваюцца і далей узмацняюцца цыклёны.

У самым пачатку другой дэкады адбылася зьмена тыпу надвор'я. Гэта было выклікана тым, што адбылася зьмена барычнага рэльефу, і Эўропа апынулася ў краіне павышанага ціску, а значыць, утварыліся ўмовы, якія спрыялі разьвіцьцю тут антыцыклёнічнай дзейнасьці. У працягу ўсёй дэкады гэтая дзейнасьць была галоўным фактарам надвор'я ў большай частцы Эўропы і ў тым ліку на Беларусі. Ход мэтэоролёгічных элемэнтаў у БССР за гэты час выразна падкрэсьлівае гэтую сувязь і залежнасьць надвор'я ад антыцыклёнічнай дзейнасьці. Баромэтрычны ціск, пачынаючы ад 10-га лістапада, пачаў хутка падвышацца і дасягнуў максымуму 12-га чысла. Трохі зьнізіўшыся пасьля гэтага, ён, аднак, да самага канца дэкады заставаўся досыць вялікім. Заходнія і паўночна-заходнія вятры, якія панавалі 11—12 чысла, выклікалі зьніжэньне ночадзеннай тэмпэратуры паветра, якая 12—13 дасягнула да—3,°—4°. У ноч на 13-е ў паўночных акругах БССР тэмпэратура зьнізілася да—8,1° (Новае-Каралёва). Характэрна за гэты час (з 11 да 16) таксама тое, што ападкаў блізка зусім ня было. Такое надвор'е зьяўляецца тыповым для мясцовасьці, на якую з захаду насоўваецца антыцыклён. Запраўды, як сьведчаць сыноптычныя карты, у гэты час праз БССР з Паўночнай Нямеччыны праходзіў антыцыклён. Перашоўшы праз БССР сваім асяродкам і кіруючыся далей на паўднёвы ўсход, ён мусіў далей захапіць рэспубліку сваёй паўночна-заходняй часткай. Роўналежна з гэтым адбываецца зьмена надвор'я: ціск паветра пачынае патроху зьніжацца, вятры робяцца цёплымі (паўднёвымі ды паўднёва-ўсходнімі), сярэдняя ночадзенная тэмпэратура бязупынна ўзрастае. 15—16 яна дасягае+3—+5. Ападкі, як і раней, адсутнічаюць.

15 лістапада ў Заходняй Эўропе пачаў разьвівацца новы антыцыклён. Уплыў яго на надвор'е БССР робіцца прыметным ужо на наступны дзень і выяўляецца ў павольным узрастаньні баромэтрычнага ціску аж да 19-га чысла. З тэй прычыны, што антыцыклён ахапляў БССР спачатку паўночна-ўсходняй часткай (у Надбалтыцкім краі ў гэты час знаходзіўся невялікі цыклён), а затым паўднёва-ўсходняй, дык у БССР спачатку панавалі заходнія вятры, а 18—19 чысла—паўночна-заходнія. Панаваньне апошніх выклікала зьніжэньне сярэдняй ночадзеннай тэм-

пэратуры, якая 18—19 зьнізілася да 0°. Ападкі ў гэтыя дні падалі толькі 15—17 і былі выкліканы невялічкім цыклёнам, які праходзіў на поўноч ад БССР.

У канцы 2-ой дэкады лістапада ў Эўропе зноў адбылася зьмена барычнага рэльефу. Увесь эўрапейскі контынэнт апынуўся ў раёне зьніжанага ціску, у раёне інтэнсыўнага разьвіцьця цыклёнічнай дзейнасьці. Сыноптычныя карты за апошнія 10 дзён лістапада ясна гавораць, што БССР увесь гэты час знаходзілася пад беспасрэдным уплывам цыклёнаў, якія кіраваліся (агулам кажучы) на ўсход. Тыя невялікія зьмены надвор'я, якія тут наглядаліся за гэты час, адбываліся толькі ў залежнасьці ад таго, што Беларусь пераходзіла з адной часткі цыклёну ў другую. Агульны цыклёнічны характар надвор'я за ўвесь час заставаўся адзін і той самы. Баромэтрычны ціск, раптоўна зьнізіўшыся 19—20 чысла болей як на 20 мілім., заставаўся такім ужо да канца месяца, лёгка хістаючыся толькі ў сувязі з праходам цыклёнаў. Ветры ў працягу ўсёй трэцяй дэкады панавалі паўночна-заходнія, халодныя. Цёплыя (паўднёва-заходнія) вятры наглядаліся толькі 23-га і 26-га Зразумела, што сярэдняя ночадзенная тэмпэратура паветра ўвесь гэты час блізка што бесьперарыўна (за выключэньнем 23—24 і 26-га) спадала. 29-га яна паўсюды зьнізілася ніжэй—10°. Асабліва халоднай была ноч перад гэтым днём, калі мароз дасягаў—20° (Менск—17,1°, Турск—20,0°, Новае-Каралёва—15,1°). У сувязі з паніжэньнем тэмпэратуры ападкі падалі бадай што выключна ў стане сьнегу. Лік дзён з сьнегам у розных акругах быў розным, але ў агульным 5—9.

Звычайна лістапад на Беларусі адзначаецца вялікай хмарнасьцю. Так было і ў 1925 годзе. У поўнай меры ясных дзён блізка зусім ня было.

Ветры пераважвалі даволі халодныя: заходнія і паўночна-заходнія замест звычайных у лістападзе—паўднёвых ды паўднёва-заходніх. У выніку гэтага бязмала паўсюды мы бачым адхіленьне ад нормы ў бок паніжэньня сярэдняй месячнай тэмпэратуры паветра. Найцяплей было ў сярэдзіне месяца (у другую дэкаду), а найхаладней у вапошні тыдзень.

За ўвесь месяц ня было аніводнага дня, калі-б тэмпэратура паветра (па максымальным тэрмомэтры) падымалася-б вышэй за +10° (11-га чысла ў Горках было +10,4°); затое ў ночы, асабліва ў канцы месяца, яна часта вельмі значна зьніжалася (у Менску да—17,1°, у Турску да—20,0°).

Дзён без адлігі было за месяц каля 9, а з марозам—каля 20. Найхаладнейшымі днямі былі 1—3, 7—9, 12—13, 17—19 і ўвесь (пачынаючы з 21-га) канец месяца. Сярэдняя ночадзенная тэмпэратура паветра ў гэтыя дні звычайна апускалася на некалькі градусаў ніжэй за нуль і, зразумела, выклікала выпаданьне ападкаў у стане сьнегу. Але з тэй прычыны, што кароткія пэрыоды холаду заўсёды замяняліся некалькі адліжнымі днямі, сьнег ня мог доўга затрымацца на палёх і хутка раставаў. Толькі ў канцы месяца, калі ўсталявалася халоднае надвор'е на працяглы час, сьнег мог утрымацца з тыдзень, так што ўтварылася санная дарога. Аднак, вышыня ўтворанага такім чынам сьнегавога насьцілу была ўсё-ж даволі малая, хістаючыся ў розных месцах ад 3 да 20 сантымэтраў. Найвялікшую таўшчыню сьнегавы насьціл меў на паўночным усходзе рэспублікі, што трэба лічыць зусім нормальным.

## Мэтэоролёгічная характарыстыка БССР за лістапад 1925 г., паводле сярэдніх за дэкады і за месяц

| Назвы станцый | Акруга | Ціск атмосфэры ў мілім. за мес. | Тэмпэратура паветра C°: 1-я дэкада | 2-я дэкада | 3-я дэкада | за месяц | Адхіленьне ад нормы | Сума ападкаў у мілім.: 1-я дэкада | 2-я дэкада | 3-я дэкада | за месяц | Адхілен. ападкаў ад нормы ў %% | Лік дзён за месяц: з ападк. | з сьнег. | з мяцеліцамі | з мароз. | без адліг па макс. тэрм. | Хмарнасных за месяц | Пераважны кірун. ветру за месяц |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Стукачова | Полацкая | — | —0.9 | 1.1 | —4.7 | —1.5 | —0.8 | 20.6 | 0.3 | 2.2 | 23.1 | —44 | 18 | 12 | — | 22 | 11 | 7.8 | W, NW |
| Новае-Коралёва | Віцебская | 758.8 | —1.2 | 0.3 | —5.6 | —2.2 | —0.9 | 35.9 | 9.7 | 14.9 | 60.5 | +12 | 17 | 12 | 1 | 22 | 11 | 7.8 | W, NW |
| Лускінопаль | „ | — | — | — | — | — | — | 31.6 | 9.2 | 6.4 | 47.2 | — 6 | 15 | 10 | 1 | — | — | — | — |
| Фатынь | Барысаўская | — | — | — | — | — | — | 32.0 | 5.5 | 3.3 | 40.8 | —19 | 14 | 7 | — | — | — | — | — |
| Княжае | Смаленск. г. | — | — | — | — | — | — | 24.7 | 15.0 | 7.2 | 46.9 | +30 | 18 | 12 | 3 | — | — | — | — |
| Горкі | Аршанская | 759.1 | —0.4 | 1.0 | —4.6 | —1.3 | —0.3 | 28.4 | 9.6 | 14.6 | 52.6 | +35 | 16 | 13 | 1 | 23 | 8 | 7.5 | Ціха, W, NW |
| Менск | Менская | 760.4 | 0.7 | 1.7 | —4.0 | —0.5 | —0.4 | 28.1 | 5.8 | 5.0 | 38.9 | —24 | 18 | 12 | 2 | 19 | 7 | 8.1 | NW, WNW |
| Мар'іна Горка | „ | 759.6 | 1.1 | 2.1 | —3.5 | —0.1 | —0.1 | 27.2 | 7.9 | 4.0 | 39.1 | — 2 | 21 | 9 | 1 | 22 | 6 | 7.7 | WNW, SSE |
| Кукшэвічы | „ | — | — | — | — | — | — | 33.6 | 7.0 | 6.6 | 47.2 | +15 | 20 | 9 | 1 | — | — | — | — |
| Магілеў | Магілеўская | 759.4 | 0.1 | 1.5 | —3.9 | —0.7 | —0.3 | 28.8 | 7.9 | 4.2 | 40.9 | —20 | 15 | 8 | — | 21 | — | 8.0 | WNW, NNW |
| Жорнаўка | Бабруйская | — | 1.1 | 2.1 | —3.4 | —0.1 | 0.0 | 33.0 | 4.9 | 3.0 | 40.9 | — 8 | 18 | 6 | 1 | 19 | — | 7.7 | W, NW |
| Турск | „ | — | 1.7 | 2.2 | —3.6 | 0.1 | +0.1 | 25.8 | 4.2 | 4.7 | 34.7 | —15 | 15 | 5 | 3 | 20 | — | 7.9 | W, SW |
| Салонае | „ | — | — | — | — | — | — | 24.4 | 4.6 | 20.7 | 49.7 | +38 | 20 | 9 | 3 | — | — | — | — |
| Сьвіслач | „ | — | — | — | — | — | — | 30.1 | 5.8 | 3.6 | 39.5 | + 5 | 21 | 5 | — | — | — | — | — |
| Андрэеўка | „ | — | — | — | — | — | — | 18.2 | 2.2 | 21.1 | 41.5 | + 3 | 17 | 7 | — | — | — | — | — |
| Прытыка | „ | — | — | — | — | — | — | 31.7 | 4.9 | 5.4 | 42.0 | — 7 | 13 | 7 | — | — | — | — | — |
| Капацэвічы | Слуцкая | — | — | — | — | — | — | 17.1 | 1.7 | 7.7 | 26.5 | —33 | 12 | 7 | — | — | — | — | — |
| х. Морын | „ | — | — | — | — | — | — | 24.1 | 2.4 | 7.3 | 33.8 | —16 | 11 | 6 | — | — | — | — | — |
| м. Любань | „ | — | — | — | — | — | — | 25.0 | 2.9 | 3.6 | 31.5 | —21 | 8 | 5 | — | — | — | — | — |
| Ямінск | „ | — | — | — | — | — | — | 11.8 | 1.4 | 4.2 | 17.4 | —54 | 16 | 6 | — | — | — | — | — |
| Морач | „ | — | — | — | — | — | — | 20.4 | 3.2 | 8.2 | 31.8 | —21 | 24 | 6 | — | — | — | — | — |
| д. Новадворцы | „ | — | — | — | — | — | — | 27.3 | 2.0 | 2.6 | 31.9 | —19 | 19 | 9 | — | — | — | — | — |
| Старобін | „ | — | — | — | — | — | — | 19.1 | 1.9 | 5.4 | 26.4 | —34 | 20 | 5 | — | — | — | — | — |
| д. Вярхуцін | „ | — | — | — | — | — | — | 28.0 | 3.3 | 2.8 | 34.1 | —19 | 8 | 5 | — | — | — | — | — |
| Ніжын | „ | — | — | — | — | — | — | 18.0 | 2.6 | 7.9 | 28.5 | —25 | 12 | ? | — | — | — | — | — |
| Лучыцы | Мазырская | — | — | — | — | — | — | 20.4 | 8.7 | 12.5 | 41.6 | +10 | 19 | 11 | — | — | — | — | — |
| Баравая-Печ | „ | — | — | — | — | — | — | 20.4 | 3.2 | 18.9 | 42.5 | + 5 | 15 | 5 | — | — | — | — | — |
| Ляхавічы | „ | — | — | — | — | — | — | 17.3 | 4.7 | 6.7 | 28.7 | —24 | 13 | 4 | — | — | — | — | — |
| Майсеевічы | „ | — | — | — | — | — | — | 20.6 | 2.5 | 6.9 | 30.0 | —17 | 20 | 11 | — | — | — | — | — |

У сувязі з параўнаўча трывалым надвор'ем, якое пачалося ў канцы месяца, усе рэкі, за выключэньнем Дзьвіны, пакрыліся лёдам (у пэрыод з 27-га да 30-га). Невялічкія рэчкі ды ручайкі, а таксама вазёры (Асьвейскае) замерзьлі яшчэ у пачатку месяца.

Хаця ападкі ў стане сьнегу і дажджу выпадалі часта, але заўсёды давалі малую колькасьць вады за ночадзеньне. За першыя 10 дзён ападкаў нападала болей, як за абедзьве апошнія дэкады разам. Наагул-жа ападкаў было прыблізна нормальная колькасьць у Віцебскай, Бабруйскай, Аршанскай і Мазырскай акругах, а ў іншых частках БССР іх выпала на 10—20 проц. менш ад нормы.

Стан руні азіміны, паводле даных Цэнтральнай Статыстычнай Управы, на 1 сьнежня быў такім самым, як і на 1 лістапада (глядзі „Наш Край“ № 1 (4) стар. 36.).

## Болід.

Палёт боліда назірала ў г. Віцебску член Віцебскага Акруговага Таварыства Краязнаўства З. М. Аптэр. „Праходзячы па мосьце 4-га сьнежня 1925 г.,—піша т. Аптэр,—я заўважыла ў 5 гадзін 50 мін. палёт



боліда ў абшары сузор'я Auriqae. Месца дзе зьявіўся болід: 2=82,5°, б=30,0°. Месца, дзе зьнік: 2=61,9°, б=43,7°. Яркасьць боліда: 5 з. велічыні. Працяжнасьць палёту—10 сэк. Сьлед відаць быў 7 сэк. Колер боліда—залацісты з спэктральнымі адценьнямі.



# Матар'ялы з месц.

К. Арол.

## Чырвона-Зорская паперня і яе праца.

*(Ля Чашнікаў).*

### Умовы пабудовы фабрыкі.

Старое насельніцтва гэтай мясцовасьці пра ўзбудаваньне паперні кажа: прыродныя ўмовы—вусьце р. Вольшанкі, якая ўпадае ў р. Вулянку,—дужа даўно, мы ня помнім калі, далі магчымасьць пабудаваць тут млын; мы помнім, які тут быў добры млын-крупчатка. Належыў гэты млын да маёнтку Смалянцы, дзе панаваў Валадковіч, які прыходзіўся дзядзькам Іванскаму пану Валадковічу. Смалянецкі пан памёр і Смалянцы перашлі да маёнтку Іванск—да пляменьніка. Перашоў і млын, дзе цяпер і фабрыка Ч. З. Новы гаспадар быў малады, здатны, з гандлёвымі нахіламі. Прыродныя ўмовы—сіла вады, вялікія лясы, якія давалі сырэц, накіроўваюць яго на думку перабудаваць млын на картонны завод, што ён і зрабіў у 1883 годзе. Завод быў, можна сказаць, саматужны (кустарны), бо выраблены картон сушыўся на сонцы. Аддаленасьць мясцовасьці ад цэнтраў, наагул глухое месца, даюць гаспадару магчымасьць мець танныя рабочыя рукі. Адсутнасьць чыгункі не зьяўляецца перашкодай у разьвіцьці вытворчасьці, і яна пашыраецца. Будуецца паперня „Скіна"—ставіцца першая паперная машына ў 1896 г. Назву фабрыкі „Скіна" гаспадар дае ў чэсьць сваёй пляменьніцы Скіны.

### Першыя работнікі.

Першымі рабочымі пры заснаваньні фабрыкі зьяўляюцца палякі, успамагальнымі рабочымі—мясцовыя. Галоўныя майстры—немцы і палякі, служачыя—палякі, кантора вядзе ўсё дзелаводзтва на польскай мове—па нацыянальнасьці гаспадара.

### Падсобнае аддзяленьне „Вішкавічы".

Мы кажам, што фабрыка пашыраецца. Яе пашырэньне відаць і з таго, што яе падсобнае аддзяленьне—дрэва-масавы завод будуецца каля 1902 г. у вёсцы Вішкавічы ў адлегласьці 5 вёрст ад фабрыкі, адкуль драўляная маса па р. Вольшанцы падвозіцца да фабрыкі.

Гэты завод працуе да зачыненьня фабрыкі ў 1915 г., калі галоўныя часьці машын адтуль вывозяцца на фабрыку, а апошнія ў гады рэволюцыі нішчацца. Каменны будынак быўшага дрэва-масавага завода, падсобнага да фабрыкі, у в. Вішкавічы стаіць і цяпер (у вапошні год там збудован вадзяны млын).

### 2-я паперная машына і 3-я.

У 1900 г. Валадковіч ставіць другую паперную машыну, у 1909 г.—трэцюю. У вапошнія гады гаспадараньня Валадковіча фабрыка работала з дэфіцытам. Трэба думаць, што гэтаму было многа прычын: мела тут уплыў адсутнасьць чыгункі, што падымала цану на паперу, а пры разьвіцьці папернай вытворчасьці разьвівалася конкурэнцыя і Скіна ад гэтай конкурэнцыі цярпела; сам Валадковіч у папернай вытворчасьці нічога не разумеў, усім кіравалі чужыя рукі, якіх зусім ня цікавіла вытворчасьць, а свой інтарэс.

### Сырэц-лес.

Мы казалі, што лясоў сваіх у пана Валадковіча было многа. Апал фабрыкі быў, дый цяпер яшчэ—драўляны, а таксама і сырэц, які патрэбен для вырабу драўлянай масы на выраб паперы, быў свой. Але паступова, як лясы яго нішчацца, ён купляе лес у іншых мясцовасьцях і ракой дастаўляе яго да фабрыкі. Трэба тут сказаць, што фабрыка Ч. З. многа паела ваколічнага лесу. Тут зробім маленькі адступ, што калі ў мінулым годзе (1925 г.) на пашыраным пленуме Райвыканкому сяляне выказаліся, што фабрыка зьнішчыла ў нас лясы, то РВК, згодна рэзолюцыі пленуму, у раёне для фабрыкі лесу не дае з 1 кастрычніка 1925 г. (Заява старшыні РВК т. Аверко на сходзе сялян у вёсцы Казаноў. 17 студзеня 1926 г.).

### Сырэц усіх родаў.

Фабрыка Ч. З. прыстасавана для вырабы сурагатнай паперы, г. зн. паперы, якая выробляецца з дрэва. (Папера з ануч—добрага гатунку). Для вырабу паперы патрэбен сырэц: драўляная маса, цэлюлёза і паперныя абрэзкі. Гэта галоўнейшыя матар'ялы. Апроч іх, яшчэ ёсьць дапамагальныя матар'ялы: 1) гарпіус, 2) сода, 3) гліназем (квасцы), 4) крахмал, якія патрэбны для праклейкі паперы, 5) каглін—прасьвечвае і дае ёй мяккасьць, хварба лепей кладзецца.

Драўляная маса—вырабляецца мэханічна, мелецца на муку. Валакно слабое. Цэлюлёза—продукт з дрэва, выраблены хімічным спосабам. Дрэва загружаецца ў выглядзе трэсак у спэцыяльныя катлы і варыцца ў кіслаце. Валакно сярэдняй крэпасьці. Паперны брак атрымліваецца ў процэсе вытворчасьці, а таксама купляюць абрэзкі з друкарань і іншых устаноў, старыя архівы і г. д. У даваенны час сырэц—драўляная маса — для фабрыкі большасьцю быў свайго вырабу. Пажарам у 1920 г., аб якім мы будзем казаць ніжэй, дрэва-масавы аддзел быў зьнішчаны, і цяпер, насьпех наладжаны, дрэва-масавы аддзел ня можа цалком здаволіць патрэбу вытворчасьці фабрыкі і прыходзіцца прывозіць драўляную масу (цэлюлёз) з іншых мясцовасьцяй. Большасьць яе цяпер прывозіцца з Фінляндыі, часткай—з СССР з завода Сухонь, Валагодзкай губ. Раней прывозілі з-заграніцы, але зусім у нязначным ліку. Да матар'ялаў яшчэ належыць—надзеньні машын, сеткі, сукны, якія атрымліваюцца большасьцю з Вены, з завода „Гуттэр

і Шранц". Наагул, усе тэхнічныя прыстасаваньні йдуць з-заграніцы, галоўным чынам з Аўстрыі, Нямеччыны і Швэцыі. Пры вытворчасьці застаюцца рэшткі драўлянай масы, для гэтых рэштак зроблена прылада, якая ловіць дробнае валакно з вады, што бяжыць у раку. Для лому мэталю (ламаных сетак і інш.) ёсьць ліцейная, якая пераплаўляе гэты лом на іншыя рэчы і прылады.

### Склады для сырцу.

Для складкі сырцу ёсьць магазын—4-х павярховая будыніна, адкуль сырэц, па меры патрэбы, падаецца дзеля абробкі пад'ёмнымі машынамі.

Падвоз усіх матар'ялаў рабіўся да зімы 1925-1926 г. улетку—вадой лайбамі, узіму—гужом, а цяпер, з правядзеньнем чыгункі па шляху Ворша—Лепель, увесь сырэц падвозіцца па чыгунцы; станцыя ад фабрыкі каля 4 вёрст.

### Процэс вытворчасьці.

Цяпер разгледзім і пералічым паступовыя стадыі вытворчасьці: 1) Сартыроўка макулятуры, 2) Бягуннае аддзяленьне (4 бягуны, работае 3), 3) Клееварка, 4) Дрэва-масавае аддзяленьне—3 шлефера, 5) Рольнае аддзяленьне на 2 машыны (у мінулы час было нарыхтавана на 3 паперных машыны), 6) Паперныя машыны, 7) Апаратурнае аддзяленьне, 8) Канчатковы аддзел, 9) Кацельная, і далей пяройдзем к самому процэсу вытворчасьці. У ваддзяленьні сартыроўкі макулятуры—абрэзкі паперы сартыруюцца па колеры і ачышчаюцца ад мусару, зразумела, ручным спосабам. Бягуннае аддзяленьне—тут разсартыраваныя абрэзкі паперы размалваюцца на бягунох, сюды-ж паступаюць для размолу старыя архівы і інш., і пакупная драўляная маса—цэлюлёз. Клееварка падрыхтоўвае раствор клею і хімічных матар'ялаў для замацаваньня імі паперы, тут-жа разводзіцца каолін. Драўляна-масавае аддзяленьне вырабляе драўляную масу (поўфабрыкат). Рольнае аддзяленьне—тут валакно размалваецца, дадаюцца хімічныя мятар'ялы і падрыхтоўваецца маса для адліву папернага ліста на машыне самачэрпцы. Паперная машына адлівае і сушыць лісты. Машын гэтых усяго 3, але пажарам зьнішчаны былі 2, адна зрамантавана, так што цяпер працуюць дзьве самачэрпкі—№№ 1 і 3. Апаратурнае аддзяленьне—адлітая папера ідзе ў далейшую апрацоўку на каландрах, калі патрабуецца глазіроўка і на рэзку, дзе паперная стужка разразаецца на лісты паводлуг патрэбнай формы. На рэзку ня йдуць толькі абойная папера і масьленка-рулонная, якія проста ад машын йдуць у ўпакоўку, як гатовы тавар. У канчатковым аддзеле сартыруецца па колеры і па якасьці, складаецца ў стопы, прэсуецца, упакоўваецца і здаецца ў склад, які накіроўвае яе згодна нарадам Белбумтрэсту.

### Сарты паперы.

Больш іншых сартоў тут вырабляецца абойная папера,—ад 6000—9000 пудоў у месяц, якая для накладкі хварбы накіроўваецца ў Менск на фабрыку імя т. Вароўскага, потым вырабляецца масьленка-вокладкі, часткай альбомныя сарты, пергамін—усе гэтыя сарты вырабляюцца паводлуг абсталяваньня Белпапторга (праз Белбумтрэст) і рэалізуюцца апошнім на рынках СССР; скураную паперу фабрыка вырабляе паводлуг абсталяваньня Ленгіз.

## Энэргія.

На фабрыцы Ч. З. тры віды мэханічнай энэргіі—вадзяная энэргія, паравая і электрычная. Вадзяная энэргія здабываецца вадзяным турбінам на 120 конскіх сіл; цяпер дзеля таго што турбін стары, удаецца выкарыстоўваць толькі 45 кон. сіл. Гэта сіла служыць для асьвятленьня фабрыкі, прыводзіць у рух дзінама-машыну. Паравая энэргія здабываецца паравымі машынамі—з іх адна ў 500 кон. сіл, другая ў 40 і трэцяя ў 45 кон. сіл. Апошнія дзьве абслужваюць паперныя машыны. Электрычная энэргія—частка паравой энэргіі ад 500 сільнай паравой машыны. Маторам прыводзіцца ў рух апаратурнае аддзяленьне; станкі—машынамі мэханічнай майстэрні. У кацельнай ёсьць тры катлы з даўленьнем да васьмі атмосфэр.

Ацяпленьне паравое будыніны фабрыкі, награваецца вострым парам.

## Загатоўка лесаматар'ялу.

Вада ў катлох да апошняга часу награвалася дрыўмі; але дзеля недахвату лесу фабрыка ў самы бліжэйшы тэрмін пераходзіць на апал каменным вуглем, які, з агульнага заказу ў Данецкім басэйне, 150.000 п., ужо на бліжэйшую станцыю прывезены ў колькасьці каля 60.000 пудоў. Печкі паступова будуць прыстасоўвацца на пераход к апалу каменным вуглем. Цікава падкрэсьліць, што апал драўляны таней за каменны вугаль.

## Рабочыя і вытворчасьць.

На 1-е студзеня 1926 году штатных працаўнікоў на фабрыцы ёсьць—мужчын 215, жанчын 50, падросткаў хл. 15, дз. 4. Служачых 39 чалавек, з якіх 37 мужчын і 2 жанчыны. Апроч штатных, яшчэ бываюць падзённыя рабочыя ад 100—115 чал., якіх наймаюць у залежнасьці ад патрабаваньня. Вытворчасьць на аднаго вытворчага рабочага ў дзень у даваенных рублёх: у лістападзе—11 руб. 09 кап., жніўні—12 р. 75 к., верасьні—11 р. 39 к., кастрычніку—10 р. 68 к. Мы тут бачым хістаньні. Гэтыя лічбы могуць быць толькі орыентовачнымі.

## Зарплата.

Зарплата па разраднай сетцы. Штомесячны выдатак на зарплату ад 12—15 тысяч рублёў.

## Фабком.

Рабочыя фабрыкі аб'яднаны ў саюз папернікаў. Фабком яднае 280 рабочых. РКК у мінулым годзе разабрала 20 конфліктаў, з якіх 60 проц. на карысьць саюзу. Сэкцыя па ахове працы ў апошні час выявіла сваю агульную працу нарыхтаваньнем шчытоў каля машын, бакаў з кіпячонай вадой для піцьця. Сантройка абгледзела кватэры з мэтай паляпшэньня жыцьцёвых умоў рабочых; стварылі кадр упаўнаважаных па цэхах дзеля хуткай дапамогі ў няшчасных выпадках. К 1-му лютаму г. г. будзе гатова новая лазьня, якая будуецца па тыпу добрай гарадзкой лазьні. Агульны мэдыцынскі агляд рабочых адбываецца 2-3 разы ў год. На фабрыцы ёсьць свая амбуляторыя, дзе заўсёды працуе фэльдшар. Тры разы ў тыдзень бывае доктар, які прыяжджае з м. Чашнікі—3 вярсты, зьяўляецца і па асобых вызавах, таксама ёсьць і акушэрка. Амбуляторыя ў месяц прымае ад 350—400 хворых.

## 1905 год.

Агульны пад'ём рабочай клясы ў 1905 г. адчуваўся і тут на фабрыцы Ч. З., прычым ён грунтаваўся на эканомічных вымаганьнях рабочых—8-мі гадзінны працоўны дзень стаяў першым патрабаваньнем рабочай масы. Мы дзеля прыкладу падкрэсьлім пад'ём рабочых тут у сакавіку 1905 г. Справа была такая. Правадыры рабочых т. т. Валькоўскі І., Сергін М., Барэйка Б., Камінскі Я. з рабочай масай прышлі к канторы, дзе да іх вышаў загадчык фабрыкі. Названыя таварышы ад імя рабочай масы патрабавалі ад загадчыка 8-мі гадзінны працоўны дзень. Той пачаў такую гутарку:

„Фабрыка дае дэфіцыт, гаспадар—памешчык Валадковіч—хоча яе зачыніць, я яго ўпрашваю, шкадуючы вас, каб ён гэтага не рабіў. Лепш ідзеце і станавецеся на працу, бо Валадковіч зачыніць фабрыку і вы ўсе застанецеся з дзяцьмі на вуліцы“.

К гэткаму адказу,—апавядаюць цяпер рабочыя,—мы зусім ня былі падрыхтаваны і разышліся. У вечар у нас быў агульны сход рабочых і мы вырашалі—няхай не Валадковіч зачыняе фабрыку, а мы зробім гэта самі і пастанавілі ў наступнае раньне абвясьціць забастоўку. Але ў гэты вечар,—успамінае цяпер т. Барэйка,—падышоў да мяне загадчык фабрыкі з Валадковічам і сказалі—абвясьціць усім, што з 1-га красавіка ў нас будзе 3-я зьмена. Значыць, 8-мі гадзіннага працоўнага дня мы дабіліся. Наша галоўнейшае патрабаваньне было здавольнена.

Пасьля 1905 г. пачалося агульнае заціхша, усё ў нас ішло спакойна,—расказваюць далей рабочыя. Так было да вайны 1914 г. У 1915 г. паласа фронту падышла блізка да фабрыкі і фабрыка 15 верасьня 1915 г. была зачынена. Потым прабавалі пусьціць фабрыку ў 1916 г., але працавалі толькі 7—8 месяцаў і фабрыка зачынілася. У 1918 г. пры адыходзе з гэтай мясцовасьці немцаў, гаспадар фабрыкі Валадковіч таксама пашоў з імі і ўзяў з сабой найбольш цэнную маемасьць фабрыкі—галоўнейшыя часткі машын, адзеньне машын, сеткі і інш. Але давёз толькі да Менску, далей яму немагчыма было іх везьці і ён іх пакінуў у Менску. Пасьля адходу немцаў, рабочыя надумалі пусьціць фабрыку. Пачулі, што часьці машын, вывезеныя Валадковічам з фабрыкі, пакінуты апошнім у Менску, паехалі і прывязьлі іх адтуль. У гэты час з Віцебску быў прысланы т. Біттэ з мэтай ліквідаваць фабрыку. Ён абгледзеў яе—пабачыў тут добрыя машыны, здольных працаўнікоў, ня стаў яе ліквідаваць, а застаўся тут загадчыкам з мэтай пусьціць фабрыку і падняць яе вытворчасьць. У студзені 1919 г. фабрыку пусьцілі, а ў верасьні 1919 г. яна была эвакуавана з прычыны прыходу белапалякаў і найбольш цэнная маемасьць была вывезена ў Маскву. Па адходзе белапалякаў, фабрыку пусьцілі ізноў. Але, дзеля адсутнасьці сырцу, транспорту, фабрыка давала дэфіцыт.

## Пажар.

На бяду, у ноч з 8 на 9 красавіка 1920 г. на фабрыцы здарылася вялікае няшчасьце—пажарам былі зьнішчаны дзьве паперныя машыны, дрэвамасавае аддзяленьне, галандры, упаковачны аддзел, частка сартыроўкі. Страты былі дужа вялікія, якія адчуваюцца і цяпер.

## Мотывы к ліквідацыі.

К 1922 г. перад рабочымі стаяла пытаньне—быць ці ня быць. Фабрыка ўвесь час дае дэфіцыт і існуе за кошт іншых паперных фабрык Бумтрэсту. Растлумачваецца, што рабочым трэба йсьці на вялі-

кую ахвяру, каб утрымаць фабрыку, інакш яна павінна быць ліквідавана. І вось рабочыя ставяць пытаньне—чатыры месяцы работаць бяз грошай і падняць фабрыку, бо ўвесь продукт, які яна выrabляе цалком ідзе на зарплату, а падняць вытворчасьць немагчыма. Большая частка працаўнікоў згодна з гэтым, застаецца працаваць дарма і працуюць на аднэй машыне, якая засталася пасьля пажару. Ня гледзячы на гэтую ахвяру, фабрыка і далей не аплачвае сабе, дзеля чаго ў 1923 г. яшчэ паднімаецца пытаньне аб ліквідацыі фабрыкі, але ў гэты час высьвятляецца, што па шляху Ворша—Лепель у бліжэйшы тэрмін будзе збудавана чыгунка, якая пройдзе каля фабрыкі,—фабрыка застаецца.

### Фабрыка йдзе ў гару.

К гэтаму часу агульныя ўмовы падняцьця прамысловасьці адчуваюцца і тут,—танны сырэц, зьніжаюцца накладныя расходы, падымаецца вытворчасьць працы, даецца поўная нагрузка фабрыцы, поўная нагрузка 8-мі гадзіннага рабочага дня і фабрыка йдзе ў гару. Летам 1925 г. пускаецца другая паперная машына, якая, сапсутая пажарам у 1920 г., рамантавана самімі рабочымі, амаль што без дапамогі спэцыялістых інжэнэраў і на час з 1 кастрычніка 1924 г. да 1 кастрычніка 1925 г. фабрыка прадала свайго прадукту на суму—920.083 руб. 83 к. Выдаткі за гэты пэрыод—834.002 р. Чыстага прыбытку—86.081 р. 83 к.

### Агульныя ўмовы жыцьця. Кватэры.

Для жыцьця рабочых і служачых ёсьць пры фабрыцы 18 жылых дамоў, кошт якіх на 1-е кастрычніка 1925 г. складае 22.453 руб. 05 к. па апошняй ацэнцы. Лік гэтых дамоў і наагул кватэр далёка ня можа здаволіць кватэрныя патрэбы рабочых, значная частка якіх жыве у в. Смалянцы на адлегласьці $1^1/_2$ вярсты ад фабрыкі, у іх там ёсьць свае будынкі і яны зьяўляюцца мясцовымі насельнікамі. Наагул, умовы кватэр нездавальняючыя: цесна, недахоп паветра і інш.

Дзеля гэтага ў чэрвені 1925 г. збудавана пры фабрыцы жылтаварыства пры 71 чал. пайшчыкаў, уступнага ўзносу 142 руб., на 20-е студзеня 1925 г. у касе т-ва 168 руб. Таварыства зацікаўлена хутчэйшым збудаваньнем хат для сваіх сяброў, клапоціцца цяпер аб загатоўцы лясных матар'ялаў для будоўлі, каб з вясны 1926 г. пачаць будаваць новыя хаты. Т-ва мае надзею атрымаць дапамогу ад Белбумтрэсту ў ліку 12 тыс. руб. з агульнага асыгнаваньня ў 27 тыс. руб., з якіх 15 тыс. руб. павінны пайсьці на будову рабочага новага клюбу. Гэта сума ў 27 тыс. руб. можа быць асыгнавана з 10 проц. адлічэньня з фонду на палепшаньне быту рабочых. У наступны момант складзены каштарыс на пабудаваньне аднаго дому ў дзьве кватэры на суму 3.800 руб. з гонтавым дахам. Такіх кватэр патрэбна збудаваць ня менш 15 у бліжэйшы тэрмін. Т-ва вядзе працу па ўцягненьні сяброў ў т-ва. Асьвятленьне кватэр электрычнае. За кожную лямпачку рабочы плаціць па $2^1/_2$ кап. за сьвечку. Большасьцю ў іх лямпачкі ў 25,16 сьвечак. Грамадзянскія ўстановы карыстаюцца дармовым асьвятленьнем. Апал рабочыя і служачыя атрымліваюць з фабрыкі па загатоўчай яе цане,—апошняя яе цана—22 руб. за куб. саж.

### Пажарная дружына.

Для пажарнай забясьпекі на фабрыцы ёсьць пажарная дружына, якая складаецца з 36 сяброў, з якіх 5 комскладу, а 31 радавыя дружыньнікі. У будове фабрыкі—5 спраўных гігрантаў, да кожнага з іх па

рукаву ў 60 арш., 20 вядзёр, 2 лесьніцы, 6 багроў, 9 пажарных тапароў, з якіх 5 гарадзкога тушэньня і 4 для вёскі. Кожную ноч дзяжураць—дружыньнік і 3 фабрычных кані. Па распараджэньні пажарнага інспэктара ВСНХБ дружына павінна выяжджаць з фабрыкі ў радыусе 3-х вёрст, з 1-га чэрвеня 1925 г. па 20-е студзеня 1926 г. дружына выяжджала 6 раз: м. Чашнікі—2 разы, Саўхоз Пачаевічы—1 раз, в. Смалянцы—1 раз, в. Зарэчная-Слабада—1 раз, на фабрыцы (пажар у будынку канторы)—1 раз. Пажарнікі маюць форменае адзеньне—шапку, паяс, скураную куртку.

### Культасьветная праца на фабрыцы.

Культасьветная праца на фабрыцы абхоплівае сабою сяброў Саюзу, іх сем'і і мае вялікі ўплыў на сумежныя вёскі ў радыусе да 12 вёрст. Працуюць гурткі палітычныя, на якіх прысутнічаюць сябры партыі абавязкова і столькі-ж беспартыйных па дабравольным запісе; комсамольскія палітычныя гурткі, на якіх апроч комсамольцаў прысутнічае многа маладняка: гурток профруху, драматычны, беларускі, харавы. У вапошняе лета вялікую дапамогу ў культасьветнай працы далі чырвонаармейцы 6 чыгуначнага палка, якія працавалі на пабудове чыгункі па шляху Ворша—Лепель. Ёсьць на фабрыцы Ленінскі куток з Ленінскай бібліотэкай, абстаўлены добра, там кожны вечар можна пабачыць рабочых, якія пасьля працоўнага дня адпачываюць за чытаньнем газэт, часопісаў і кніг. Побач з Ленінскім кутком знаходзіцца хата-чытальня, дзе ёсьць бібліотэка з рознымі аддзеламі, тут-жа выдаюцца таварышам газэты часопісы па выпісцы. А такіх ёсьць шмат, 75 проц. рабочых выпісваюць газэты і часопісы. Больш за іншыя часопісы тут пабачыш „Бумажнік“, з газэт—„Рабочая газета“, ёсьць і „Известия“, „Правда“ і інш. На адлічэньні ў культфонд хата-чытальня выпісвае і сама газэты для агульнага чытаньня. Тут пабачыш газэты і на беларускай мове—„Савецкая Беларусь“ і на польскай—„Młot“.

Некаторыя таварышы тут-жа ў хаце-чытальні гуляюць у шашкі, ў шахматы. Далей, пад адным дахам ёсьць клюб са сцэнай, які ўмяшчае да 250 чалавек. Каля клюбу ёсьць прыстасаваньне для кіно, ленты для якога прывозяцца з Віцебску, або з іншых мясцовасьцяй.

### Уплыў культасьветнай працы на вёску.

Мы кажам, што фабрыка мае ўплыў у культасьветнай працы на вёску. Справа ў тым, што фабрыка цалком узяла шэфства над акалічнымі вёскамі з мэтай дзяліцца з сваім братам-селянінам,—часта нялісьменным і цёмным,—тымі ведамі і дасягненьням навукі, якія рабочы ўжо атрымаў за часы мірнага будаўніцтва. З гэтай мэтай працаўнікі фабрыкі выяжджаюць на вёску, возяць з сабой газэты для сялян, вядуць з імі гутарку аб унутраным і сусьветным становішчы. У гэтай працы значную ролю іграюць партыйцы КП(б) і Комсамол. Пры фабрычнай ячэйцы лічыцца цяпер партыйцаў і кандыдатаў 45, з іх 2 жанчыны, камсамольцаў 32, з іх дзяўчат 6, піонэраў 40. Сябры ячэйкі ёсьць на вёсцы сярод сялян, з якімі наладжана моцная сувязь. Лік партыйных мае быць павялічаны з складу рабочых і сялян, якія падалі шмат заяў аб пажаданьні ўступіць у сябры КП(б). Заканчваючы аб культасьветнай працы, яшчэ трэба сказаць пра фабрычную школу. Школы—дзьве—беларуская і польская. Беларуская двохкамплектная (прымітыў), у якой працуюць два настаўнікі, а другая польская з адным

настаўнікам. Трэба падкрэсліць, што ў школе вучацца дзеці рабочых (у бел. школе 40 проц. рабоч. і 60 проц. сялян, у польскай школе дзяцей рабоч. 87 проц., сялян 13 проц.). Па сканчэньні школы-прымітыву, дзеці рабочых ня йдуць вучыцца далей у другі концэнтр сямігодкі (м. Чашнікі, у 3-х вярстах ад фабрыкі), а стараюцца атрымаць адукацыю тэхнічную, зрабіцца майстрам, мець рамясло і з гэтай мэтай цяпер трое вучацца ў фабзавучы ў г. Шклове, а 6 проц. з агульнага ліку рабочых вучацца ў цэхах тут—кваліфікуюцца на фабрыцы. Да школы насельніцтва фабрыкі адносіцца добра, дапамагаюць ёй сродкамі на выпіску газэт, часопісаў, бібліотэкі, на апал. У студзені 1926 г. к дню сьмерці Леніна па падпісным лісьце бацькі сабралі каля 30 руб. на організацыю пры школе Ленінскага кутка, падпіска ідзе далей. У гэтым прымаюць добрахвотны ўдзел усе працаўнікі фабрыкі. Бываюць агульныя сходы бацькоў, дзе настаўнікі дзеляцца з бацькамі дасягненьнямі і вынікамі школы.

### Коопэратыў.

У вадносінах да грамадзкіх установ трэба сказаць, што рабочыя агульна адносяцца да іх добра, напрыклад—85 проц. насельнікаў фабрыкі (рабочых) зьяўляюцца сябрамі коопэратыву.

### Рэлігійнасьць.

У справе рэлігіі тут трэба разьмежаваць насельніцтва на праваслаўных і каталікоў. Першыя амаль што ўсе адышлі ад царквы, парвалі усякую сувязь з ёй, а ў каталікоў рэлігія яшчэ трымаецца, хаця з кожным годам слабее. Хаўтур, акцябрын і шлюбаў шмат бывае грамадзянскіх. Рэдка хто зьвяртаецца за дапамогай у гэтай справе да царквы.

### Будучае фабрыкі.

Канчаючы гэты артыкул, скажу некалькі слоў аб бліжэйшай будучыне фабрыкі. У сувязі з правядзеньнем чыгункі, фабрыка наладжвае зносіны з прамысловымі цэнтрамі, і ад чыгункі на самую фабрыку павінна быць праведзена калея. У бліжэйшы час будуць адбудаваны згарэўшыя будынкі, адрамантавана трэцяя паперная машына і іншыя машыны павінны быць рамантаваны альбо заменены новымі. На гэтыя справы маюць даць па каштарысе 1.100 тысяч рублёў—паводлуг дакладу на фабрыцы дырэктара Белбумтрэста т. Шабашова ўзімку ў канцы 1925 г.—з пазыкі на гаспадарчыя адбудаваньні краю. Тут не забываецца і культасьветны бок—будзе пабудованы добры Нардом, будзе зроблена радыо і г. д., што ўжо ёсьць на іншых паперных фабрыках у нас, на Беларусі.



Гр. Варапаеў.

# Буеўскае возера.

Буейскае возера ляжыць на захад ад мястэчка Лёзна на адлегласьці 2-х вёрст. Падобнае да дугі яно цягнецца з заходу на ўсход, даўжынёю каля 3-х вёрст і займае плошчу ў 56 дзес. 811 кв. с. Рэльеф




мясцовасьці, дзе знаходзіцца возера, узгаркаваты, дно яго прадстаўляе катліну.

Возера, можна сказаць, бясстокавае, калі ня лічыць дзьвюх канаў, якія напамінаюць маленькія рэчкі, выкапаныя людзьмі. Адна з гэтых канаў (Пенная) упадае ў возера, другая (Лезьніца) выцякае з яго і ўпадае ў р. Мошну. Гэтую канаву выкапалі для спуску вады з возера, дзякуючы чаму яно абмялела аршыны на два. Берагі мае адхонныя. Грунт пяшчаны за выключэньнем усходняга канца і двух месц, адзначаных на пляне, дзе ён мяккі, вязкі, глейкі. З гэтага канца (усходняга) возера зарастае. Наплаў хоць і няхутка, але пасоўваецца на возера. Расьліннасьць наплава складаюць рознага роду асокі (carex), мох, аер (acorus), бабоўнік, падвей (eriophorum) і іншыя балотныя расьліны. Калі ўзыйсьці на гэты наплаў, ён зыбіцца і гатоў прарвацца, так што рызыкуеш выкупацца ў гэтай бруднай твані. Далей ад возера гэтая расьліннасьць становіцца цьвёрдаю; тут растуць бярозкі, лаза з вузкімі лісьцямі ды зрэдка крывыя хвойкі; яшчэ далей растуць вольхі. Берагавая расьліннасьць лугавая; у некаторых мясцох растуць вольхі і лаза. Але быў, як відаць, час, калі берагі былі заросшы вольхамі, бярозамі, елкамі; аб гэтым сьведчаць струхлелыя пні, якія знаходзяць у вадзе. Тут расьлі і дубы. Гадоў 50 назад дзяды цягалі вяроўкамі з возера вялізарныя чорныя ствалы дубоў, якія ўжывалі на шулы для варот. Гэтыя ствалы можна і цяпер бачыць у некаторых гаспадароў.

У вадзе каля берагу растуць вадзяныя хвашчы (equi—setum palustre), сітнікі (juncus), чароты (phragmites trin), урэчнікі (potamogeton), стрэліцы (sagittaria), вадзяныя хвойкі і г. д. Фаўну возера складаюць наступныя рыбы: акуні, яршы, плотка, уклейка, ляшчы, ліны, карасі, мянтузы, шчупакі і інш. Дзяды-старажылы гавораць, што былі выпадкі, калі лавілі шчупакоў па 37 ф. Ракаў у возеры было таксама многа; гадоў 10 назад яны павыміралі, а цяпер зноў пачынаюць пракідацца. З дробных жывёлін трапляюцца сьлімакі, прудавікі, катушкі, лужанкі, бяззубкі і інш.

Возера мае досыць вялікую вадзяную паверхню і робіць значны ўплыў на клімат аколічнай мясцовясьці; так, напр., у вясну, калі пачынае раставаць лёд, ён значна затрымлівае рост жыта.

Возера гэта, як я думаю, ледавіковага пахаджэньня. Вада ад таяньня вялікай льдзіны ў гэтай нізіне стварыла яго. Камяньні, якія трапляюцца ў возеры, напэўна прынёс ледавік.



# Абсьледваньне мікольскага кірмашу ў г. Сянно, Віцебскай акругі.

*(Праведзенае вучнямі сеньненскіх сямігодак 20 сьнежьня 1925 г.).*

Аднэй з важнейшых асаблівасьцяй сучаснага краязнаўства зьяўляецца яго орыентацыя на гаспадарку, на экономіку. Усе краязнаўчыя зьезды і конфэрэнцыі аднагалосна падкрэсьліваюць патрэбу ў так званым вытворчым ухіле, патрэбу ў увязцы дзейнасьці краязнаўчых організацый з вытворчымі плянамі нашых грамадзкіх і савецкіх гаспадарчых організацый. У зьвязку з гэтым, побач з вывучэньнем фольклёру ды гісторыі свайго раёну, нашыя краязнаўчыя таварыствы ды гурткі ўсё ў большай меры займаюцца абсьледваньнем прыродных вытворчых сіл свайго раёну, вывучэньнем тэхнікі сялянскага земляробства, мясцовых промыслаў і наагул мясцовай экономічнай сітуацыі.

Між іншым вельмі каштоўную працу ў гэтым кірунку правялі вучні сеньненскіх сямігодак, якія абсьледвалі кірмаш у горадзе Сянно 20 сьнежня 1925 г.

Трэба адзначыць, што дагэтуль на Беларусі не праводзяцца сталыя абсьледваньні кірмашовага гандлю. Толькі ў мінулым годзе Цэнтральная Статыстычная Ўправа занялася вывучэньнем кірмашоў ды рынкаў у гарадох Чэрвені і Быхаве. Што да іншых местаў і мястэчак Беларусі, дык аб іх мы ня мелі падобных матар'ялаў і ў бліжэйшыя часы мець ня будзем. Гэта, бязумоўна, вельмі важны прабел у нашай статыстыцы.

Праўда, у цяперашнія часы нашыя кірмашы ня маюць такога вялікага значэньня, як, напрыклад, ніжагародзкі або лейпцыгскі, але ў справе разьмеркаваньня прывезеных здалёку тавараў па нашых вёсках, у справе забесьпячэньня гарадоў вясковымі продуктамі і наадварот—вёскі гарадзкімі ды замежнымі вырабамі, кірмашы і рынкі граюць вельмі значную ролю. Побач з гэтым, кірмашы зьяўляюцца цікаўным бытавым зьявішчам. Тут адбываецца, так сказаць, стык вёскі і гораду, тут яны абменьваюцца ня толькі продуктамі, але таксама і ведамі, поглядамі, звычаямі. На менскіх рынках можна вывучаць быт і мову сялян блізка што ўсёй Менскай акругі, і разам з гэтым на гэтых рынках вёска Меншчыны даведваецца аб апошніх навінах, якія ведамы гораду. Вывучэньне менскіх рынкаў дазваляе выявіць раён экономічнага ўплыву сталіцы на сялянскую гаспадарку. З бліжэйшых аколіц Менску вязуць і нясуць на кірмаш малако і наагул такія продукты, якія хутка псуюцца, а ў зьвязку з гэтым у бліжэйшых аколіцах разьвіваецца малочная справа за кошт іншых галін гаспадаркі. Некаторыя раёны дастаўляюць на рынак выключна дровы, іншыя—сена і г. д.

Прымаючы ўсё гэта пад увагу, трэба прызнаць, што сеньненскія сямігодкі ўзяліся за вельмі патрэбную і важную справу.

На жаль, паводле сабраных імі матар'ялаў, нельга мець поўнага ўяўленьня аб мясцовым значэньні сеньненскага мікольскага кірмашу. Так, напрыклад, з гэтых матар'ялаў невядома, адкуль тыя ці іншыя тавары былі прывезены на абсьледваны кірмаш у Сянно.

Аднак, і тыя даныя, якія сабраны, маюць некаторае значэньне і даюць матар'ял аб экономічным значэньні кірмашу.

| № па парадку | НАЗВА ТАВАРУ | Колькасьць тавараў зарэгістраваных вучнямі. | Цана просяць Руб. | Цана просяць Кап. | Цана даюць Руб. | Цана даюць Кап. | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | **А. Жывая скаціна.** | | | | | | |
| 1 | Коні лепшыя . . . . . | 327 | 200 | — | 170 | — | |
| 2 | „ сярэдняй якасьці . | | 100 | — | 80 | — | |
| 3 | „ горшыя . . . . . | | 70 | — | 50 | — | |
| 4 | Жарабяты . . . . . . | 132 | — | — | — | — | |
| 5 | Каровы заводзкія . . . | 105 | 100 | — | 80 | — | |
| 6 | „ сярэдняй якасьці . | | 80 | — | 60 | — | |
| 7 | „ горшыя . . . . . | | 50 | — | 40 | — | |
| 8 | Быкі . . . . . . . . | — | — | — | — | — | |
| 9 | Цяляты . . . . . . | 28 | 5 | — | 4 | — | |
| 10 | Авечкі . . . . . . . | 64 | 3 | 50 | — | — | |
| 11 | Козы . . . . . . . | 3 | — | — | — | — | |
| 12 | Сьвіньні . . . . . . . | 75 | 18 | — | 13 | — | |
| 13 | Падсьвінкі . . . . . . | | 9 | — | 7 | — | |
| 14 | Парасяты . . . . . . | | 4 | — | 3 | — | |
| 15 | Гусі някормныя . . . . | 202 | 1 | 70 | 1 | 40 | |
| 16 | Качкі . . . . . . . | 12 | 1 | 40 | 1 | 10 | |
| 17 | Куры . . . . . . . | 100 | — | — | — | — | |
| 18 | Індыкі . . . . . . . | 5 | — | — | — | — | |
| | **Б. Забітая скаціна.** | | | | | | |
| 19 | Гусі . . . . . . . . | 4 | 2 | 50 | 2 | — | |
| 20 | Сьвіньні ня болей за 3 пуд. | 91 | 5 | — | — | — | |
| 21 | „ ад 3 да 6 пудоў . | | 8 | — | — | — | |
| 22 | „ болей за 6 пудоў. | | 10 | — | — | — | |
| | **В. Мясныя і малочныя продукты.** | | | | | | |
| 23 | Мяса сьвіное . . . . . . | 1 п. 38 ф. | — | — | — | | за ф. |
| 24 | Сала . . . . . . . . | 11 „ 8 „ | — | 35 | — | 30 | „ „ |
| 25 | Кумпякі . . . . . . | 24 шт. | — | 30 | — | 20 | „ „ |
| 26 | Каўбасы . . . . . . | 1 п. 27 ф. | — | 25 | — | 20 | „ „ |
| 27 | Масла . . . . . . | 2 „ 14 „ | — | 60 | — | — | „ „ |
| 28 | Твораг і сыр . . . . . | ? | — | 15 | — | 10 | „ „ |
| 29 | Яйкі . . . . . . . . | 84 дзес. | — | 40 | — | 30 | „ „ |
| | **Г. Іншыя продукты.** | | | | | | |
| 30 | Мёд . . . . . . . . | ? | — | 45 | — | 35 | „ „ |
| 31 | Яблыкі . . . . . . | 171 пуд. | 1 | 20 | 1 | 20 | за п. |
| 32 | Грыбы сушаныя . . . | ? | — | 40 | — | 35 | за ф. |

| № па парадку | НАЗВА ТАВАРУ | Колькасьць тавараў зарэгістраваных вучнямі | Цана просяць Руб. | Кап. | Цана даюць Руб. | Кап. | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 33 | Сена . . . . . . . . | ? | — | 40 | — | 35 | за п. |
| 34 | Арэхі . . . . . . | 5 п. 30 ф. | — | 5 | — | 5 | фунт |
| 35 | Журавіны . . . . . . | ? | — | 4 | — | 4 | „ |
| | **Д. Лён, воўна, адзеньне і матар'ялы на адзеньне і абутак.** | | | | | | |
| 36 | Воўна . . . . . . . | 4 п. 8 ф. | 1 | 20 | 1 | 10 | „ |
| 37 | Шчаціна . . . . . . | ? | 1 | 50 | | | „ |
| 38 | Сукно сялянскае . . . | ? | 1 | 35 | 1 | — | арш. |
| 39 | Палатно сялянскае тонкае | 346 арш. | — | 35 | — | 30 | „ |
| 40 | „ „ грубае | | — | 25 | — | 20 | „ |
| 41 | Лён . . . . . . . | 107 п. 20 ф. | 5 | 50 | | | пуд |
| 42 | Кажухі сялянскія даўгія | ? | 30 | — | 20 | — | штук |
| 43 | „ „ „ | ? | 15 | — | 13 | — | |
| 44 | Валёнкі вялікія . . . . | ? | 7 | — | 6 | — | |
| 45 | „ дзіцячыя . . . | ? | 3 | — | 2 | — | |
| 46 | Чаравікі хромавыя . . . | ? | 15 | — | | | |
| 47 | Аўчынкі выробленыя . . | 184 | 4 | — | 3 | — | штук |
| 48 | „ нявыробленыя . | | 2 | 50 | 1 | 80 | „ |
| 49 | Лыкі . . . . . . . | ? | — | 90 | — | 80 | пук |
| 50 | Скуркі гарнастая . . . | ? | 1 | 50 | 1 | — | штук |
| | **Е. Пасуда драўляная ды гліняная і драўляныя вырабы.** | | | | | | |
| 51 | Кадкі драўляныя вялікія | 727 | 5 | — | 4 | — | |
| 52 | „ „ малыя | | 1 | 30 | — | — | |
| 53 | „ „ маленькія | | 1 | — | — | 40 | |
| 54 | Вёдры драўляныя . . . | 188 пар | 1 | 40 | 1 | 20 | пара |
| 55 | Рэшаты і сіты . . . . | 440 | — | 35 | — | 30 | |
| 56 | Начоўкі . . . . . . . | 45 | 1 | 20 | 1 | — | |
| 57 | Калаўроты . . . . . . | 48 | 5 | 50 | | | |
| 58 | Сані вялікія простыя . . | 273 | 4 | — | 3 | — | |
| 59 | Сані—„вазок" . . . . | ? | 30 | — | — | 25 | |
| 60 | Табурэткі . . . . . . | ? | — | 50 | — | 40 | |
| 61 | Куфры вялікія . . . . | ? | 10 | — | 8 | — | пара |
| 62 | Палазы . . . . . . | ? | 2 | 50 | | | „ |
| 63 | Колы . . . . . . . | ? | 4 | 50 | | | 4 шт. |
| 64 | Дугі . . . . . . . . | ? | — | 20 | | | „ |
| 65 | Гаршкі гліняныя . . . | 1740 | — | 20 | | | |
| 66 | Міскі . . . . . . . | 900 | — | 15 | | | |
| 67 | Жбанкі простыя . . . | — | — | 30 | | | |
| | **Ж. Збожжа і гароднiна.** | | | | | | |
| 68 | Жыта . . . . . . . | 238 пудоў | 1 | 40 | 1 | 35 | |
| 69 | Ячмень . . . . . . | 65 „ | | | | | |
| 70 | Авёс . . . . . . . . | 120 „ | — | 85 | — | 85 | |
| 71 | Бульба . . . . . . | 33 „ | — | 30 | | | |
| 72 | Семя ільнянае . . . . | 30 „ | | | | | |
| 73 | Гарох . . . . . . . | 66 „ | | | | | |

| № па парадку | НАЗВА ТАВАРУ | Колькасьць тавараў зарэгістраваных вучнямі | Цана просяць Руб. Кап. | Цана даюць Руб. Кап. | Увага |
|---|---|---|---|---|---|
| 74 | Боб . . . . . . . | 12 пудоў | | | |
| 75 | Цыбуля . . . . . . | 9 „ | 3 — | | |
| 76 | Моркаў . . . . . . | — — | — — | | |
| 77 | Зарэгістравана фурманак | 5122 | | | |
| 78 | „ людзей . | 10560 | | | |
| 79 | Падлічана людзей у царкве | 62 | | | |
| 80 | „ „ у касьцеле | 77 | | | |

*Увага.* 1. Кірмаш адбываўся 20 і 21 сьнежня—у нядзелю і панядзелак. На другі дзень людзей было менш, але гандаль быў байчэйшым.

2. Рэгістрацыя адбывалася толькі ў першы дзень.

3. Рэгістрацыю правялі групы вучняў па 3—6 чал. у кожнай, прычым жывая скаціна і забітыя сьвіньні рэгістраваліся пры ўезьдзе ў горад, а іншыя тавары—на рынку шляхам агляду фурманак.

4. Тавары, проці якіх пастаўлены пытальнікі, былі на рынку ў малой колькасьці, ня болей як у дзесятку адзінак.

Кіраваў абсьледваньнем загадчык Сеньненскай гарадзкой сямігадовай школы.

Сабраныя і паказаныя ў табліцы лічбы дазваляюць прызнаць абсьледваны кірмаш вялікім здарэньнем ў экономічным жыцьці места Сянно. Прыблізная сума цэн прывезеных на кірмаш тавараў, паводле даных табліцы, набліжаецца да 50 000 рублёў. Калі мы параўнаем гэтую суму з сумай абаротаў 88 сеньненскіх крам за першае паўгодзьдзе 1923-24 бюджэтнага году, якая паводле даных фінінспэктароў дасягала 145.108 р., дык убачым, што за цэлае паўгодзьдзе гарадзкія крамы прадалі тавараў толькі ў тры разы больш, чымся гэтых тавараў было прывезена на адзін кірмаш 20 сьнежня 1925 г. На жаль, гэтыя лічбы належаць да розных гадоў, але, дапусьціўшы нават павялічэньне зваротаў крам у 2 разы за год, прыходзіцца прызнаць, што зварот сталага гандлю за поўгода ў Сянно перавышае зварот аднаго кірмашу ня болей як у 6 раз. Адносная роля кірмашу фактычна значна большая. Трэба помніць, што ў часе кірмашу сталыя крамы мелі таксама значны зыск ад продажы тавараў наезнаму люду. Такім чынам, раўнаючы абарот кірмашу з абаротамі крам, трэба было-б скараціць апошні на суму, вырučаную ў часе кірмашу, і на столькі-ж павялічыць зварот самога кірмашу. Крамы такіх мястэчак як Калышкі, Сураж, Сіроціна, Дабрамысьль за цэлае паўгодзьдзе, а такіх як Бабынавічы, ці Астроўна за цэлы год мелі зварот меншы ад звароту абсьледванага кірмашу.

Характэрным трэба прызнаць лік людзей, зарэгістраваных 20 сьнежня на рынку ў Сянно, бо ён у $2^1/_2$ разы перавышае лік насельнікаў места. У той час калі ў Сянно перапіс 1923 году паказаў 4254 насельнікі, на кірмашы было 10560 людзей.

Далей з табліцы відаць, што галоўную ролю грала на кірмашы жывая скаціна і асабліва коні, іначай кажучы, такія тавары, якія зьяўляюцца спэцыяльна кірмашовымі, бо не прадаюцца і ня купляюцца ў

крамах. На продукты гадоўлі жывёлы прыпадае прыблізна 90 проц. кірмашовых тавараў, у тым ліку на коняй каля 65 проц. Такім чынам, абсьледваны кірмаш з поўным правам можна назваць „конскім“. З продуктаў апрацоўкі дрэва, якія наагул займаюць сярод кірмашовых тавараў другое месца, адпаведна сэзону (пачатак зімы) галоўную ролю граюць сані. Аднак, нельга не адзначыць таксама значнай ролі бандарных вырабаў, якімі славяцца сеньненскія кірмашы.

З продуктаў земляробства пачэснае месца займае лён і вырабы з яго, як і трэба было чакаць у такім раёне, як Сеньненскі, дзе пад засевамі лёну знаходзяцца значна большыя прасторы, чымся, напрыклад, у Меншчыне або Случчыне.

Як і на ўсе кірмашы Беларусі, на абсьледваны кірмаш прывазілася многа ганчарных вырабаў. Побач з драўлянай пасудай, гэта галоўныя з беларускіх саматужных вырабаў, якія заўсёды знаходзяць сваё месца на рынках і кірмашох. Кірмашовы гандаль на Беларусі спэцыялізаваўся на пэўных таварах, якія, па тых або іншых прычынах, пакуль што, можна сказаць, мала цікавілі крамнікаў. Кірмашовы і сталы гандаль жывуць побач, падзяліўшы паміж сабой тавары і працу.

Сеньненская вучнёўская моладзь сабрала матар'ялы, якія даюць магчымасьць падмацаваць агульныя разважаньні аб кірмашох большменш верагоднымі лічбамі.



# Помнікі старасьветчыны ў Мазыршчыне.

Б. І. Федарака.

## Археолёгі павінны зьвярнуць увагу.

Мозыр і яго аколіцы на беразе р. Прыпяці заселены ў вельмі далёкія часы. Як горад ён упамінаецца ў летапісах пад 1155 годам, але маса кургоноў і іншых помнікаў старасьветчыны ў аколіцы сьведчаць аб тым, што тут было жыцьцё шмат вякоў раней. З многімі курганамі зьвязаны навейшыя легэнды аб казаках і аб уцякаўшых французах. Але апроч гэтага, ёсьць цэлы рад бязумоўна старасьвецкіх помнікаў. Напрыклад, недалёка ад горада ёсьць „гара Шайтан“, надзіва правільнай формы, але вельмі аграмадная для кургана. Знаходзіцца на зьлёгка нахіленай роўніцы. З акружаўшых гэты курган равоў у працягу часу парабіліся аграмадныя яры. Ля гэтага ўзгорку, кажуць, былі знайдзены нейкія каралі.


Пацерка.

Ёсьць яшчэ высокі ўзгорак „Каршакова гара“. Паводле народнага паданьня, гэта магіла магутнага волата Каршака. Курган на прыродным узгорку ледавіковага пахаджэньня.

На ледавіковых таксама ўзгорках, на $1^1/_2$ вярсты к захаду ад прадмесьця „Кімбароўкі“, сярод галачак, сустракаюцца пацеркі вось якія: яны зроблены з нейкага слаістага каменя, дзірачкі часам закамянелі. Над прадмесьцем Кімбароўкай паміж вусьцяў двух яроў, якія выходзяцца разам, захаваліся часткі вала з пад‘езднай дарогай уздоўж вала.




У маёнтку Загорыны на беразе р. Прыпяці захавалася гарадзішча. У ваколічных аграмадных ярох знаходзяць абабітыя наканечнікі стрэл.

На пяшчаных дзюнах нізкага берагу ракі сустракаюцца месцы, абсыпаныя штучна зробленымі скалкамі і глінянымі чарапкамі напалову апаленай пасуды з асновай з травы. На меней апаленых і болей тоўстых чарапкох сустракаюцца орнамэнты.

Орнамэнт аднастайны і не перамешваецца з іншым.

Там-жа сустракаюцца старасьвецкія марскія ракаўкі, а дзе-ні-дзе жалезныя наканечнікі стрэл. Галоўным чынам, крамнёвыя наканечнікі. Знаходзяць таксама чарапкі з гліны трох слаёў розных па колеры, але без орнамэнту.




Орнамэнты.

З заходняга боку горада прыкметны ўзмацаваньні, нібы зробленыя войскам Наполеона. Сяляне часта знаходзяць на полі монэты часоў Кацярыны або францускія монэты, страмёны альбо пагрызаныя іржой шаблі.



Наканечнік стралы.

У мінулым годзе на замкавай гары знашлі груба высечаны з каменя крыж, шмат касьцей і старасьвецкія грошы.

У прадмесьці Кімбараўка яр размыў цэлы могільнік, дзе глыбінёй на поўаршына ў зямлі былі труны ў выглядзе вузкіх скрынь. Труны зьбіты з сасновых дошак драўлянымі цьвякамі і стаяць у шэрагі адна на аднэй. Косьці, апроч вялікіх бярцовых і чэрапа, струхлелі. У кожнай труне 2—3 чал., галовамі ў розныя бакі. Труны стаяць з усходу на захад. Кажуць, што калісьці тут напаў вялікі паморак на людзей і што даўней пры дзядох тут быў могільнік.

У другой часьці гораду 6 год таму назад вырылі шкілет з шматкамі чырвонай кашулі і старасьвецкай зброяй (лук, меч, дзіда).

Ля старога манастыра (Кімбараўка цяпер фабрыка) вырылі шкілет у стаячым выглядзе з перабітымі касьцямі рук і ног.

Гэтыя адрывачныя весткі паказваюць, што Мозыр зьяўляецца цікавым месцам ў археолёгічных адносінах і павінен зьвярнуць на сябе ўвагу археолёгаў Беларусі.

А. Крукоўскі.

# Каменныя валы.

У левы бок дарогі, што вядзе з Мозыра і в. Бібікі Мазырскага раёну, паміж хут. Нагорныя і в. Бібікі (на адлегласьці $2^1/_2$ кілёмэтраў ад в. Бібікаў) ляжыць патрэсканы камень (пескавіковая глыба шэрага колеру) разьмерам да 4 мэтраў у даўжыню і да $1^1/_2$ мэтра ў шырыню. З аднаго боку ад гэтага каменя, на адлегласьці ў поўаршына, знаходзіцца другі, блізка ў тры разы меншы камень. Першы камень сяляне завуць „каменныя валы“, а другі—„каменнае ярмо“. Распалажэньне камянёў паказана на малюнку.




Сярод насельніцтва в. Бібікі і хут. Нагорныя пра гэтыя каменьні існуе наступная легэнда:

„Калісьці, на „вялікдзень“, чалавек паехаў араць, разважаючы: „пабачым, ці многа я наару за вялікі дзень?“ Жонцы загадаў прынесьці абедаць. Яна прынесла абед у двух гаршкох. Чалавек паабедаў, аддаў жонцы начыньне і сказаў ёй ісьці дамоў, не азіраючыся назад. Жонка пашла, але цікавасьць прымусіла яе азірнуцца назад і яна ўбачыла, што валы скамянелі, чалавек яе скамянеў, сама яна скамянела, скамянелі і тыя гаршкі, якія жанчына несла. „Каменныя валы“ штогод уваходзяць у зямлю ўсё глыбей, а як схаваюцца ў ёй зусім, дык будзе канец сьвету. Калі каменем біць аб „валы“, дык з іх „цячэ кроў“.

Трэба заўважыць, што старыя людзі сварацца на дзяцей, калі бачаць, як апошнія б'юць каменьнем „валы“.

Апроч таго, старыя людзі запэўніваюць яшчэ і ў тым, што каля „каменных валоў“ быў яшчэ трэці камень („скамянеўшы чалавек“),

які ляжаў сьпераду „каменных валоў“, і ў тым, што на адлегласьці 100 саж. ад памянёных каменьняў, каля дарогі, у кірунку да хут. Нагорныя быў даўней камень, падобны да чалавека, а каля яго—два меншыя каменьчыкі („скамянеўшая жанчына і два гаршкі“). Камень, абазначаўшы „скамянеўшага“ чалавека, быў яшчэ ў 1905 годзе, аб чым памятуе і настаўнік Бібікаўскае школы, пра каменьні-ж, абазначаўшыя „скамянеўшую“ жанчыну і два гаршкі, ён ня памятуе, каб яны былі. Значыцца, цяпер ёсьць толькі два камяні „каменныя валы“ і „каменнае ярмо“.

Мясцовасьць, на якой ляжаць каменьні, мае назву „каменныя валы“.

Цікава яшчэ і тыя весткі старых людзей, што „каменныя валы“ гадоў сто таму назад мелі „ногі“ (трэба, мабыць, разумець 4 каменныя слупкі, на якіх ляжыць камень), але гэтыя „ногі“ з цягам часу засыпала пяском. Гэткае зьявішча магло быць, бо „каменныя валы“ ляжаць у мясцовасьці, дзе вецер перасыпае пясок з месца на месца (на Мазырскім узвышшы ў паўднёва заходнім кірунку ад Мозыра шмат сыпучага пяску).

У вартыкуле А. К. Кіркара: „Помнікі часоў першабытных“, які зьмешчаны ў III-м томе II-й ч. „Живописной России“, знаходзім зьвесткі аб тым, што Рагвалодаў камень (у 19 в. ад Воршы), паводле апавяданьняў насельніцтва архэолёгу К. П. Тышкевічу, быў на 4 слупкох, меў галаву і быў падобны да жывёліны, а пад камень можна было хавацца ад дажджу. Рэктар Аршанскай езуіцкай калегіі Дэзідэры Рышардо ў паведамленьні канцлеру М. П. Румянцаву пра Рагвалодаў камень казаў: „надтрунны камень быў узмоцнены на 4-х слупкох, а старыя людзі памятуюць, што пад ім можна было праходзіць“. Архэолёг К. П. Тышкевіч пісаў, што ў сялянства аб Рагвалодавым камені існуюць легэнды, напрыклад, што мельнік адсек каменю галаву і зрабіў з яе жорны, а камень (жорны) ня толькі сам перамалоўся, але змалоў увесь здабытак і сям'ю мельніка. Там-жа (у вартыкуле: „Помнікі часоў першабытных“) знаходзім прызнаньне Рагвалодавага каменя дольмэнам.



# З падарожных запісаў.

М. Грамыка.

## Па ўсходніх раёнах БССР.

Улетку 1924 г. нам давялося прайсьці, а часткаю праехаць падводамі, раён нашага верхняга падняпроўя, ад г. Воршы да мяжы з РСФСР. Затым паварацiць на м. Ляды, Горкі, Мсьціслаў, прайсьці ўздоўж р. Проні ад Горак да м. Прапойску і нарэшце прарэзаць шлях Прапойск—Магілеў. Беглымі падарожнымі ўражаньнямі, што занесены былі ў вольны ад непасрэдных заданьняў (геолёгічных) час, мы і дазволім сабе падзяліцца з чытачом „Нашага Краю".

З дарожнай торбай на плячох, з малатком ды візірным компасам у руках, у кампаніі студэнтаў-супрацоўнікаў, вясёла і бадзёра было йсьці пад добрым жнівенскім сонцам уздоўж срэбранага Дняпра, карыстаючыся ў любы момант яго хвалькамі, чыстымі, сьвежымі і жывымі.

Ворша засталася ззаду. Ужо чуваць перакаты кабылякскіх „парогаў". Усё рэчышча ўкладзена густым памостам каменьня, гэтымі шэрымі прыблудчыкамі з далёкай гранітнай Фінляндыі. Што занясло іх на нашыя палі, на рэчышчы, на раўчакі, на вазёры? Якая сіла перакінула да нас, на Беларусь, гэтыя адломкі першатворнае земнае кары, гэныя „валуны" па расійскай тэрмінолёгіі, „накідні"—па нашай? Будзем трымацца старой, пакуль яшчэ моцнай тэорыі,—ледавіковага пахаджэньня накідняў.

Рэчка перакатваецца праз іх, пеніцца на малых, ліжа ды абягае вялікія накідні, а яны ляжаць, здаецца, нярухома, на пліце дэвонскіх вапнякоў. Вапняк моцны. Нялёгка падтачыць яго, падмыць, пракапаць глыбокае рэчышча,—і вось чаму зусім плыткі Дняпро каля вёскі Кабылякі, перайсьці можна яго ўпоперак, але плынь моцная між каменьняў, ня кожны пойдзе ў барацьбу са старым.

Вёска Кабылякі ляжыць на правым беразе, ёсьць „ніжнія" і „верхнія" Кабылякі і адны над самай рэчкай, на першай тэрасе (прыступцы) Дняпра і другія—недзе высака, за равамі, за лесам, на карэнным беразе.

Равы тут сухія ўлетку,—яругі зарасьлі лёгкім бярэзьнікам ды ляшчынай. Па некаторых абгаляюцца пласты парод ледавіковага і пасьляледавіковага часу. Гэныя адклады наагул ляжаць у раёне Воршы беспасрэдна, відаць, на дэвонскай базе, г. ё. на дэвонскай вапняковай пліце. Заходзім у „верхніх" Кабылякох у хату старшыні сельсавету. Хата новая, недабудованая і пераборкай падзелена на дзьве часткі. Мэбля—шуфляда, ложак драўляны і што якое іншае гарадзкога вырабу. Гаспадыня саспражыла нам яечню, пачаставала малаком, адмовілася ад грашовай падзякі. У размове між членамі сям'і чулася беларуская слоўная стыхія, сапсутая крыху блізкасьцю Воршы ды мо' яшчэ былой казармай (гаспадар—былы

салдат).—„На во, еж... Няма. Што вы гаворыце? Хадзі сюды“ і г. д. Побач: „нельзя“ (бацька да дзяцей) і „папка“ (заместа бацька, тата).

Але досыць сядзець у хаце, Дняпро цягне да сябе.

Рэчка плюскоча і б‘е ў пясок. Парогі засталіся крыху ніжэй. Берагі прыгожыя: прыступкі йдуць над прыступкамі; на кожнай можа выцягнуцца вёска. Прыступкі ў вербах, якія аддаюць серабром на ветры.

Баба, што прышла на рэчку, кроках у 100 ад нас, доўга ўглядаецца ў наш бок і пасьля, як-бы раптам нешта зразумеўшы, падтырквае спадніцу і пачынае клапаціцца каля вады. На тым беразе ходзіць дзед пастуховага выгляду і, спыняючыся ды зрываючы траўку, пасоўваецца ўздоўж Дняпра. З-пад лесу чуваць дзіцячыя галасы. Час адпачынку скончыўся. Углядаючыся ў пяскі, гліны ды каменьні, рушым наперад, супроць плыні Дняпра. Пад вечар прыходзім у фальварак Берасьцёнава (Берестеново), дзе і спыняемся нанач. Былы маёнтак. Цяпер гаспадараць тут чатырнаццаць сямей, якія разьмясьціліся ў значна падруйнаваных былых панскіх палацах. П‘ем гарбату ў аднаго з членаў таварыства, былога садоўніка. Кватэра яго—два досыць чыстыя пакоі, але як лінуў дождж, выявілася, што страха мала адпавядае свайму прызначэньню. З размоў з гаспадаром выявіліся некаторыя непарадкі і непаразуменьні між членамі таварыства, галоўнай прычынай якіх, відаць, была неаднароднасьць складу: садоўнік ня хоча касіць, дый ня ўмее; няма мусіць, сярод супрацоўнікаў належнага організатара. А шкада, бо працаваць у таварыстве ёсьць на чым; было-б дзе і пажыць і пакарыстацца адпачынкам: добры парк з дубкоў і хвоі; добрыя на цагляных слупох стайні, хлявы, сьвірны. Сьпім на сене. Пад страхой зусім павосенску хлюпае дождж, але мы перапрануліся ў сухое (падвода прывезла нашыя рэчы) і нам добра.

12/VIII. Зрабілі ўчора пераход ад Берасьцёнава да м. Дуброўны, што берагам лічыцца каля 12 вёрст „з гакам“. Рабілі заходы ў бок ад Дняпра, рабілі „асечкі“, „выемкі“, набіралі ўзораў парод. Пасьля мінулага дажджу было добра, нягорача йсьці і працаваць. У Дуброўну ўвашлі каля 7 гадзіны вечара. Спыніліся ў вучылішчы № 3. Настаўнік, як звычайна, прыняў нас гасьцінна. Каротка расказаў сваю біографію: скончыў гімназію ў Барысаве, вучыўся ў Маскве ў межавым інстытуце і г. д., гавора крыху пабеларуску.

Парасклалі мы на падлозе ў клясе свае „глінкі“ (добрыя дубровінскія рознакалёрныя гліны!), каб падсыхалі і павячэралі хлебам, салам, пушачкай консэрваў і—спаць!

З раньня трэба агледзець аколіцы Дуброўны. Мястэчка вялікае, каля 17 тысяч насельнікаў; выглядае досыць прыгожа; мае два масты: над Дняпром і над Дубровенкай; дзьве царквы, касьцёл і цікавую з высокім вострым, пад „готыку“, дахам драўляную сінагогу.

На Дняпры стаіць больш за два дзесяткі лайб, якія тут-жа будуюцца і ходзяць адсюль аж да Магілева, а можа і ніжэй. Грузяць, галоўным чынам, вапну і каменьне.

Ня разьвіты, на жаль, цагельныя вырабы, калі ня лічыць саматужных невялічкіх цагелень. А матар‘ялу на цэглу, на чарапіцу тут хоць адбаўляй!

Насельніцтва ў большасьці—майстры (гарбарства); трымае быдла (багата авец і коз), але быдла на выгляд худое. На рынку па крамках сядзяць тыповыя дробныя гандляры, малым, здаецца, задаволеныя. Нашыя „закупкі“ адразу зьвярнулі на сябе ўвагу і былі прычынай шчырых запрашэньняў. Летні час і сьпешнасьць нашае работы не далі маг-

чымасьці азнаёміцца з культурным жыцьцём мястэчка; ёсьць тры вучылішчы, клюб і інш. Вышлі за мястэчка, па аршанскай шосе. Роўнядзь навакол, хутары.

— Дазвольце спытацца, хто будзеце, куды і чаго ідзеце?—ветліва зьвярнуўся да мяне хутаранін, спыніўшы работу ля гумна. Ён расказаў пра пяскі, што залягалі цэлымі „цыркамі", больш як на 10 дзесяцін, у вадлегласьці каля $1^1/_2$ кіл. ад мястэчка. Мы заўважылі іх яшчэ ўчора з Дняпра, і сёньня ішлі аглядаць іх. Са слоў хутараніна, у 1911 годзе нейкі агроном пачаў быў ужываць гэтыя пяскі на чарапіцу, якой пакрыта фабрыка і яшчэ некалькі будынкаў у Дуброўне. Але чагось справа спынілася.

— Калі пачалі сеяць у вас пшаніцу?

— Ды, сказаць, гады тры-чатыры ўсяго.

Разьвіталіся. Іду на пескавое поле. Пяскі маюць выгляд „цыркаў", на арэне якіх—аддзельныя курганчыкі, вышынёй ад $^3/_4$ да $1^1/_2$ мэтра ад роўня „цырка". Курганчыкаў можна налічыць 20-30. Курганчыкі гуртуюцца і даюць на пляне дугу, прыблізна выпуклінай на захад. Складаецца пескавы цырк з досыць адборнага кварцавага пяску з цікавай цёмнай праплásткай у васнове кожнага курганчыка; гэты цёмны праплástак ідзе і пад самай „арэнай" цырка, на глыбіні ўжо 10—5 см.; сам праплástак грубінёй таксама ня болей 5 см.

Пры аглядзе „цырка" прыходзіць на думку тэорыя акадэміка Тутkоўскага аб выдмах, барханах, якія нібыта ўтвараліся пасьля таго, як ледавік адыходзіў на поўнач. У гэтым месцы пясок мог быць навеяны з боку Дняпра ў той геолёгічны час, калі ровень яго быў значна вышэй за цяперашні; з алювіяльных яго наносаў і былі навеяны, памойму, гэтыя „барханы".—Цёмны праплástак мог утварыцца ад пахаванай зельлявой расьліннасьці, што і цяпер расьце навокал,—галоўным чынам *верас*.

Знаходжаньне на паверхні пяскоў чалавечых костак, некалькіх гліняных чарапкоў і іншых дробных рэчаў заслугоўвае на тое, каб больш уважліва пахадзіць, пакапацца тутака. Зварочваем на гэта ўвагу дубровінскага краязнаўчага гуртка. Цікава дасьледваць другі „цырк", у $^1/_2$ кіл. адлегласьці ад першага, які залягае на балоце і парос хвойнікам.

Варочаемся ў мястэчка.

Сусед, што ўзяўся адвесьці нашыя рэчы ў в. Германы, становіць сабою цікавы тып „мэтыса" (мяшаны тып) беларуса з вялікарусам. Рудая даўгая барада, крыху вольная, разьвязная манера абыходжаньня, расьпеўная гутарка, асобныя слоўцы, накшталт „чаво", „ды нет", „какой", пры беларускай моўнай аснове,—характэрна для некаторай часткі „смаленскага" беларуса.

13/VIII. Вышлі з Дуброўны. Дзень гарачы спачатку, пасьля адлягло.

Берагі пашлі тыпова-морэнавыя,—адхонныя, развораныя ўзгоркі. Лясоў ня відаць. Толькі каля ф. „Барадзінцы" зноў залашчыла вока зеляніна гайкоў.

На рэчцы ўвесь час б'юць каменьні і грузяць яго на лайбы. Во цягнуць угару пустую лайбу тры асначы; ідуць сьцежкай па беразе і шырокія пасы на грудзёх, нахіленыя наперад постаці, разьмерны крок: раз, раз, раз...

Пытаемся ў праходжых маладзіц, дзе можна дастаць малака; раюць спытацца на хутарох „Барадзінцы"; гутарка сялянак чыста беларуская, як і наагул у жаночай частцы насельніцтва мова захавалася лепей.

Два нашых хлопцы пашлі ўгару па малако; чакаем іх на лужку; каля нас пасецца хутаранскі статак, галоў з дзесятак; дзятва абступае нас і заглядае нам літаральна ў рот, пакуль сьнедаем. Далей аглядаем крыніцу „Грута“, з каплічкай і іншымі рэлігійна-традыцыйнымі дадаткамі. Вада чыстая, прыемная на смак; трымаецца на плітцы з зьляпняка (конглёмэрату), прашоўшы пласты морэнавых глін і жалезістых пяскоў, якія выступаюць па краёх раўчака; ад жалезістых пяскоў вада крыніцы, мусіць, насычваецца жалезам і ахварбоўвае ў буры колер каменьчыкі і іншыя рэчы каля выхаду крынічкі з цэмантаванага басэйну.

Перад в. Германы Дняпро робіць прыгожую вылучыну, амываючы досыць высокі пескавы поўвостраў, зарослы лазьняком. На поўвостраве стаіць крыж, сьведка, як кажуць рыбакі, няўдалага купаньня нейкага хлапца. Дняпро тут, праўда, шырокі і шпаркі.

Убачыўшы, што мы спыніліся над зрывістым правым берагам, рыбакі з чайкі папераджаюць нас ня купацца тутака. Уваходзім у вёску Германы. Старшыня сельсаветы праваджае нас да хаты досыць заможнага селяніна, дзе ён асталяваў нашыя рэчы і дзе сядзеў і чакаў нас пасланы з рэчамі наперад студэнт Г.

Гаспадар хаты, сталы ўжо чалавек, з шырокай барадой, калыхаючы ўнучку, спаткаў нас ветлівымі словамі: „пажалце, пажалце нічаво, нічаво!“ І гэтак амаль усюды з боку старэйшага пакаленьня мужчын: беларуская слоўная стыхія ў зваротах да сваіх, да сям'і, дзе адчуваецца і багацьце выразаў, і вольнасьць зваротаў, а побач,—надуманая цяжкая псэўдо-расійская мова.

Мястэчка Расасна невялікае, беднае напалову сялянскае паселішча. Невялічкі чарнявы „прадсядацель“, зрусіфікаваны, досыць бывалы чалавечак (бываў аж у каўказкім Грозным), прыняў нас, як мог, дакляраваў свой сенавал, схадзіў сам з нашым „заўхозам“ Г. па малако, па яйкі; да рэчы, ва усім мястэчку здабылі толькі кваснага малака. Цукеркі, што падкупілі мы ў Дуброўне, адразу перацягнулі на наш бок гурток дзяцей нашага гаспадара ды суседзкіх: прыцягнулі квасу, яблык.

Спаць было добра на сене пад паветкай, але месяц у гэтую ноч вырабляў няма ведама што (было зацьменьне) і перашкаджаў спаць ня меней за таго сабаку ў в. Германы, што брахаў усю мінулую ноч каля нашай пуні.

15/VIII. Ад Расасны йдзем левым берагам Дняпра. Палявыя работы ў поўным развоі, асабліва па правым беразе, дзе аж да рэчкі падыходзяць шнуры поля. Жнуць авёс, звозяць жыта і сена і дасьпявае лён. Залатая Беларусь! Сяляне вітаючыся і даведаўшыся, што мы з „самога“ Менску, выказваюць цікавасьць да прылучэньня[1]), да разьвіцьця прамысловасьці; даведаўшыся аб мэтах нашае падарожы, з ахвотай паказваюць „каменны вугаль“, які і „рыдлёўка не бярэ“, і які аказваецца або торфам, або жалезістым пескавіком.

16/VIII. Вёска Кліменкі. Нечакана трапілі ў саюзную рэспубліку, аб чым выразна заявіў нам старшыня сельсавету:

— Да, граждане, вы далеко зашли, вы уже не в своей Белоруссии.— А дзе-ж граніца?—А вот между нашей деревней и Горанами.—Ну, што-ж, дык значыць мы вашыя палонныя—жартуем мы, мяшаючы адразу саюзныя мовы.

Сям'я нашага гаспадара, таго-ж самага „прадсядацеля“, дружная, ціхая. Жывуць разам: бацька, маці, тры браты і дзьве сястры; адзін сын,

[1]) Разумець прылучэньне да БССР.

старшыня сельсавету, мае сваю сямейку ў 4 душы; усяго дзесяць душ у ваднэй хаце.

Сьпім на гумнішчы: хлопцы на таку, я каля гумна на возе з сенам. Раніца. Аглядаюся навокал. Тыя-ж пуні з сенам ды гумны абкладзеныя па сьценках снапамі поскані, дроўцамі... Тыя-ж калоды, ты-ж гароды з бульбай, з канаплямі, з капустай, што бяжыць уніз пад рэчку. Тая-ж пастуховая дуда. „На етым баку каровы не дзяржыця"! пачуўся голас бабы. Тая-ж Беларусь. Праўда, старшыня старанна вытраўляе з свайго абыходу мову бацькоў сваіх, але жаночая і дзіцячая стыхія бярэ сваё!

Хаты на вёсцы досыць добрыя, з вялікімі, пановаму, вокнамі, з саламянымі матамі на іх. А вунь прачынаецца і Дняпро, прадзіраючы вочы з-пад начнога туману. Па той бок—нашая афіцыяльная Беларусь; па гэты, дзе мы ляжым,—РСФСР.

Ах, які прывабны парк у ф. Арловічы! Яліны, таполі, бярозы, дубы. Хмызьнякоў, думаецца, ня меней, як у якім „Нікіцкім садзе", каля Ялты.

Сядзім над зрывам мэтраў 15, глядзімся ў Дняпро і падбіраем брусніцы. Захаваўся і добра даглядаецца саўхозам фруктовы сад.—Чым лавіш, дзед, рыбу?—пытаемся з гары.—Шнуры становім,—нясецца голас над прывабным улоньнем рэчкі.

Апошні пераход каля Дняпра, апошняе купаньне—разьвітаньне са старым на пескавым лазьняковым беразе,—бывай здароў, сівавусы!

Да рэчы сказаць, што да „пляжу" прышлося ісьці з добры кілёмэтр, да вялікай дняпроўскай вылучыны, прыметнай і на карце. Берагі-ж каля селішча Фоміна складаюцца з цікавых моцных (да 4-х мэтраў) пластоў тлустых чакаляднага колеру глін, якія падсьцілаюцца пяскамі і даюць з гэтае прычыны зрывы і апоўзкі; самі гліны крыюцца пластом крохкага жалезістага пескавіку.

Начуем на хутары Холбні, прашоўшы кілёмэтры $1^1/_2$ ад Дняпра (ад Фоміна). Хутар старога, „Сталыпінскага" тыпу: чатырохкутны двор, абнесены будоўлямі ды высокім парканам, у вадным куце двара—хата, вокнамі на вуліцу.

Мова гаспадара і яго сына, рослага хлапца, досыць чыстая беларуская. Ёсьць у хаце некаторыя беларускія кніжкі, па агрономіі. Сын запытаўся ў нас, што гэта такое „насеньне": там ужываецца слова „семя".

Мястэчка Ляды—бойкае, гандлёвае, з $2\text{-}2^1/_2$ тысячамі насельнікаў. На рынку стаяць вырабы з мясцовае гліны,—місы, гарлачы, кубачкі і інш. Можна дастаць добрага мёду, напіцца гарбаты, малака, нават зэльтэрскай вады.

— Ёсьць, што ў фунце знойдзеш дваццаць жыцін. Аддай рубель за пуд жыта, зьмелеш, дык адзін касьцёр.—Чуем крамныя размовы.

Выходзячы з мястэчка, над возерам аглядаем абгаленьне суглінку, жаўтаватага пяску і гліны. Але гліну на выраб бяруць ня тут (тут морэнавая, з каменьчыкамі), а за мястэчкам у бок Дняпра.

Даходзім да в. Кісялі, дзе спыняемся ў хаце нашага падводчыка. Частуемся добрым халодным квасным малаком і йдзем у кампаніі мясцовых хлопцаў на рэчку Мярэю, граніцу з РСФСР. Хлопцы здаровыя на выгляд, палітычна досыць разьвітыя, імкнуцца ў вышэйшую школу.

Запрагаюць нам парку коняй, і па пыльнай лёэсавата-суглiністай дарозе, праз м. Леніна (б. Раманава), кіруемся на Горкі. Тлумачым фур-

ману, што нам трэба ў Інстытут заехаць; ён спачатку не разумее, пасьля ўцяміў, дадаўшы:—А, там, дзе *настраеніе*,—(пастройкі, будоўлі, трэба разумець).

17|VIII. А поўначы пад'ехалі да „настраенія“, г. ё. да інстытуцкага маёнтку. Брама замкнута. Сады і парк напоўнены галасамі сваёй і гарадзкой публікі. Электрычныя ліхтары; цэлы гарадок будынкаў; вуліцы, панэлі, парадныя дзьверы і палісады. Начуем у студэнцкім інтэрнаце, дзе нас прымаюць гасьцінна.

18|III. Аглядаем інстыт. будынкі і парк. Ліпавыя прысады ўпіраюцца ў муры; вокны будынкаў глядзяцца ў зеляніну. Фізыка падміргвае батаніцы. Стуку і грукату „дынамо“ адказваюць пародзістыя кароўкі з сваёй „фэрмы“.—Крыху бруднавата па прысадах,--дык ня дзіва: амаль увесь горад праводзіць тут цёплыя летнія ночы.

Інстытут [1]) пануе над невялічкім гарадком—Горкамі. Гарадок стаіць пры Інстытуце. На рынку, побач з крамачкамі, дзе знойдзеце цукеркі, абаранкі, папіросы, стаіць крама, дзе ў вітрыне выстаўлены цыркулі, лінейкі, ватманаўская папера і іншае. Спажывец—студэнт. Студэнтаў вы бачыце і па невялічкіх сталоўках, і на пошце.

Яны не даюць гарадку заснуць, яны падбадзёрваюць жыцьцё па гэных вулачках, па гэных жаўцістых лёэсавых узгорках.

19|VIII. Маршрутам едзем праз м. Шамава на Мсьціслаў. Дарога йдзе па вадападзеле, пакрытым лёэсам і лёэсаватым суглінкам. Пыл ня горай, як дзе-небудзь на поўдні ў стэпе. З жалем успамінаем зялёную, прывабную даліну Дняпра: лепш было тамісьці, як тут ехаць. Прыродных абгаленьняў надта мала. Дзе-ні-дзе над стаўком абгаліцца пласт, другі; або дарога пралягае ў няглыбокім веснавым рэчышчы, „каньёне“, і дае тыя самыя жаўтаватыя зрывікі лёэсу, пад якімі звычайна выступае морэнавая гліна.

Заяжджаем да свайго падводчыка ў Паляшчыцы. Вёска разьбіваецца на пасёлкі. На старым месцы, на „бацькаўшчыне“, засталося некалькі двароў; заместа большасьці хат стаяць шкілеты комінаў, і вёска робіць сумнае ўражаньне пагарэлай і, ня гледзячы на гэта, большасьць з ахвотай высяляецца. Наш гаспадар мае 11 дзесяцін зямлі; сям'я з дзесяці чалавек; жанаты сын, дзяцюк на поўгалавы вышэйшы за бацьку, жыве пры ім; самому 46 год, а апошняй дзяўчынцы 2 гады.

Спрытны, практычны мужчына, які ўмее ў час і падводу прапанаваць, і „пакупіць“ выгодна гаспадарчую рэч, і ветрачок адбудаваць на загуменьні. Гаспадар наш узяўся везьці нас да самага Мсьціслаўля.

Перад м. Шамавым спаткалі высокага сівога дзеда, акуратна апранутага ў доўгаполую сьвітку. Да рэчы сказаць, доўгаполая вопратка, рэдкая на Беларусі, досыць часта спатыкаецца ў Горацкім раёне. Дзеду стукнула сто год. Дзед яшчэ моцны, бадзёры, шоў з кіем да хаты пасьля „абедні“. Гутарка сачыстая, беларуская. Ад папіросы адмовіўся:—Ніколі ня курыў.

— Ну, а да выпіўкі як, дзядуля!

— Чарку глынуць іншы раз прыходзілася.

У Шамаве цэлае мора сьвяточна апранутага люду; асабліва жаночая палова старанна вынесла на „мір“ свае рознакалёрныя хустачкі, спадніцы, андаракі. „Дзейства“ царкоўнае перашло ў дзейства „сьвецкае“: каля дзяўчат увіваюцца хлопцы; дзяўчаты трымаюцца дружнай грамадкай, так і да хаты пойдуць. У цяньку пасела кампанія сталых жанчын, пад-

[1]) Цяпер ужо акадэмія. М. Г.

правіць аборкі на лапцёх, падмацавацца перад дарогай, яны сьмяюцца з дзеда, які трапіў у іхную „кумпанію“.

Можна было-б занатаваць тут досыць этнографічнага і бытавога матар'ялу, але часу мала, трэба рушыць на Мсьціслаўль („Амсьціслаў“).

20/VIII. Вось і ён, гэны стары горад. Між фальваркам Лютня, за якім мы спыняемся, і горадам ляжаць так званыя „цялячыя равы“. Гэта глыбокія досыць сухадолы, з зрывістымі тыпова-лёэсавымі сьценкамі. Пераплятаючыся, упадаючы адзін у вадзін, яны ўсе выходзяць на даліну рэчкі Віхры. Пахадзіць, палазіць па гэных зрывах з гадзінку другую,—усё роўна што пабываць ў праўдзівай „горнай“ мясцовасьці. Тоўшча лёэсу абгаляецца на 4-6 мэтраў і мае тыповую „слупчатую аддзельнасьць“. Пачынаецца лёэс у верхніх паземах беспасрэдна пад глебай крыху чырванаватым (цагельнага колеру) пластом, пераходзячы глыбей у характэрны шэра-жаўтаваты колер. Лёэс падсьцілаецца тоўшчай грубых пяскоў з уключэньнямі (лінзамі) жарствы, і затым морэнавай глінай (так званая *верхняя* морэна), з каменьчыкамі—накіднямі. Вялікіх каменьняў, да 1 мэтра, не сустракаецца.

Аколіцы Мсьціслаўля—тыповыя лёэсавыя плято. У кірунку на Горкі лёэс „мсьціслаўскага“ тыпу, выразны і значнай грубіні, зьмяняецца лёэсам меней тыповым, больш сугліністым, які можна было-б назваць „шамаўскім“ тыпам.

Глебы па ўсёй мясцовасьці досыць добрыя, урадлівыя, але патрабуюць, са слоў сялян, частых дажджоў.

22/VIII. Выходзім зноў з Горак; на гэты раз шукаем р. Проню і ідзем па яе берагох уніз.

Проня вышэй Горак (Слабада) цячэ па тарфяністай даліне і ўяўляе спачатку мала цікавую рачушку, але чым далей, тым прыгожасьць „маладой“ рэчкі выяўляецца ўсё выразьней і выразьней. Пад вёскай Сапрыкі Проня пашырае сваю даліну на $^1|_4$-$^1|_2$ кілёмэтра. Карэнныя берагі адхонныя; беспасрэдныя берагі рэчкі часьцей складаюцца з тарфяных пластоў, які часам хаваецца пад грубым пескавым пластом. Рэчка ўвесь час робіць крутыя загібіны: на адлегласьці ў 100-150-200 мэтраў Проня дае павароты на 80-90°.

У канцы вёскі Кузовіны саматужныя цагельня. Выступаюць па беразе бура-кафейныя гліны з каменьчыкамі і белымі вапеннымі плямінкамі.

23/VIII. Вось і Дрыбін. Ну і блукаліся-ж мы на шосе, скіраваўшыся за цемрай ня ў той бок! Толькі а 10 гадзіне ўваходзім у мястэчка. Цёмна. Ні „прадсядацеля“ ў хаце, нікога! Дзе каго шукаць па цёмных даўгіх вуліцах? У вабыватэляў няма прытулку. Хоць ты начуй у каго на ганку. Нарэшце, допытамі і блуканьнем „па ачосы“ знаходзім хату студэнта X, дзе ўжо даўно пахрапваў на сене наш „перадавік“ (што паехаў наперад з рэчамі). Усё добра, што добра канчаецца; сена і нам хопіць. Напалову местачковая, напалову вясковая хата і двор. Беднавата. Адчуваецца адсутнасьць жаночага вока і рукі: гаспадар (бацька студэнта X) удовы. Сыны—то ў навуку пашлі, то служаць, а старому цяжка: скардзіцца, што ні адзін не ажаніўся яшчэ!

Раніцай заходзім па свае рэчы на б. фальварак, дзе зьмяшчаецца цяпер школа. Пустыя былыя панскія пакоі. Праз акно глядзіць прысада, сьмяюцца кветкі. Ветлівая жонка настаўніка частуе гарбатай, малаком. Падмацоўваемся, дзякуем і выходзім праз мястэчка зноў на Проню, якая штодня робіцца неяк радней і цікавей.

Яна капрысная, як дзяўчына; яна ня трымаецца карэнных берагоў; яна ня выпрацавала сабе яшчэ сталага рэчышча, а ўецца па даліне, як зьмяя. Не дарма амэрыканскія геолёгі завуць падобныя рэчкі „маладымі“.

24/VIII. Вёска Заложжа, 3 кілёмэтры ўбок ад Проні. Спалі на сене да 10 гадзіны раніцы (дождж усю ноч). Зьбіраемся зараз на Радамлю. Ну і вёсачка. Хлапцы спрытныя, вострыя, за слаўцом у кішэню не палезуць. Школы няма. Мы і так граматныя. Ха-ха-ха!—быў адказ сьмехам. Позна ноччу чуліся каля адрыны, дзе мы спалі, нейкія працяглыя сьвісты, гутарка хлапцоў, сьмех.

Пад дажджом дабраліся да Радамлі. Знашлі свае рэчы ў сакратара, пераапрануліся ў сухое і п'ем гарбату за чыстым сталом. Хата падвойная; у першым, папярэднім пакоі —бацькі; у другім, чысьцейшым—сын—сакратар сельсавету.

Ложак, драўляная канапка, зэдлікі, крэслы, шафа,—вёска ўсё часьцей абзаводзіцца гарадзкім абсталяваньнем.

Дождж ідзе і ідзе. Сумна. Зноў сьпім на сене. Раніцай зноў дождж, як „восенскі“. Але трэба ехаць. Падвода рыхтуецца.—Сям'я зрусіфікаваная. Двое сыноў працуюць у Баку, адкуль падмацоўваюць грашмі бацькаву гаспадарку.—У нас язык зьмешаны.—І праўда, тут-жа загадаў бацька запрэгчы „аднаго лошадзя“: мусіць думаў пра каня, а сказаў пра лошадзь.

25/VIII. Чавусы. Мясцовасьць пад горадам складаецца з досыць значных узгоркаў, морэнавых грудавін. Гарадок стаіць на сутоцы р. Басі і Проні; налічвае каля 4-х тысяч насельнікаў, і здалёку выдзяляюцца сярод шэрых драўляных дахаў тры царквы і чырвоны касьцёл. Гарадок ціхі, закінуты.

Спыняемся ў школе. Вечар. Дождж. Студэнты пашлі да свайго тавыраша. Школьны служыцель, ціхі чалавек з барадой „апостала Пётры“, і цененьнім галаскам невядома якога „апостала“, апавядае цэлы роман з свайго жыцьця.

Чавусаўскаму гуртку прыроднікаў можна было-б параіць акуратна дасьледваць *белыя кварцавыя пяскі*, што выступаюць у рове, па дарозе Чавусы—Бардзінічы (кілёмэтраў пяць ад Чавус, у $^{1}/_{4}$ кіл. ад дарогі, у левы бок), там-жа крэйда пад імі; таксама каля в. Скварск, сярод лесу—белыя, тлустыя гляістыя пароды. Са слоў сялян, гліны гэнае вывозілася гадоў 30 назад па 500 вазоў.—Ае, сказаць вам, адна-дзьве дзесяціны.—Але, мусіць, што гэта ня зусім так. Трэба дасьледваць.

Уся мясцовасьць Чавусы—Скварск грудавінная, цяжкая для земляроба.

Сялянства Чавусаўскага раёну выглядае бяднейшым за Горацкае.

27/VIII. Ляжым над Проняй. Хутары на правым карэнным беразе. Могільнік у хвойніку. З пронскіх лугавін дзьме вецярок. Па грудавіне выцягнуўся шлях на Прапойск. Чавусы яшчэ відаць. Двох хлапцоў перападзяць па паромчыку на левы бераг, каб сабраць узоры пяскоў, што жаўцеюць на абгаленьні ў адлегласьці кілёмэтра ад нас. Засталося вярсты тры да начлегу. Чатыры гадзіны па палудні.

28/VIII. Вёска Красная (ня *чырвоная*) Слабада. Сядзім пад плотам. Па той бок Проні—сьцяна дубняку. Каля нас—гусі, сьвіньні. Падмацоўваемся, ідзем далей.

Чым бліжэй да Прапойску, тым вышэй, цікавей берагі Проні. Вось зрыў мэтраў 25—30. Трымаючыся за бярозку, радасна і крыху жудасна глядзець у рэчку. Над ёй павісьлі цэлыя камлі дрэў, з зямлёй, з дзёрнам: гэта апоўзак. На шырыні в. Рабавічы па Проні ўжо выразна выступаюць бела-шэрыя моцныя выпукліны *крэйдавых* парод,—маргелю, пескаватай крэйды і іншых. Шэра-бэлыя крэйдавыя пароды ідуць пад роў-

нем вады, якая абмывае белы сьлізкі фундамант. Цэлыя кавалкі берагу, з дрэвамі, кустамі, апаўзаюць у ваду. Цікава і жудасна поркацца па такіх мясцох над жартаўлівай Проняй.

29/VIII. Учора а 6 гадзіне ў вечары прышлі ў Прапойск. Проня пройдзена з пачатку да вусьця. Гледзячы на сутоку яе з Сожам, хочацца думаць, што гэта Сож упадае ў Проню, а не наадварот. Мястэчка выглядае досыць добра: захаваліся добра дамы; вуліцы чыстыя, пескавыя. Ходзяць параходы на Гомель. З рэчкі (лепш кажучы з рэчак—Проні і Сажа) увесь час вадавозы развозяць па мястэчку ваду. Над зрывам стаіць драўляны „палац“ б. пана Мурамцава. У другім яго палацы прытулілася школа сямігодка.

З боку рэчкі мястэчка ў небясьпецы: нясупынна апаўзаюць берагі ля самых дамоў: мястэчка на „надкрэйдавых“ пяскох, якія ўвесь час „плывуць“ па крэйдзе да вады.

На беразе вырабляюць цэглу з чорнай гліны. Раней выраблялі кахлю. Тут-жа, у Прапойску, спатыкаемся з другой геолёгічнай групай М. Ф. Блюдухо; з якой разьвіталіся аж у Воршы. Дзелімся ўражаньнямі, ізноў разыходзімся: яны „плывуць“ уніз па Сажу, мы кіруемся па шляху на Магілеў.

Праз Лясную, Доўгі-Мох, міма розных „гістарычных“ помнікаў (помнік бойкі Пятра са швэдамі ў Лясной), па вадападзельнай мясцовасьці „пакрываем“ прастору. Амаль усе вёскі „пабіліся“ на хутары. Адхіляемся на рэчку Рэспу, дзе каля в. Грызівец, па левым беразе, сярод лугоў ёсьць выхады *крэйды*, якая тут, як відаць, пашла ўжо на значную глыбіню пад пласты іншых (ледавіковых) парод. Беспасрэдных выхадаў крэйдавых парод у данай мясцовасьці ўжо не наглядаецца.

Начуем у в. Грызівец (зьбіраецца пабіцца на пасёлкі), і 31-га жніўня, аб 11 гадзіне ў ночы знаходзімся сярод цемнаватых вуліц ніжняе часткі Магілева. Аб ім—другім разам.



# Програмы, анкеты і інструкцыі.

І. Гармізэ і Я. Ракаў.

## К абследваньню нізовага коопэрацыйнага апарату.

### Мэта.

Асоцыяцыя Навуковай Організацыі Працы пры Інбелкульце распачынае абсьледваньне сельскага спажывецкага коопэрацыйнага апарату з мэтай паляпшэньня асноў яго дзейнасьці.

У вагульнай коопэрацыйнай сыстэме роля нізовага вясковага копэратыву, які мае дачыненьне да сялянства ў сваёй штодзеннай працы, вялізарная. Дзякуючы ўмеламу абслугоўваньню вясковым коопэратывам ня толькі сваіх членаў, але і ўсяго акалічнага сялянства зележыць ступень уцягненьня сялянства ў коопэрацыю.

Гэтае абсьледваньне павінна вызначыць цэлы рад практычных мерапрыемстваў, якія дапамогуць нашай нізовай коопэрацыі паставіць сваю працу на правільны шлях, што ў значнай меры ўзьніме аўторытэт коопэратыву ў вачох сялянства.

Конкрэтна гэтыя мерапрыемствы выявяцца ў выданьні практычнай кіраўнічай кніжкі для нізовага коопэратара, аб чым ёсьць адпаведная пастанова Інбелкульту.

Апошнім у значнай меры выяўляецца тое значэньне, якое дадаецца гэтаму абсьледваньню, а разам з тым вымагае ўважлівага і перадуманага падыходу з боку дасьледчыка ня толькі ў пэрыод зьбіраньня матар'ялаў, але і ў часе распрацоўкі іх.

### Програма абсьледваньня.

Програма абсьледваньня, якая зьмешчана ніжэй, абхоплівае асноўныя організацыйныя бакі і важнейшыя функцыі, што выконваюцца коопэрацыяй.

І запраўды, калі мы зьвернемся да разьдзелаў програмы ў парадку іх разьмеркаваньня, дык мы сустрэнемся з усімі процэсамі коопэрацыйнай працы ў іх паступовасьці.

Перш за ўсё, пытаньне аб месцы гандлю. Хоць гэты бок зьяўляецца як-бы чыста надворным, аднак, належны выбар месца часта вырашае пытаньне аб жыцьцяздольнасьці коопэратыву.

Разьдзел аб месцы гандлю аддае нямала ўвагі пытаньням пастаноўкі рэклямнай справы (апавяшчэньні) сярод сялянства. Гэта асабліва важна, калі прыняць пад увагу разрозьненасьць, а часам і аддаленасьць сяліб, якія абслугоўваюцца праз вясковую коопэрацыю.

Далей ідзе аддзел „памяшканьне і абсталяваньне". Гэтая справа да апошняга часу застаецца нездавальняючай у большасьці коопэратываў, галоўным чынам, вясковых. Памяшканьні цесныя да таго, што ў рыначныя дні там няма дзе павярнуцца. Маюць яны і шмат іншых недахопаў, якія адбіваюць ад коопэратыву ня толькі звычайнага, але нават і актыўнага пайшчыка, чым і дапамагаюць прыватнаму гандляру.

Даволі падрабязна распрацаваны ў програме пытаньні асабовага складу працаўнікоў. Усім добра вядома тая ўвага, якая надаецца гэтаму запраўды востраму і балючаму пытаньню коопэрацыі. Ад умелага падбору штату ў значнай меры залежыць правільная лінія ў працы, парадак усяе справы і г. д. У сельскай коопэрацыі яшчэ да гэтага часу ёсьць растраты, крадзежы і цэлы рад іншых недахопаў, якія часта зьяўляюцца вынікам ня столькі злоснай волі сколькі проста нягоднасьці працаўніка. Апроч таго, уменьне абыходзіцца з селянінам-спажыўцом, ведаць яго патрэбы і г. д. трэба аднесьці да пытаньняў першай важнасьці.

Програма грунтуецца на трох асноўных элемэнтах коопэрацыйнай практыкі, якія разам складаюць усю опэрацыйную працу: закупка тавараў, перахоўваньне і продаж іх. Ня трэба гаварыць аб тым, якое вялізарнае значэньне мае правільны таваразварот у коопэратыве. Выбраць тавары, патрэбныя сялянам, гледзячы па сэзону; умець купіць іх у пару і па найбольш сходнай цане; перахоўваць тавары так, каб яны не псаваліся; пільнаваць у краме чаргу; даваць больш увагі пайшчыкам і інш. Усё гэта дасьць перамогу коопэратыву над прыватнаю крамай і зможа пераканаць пайшчыка ў тым, што яму выгадней купляць тавары ў коопэратыве, чым у прыватнага гандляра.

Побач з чыста організацыйнымі пытаньнямі знадворнага парадку, абсьледаваньне абхоплівае і грамадзянска-організацыйныя справы нізовай коопэрацыі ў асноўных яе пэрыодах.

### Мэтоды абсьледваньня.

Трэба адзначыць, што гэтая праца ў аснове сваёй носіць характар вывучэньня і павінна быць зроблена шляхам натуральнага назіраньня, але ні ў якім разе абсьледваньне не павінна пераходзіць у форму рэвізійна-праверачнай працы. Назіраньне павінна абмежавацца ня толькі даным коопэратывам, увага-ж мае быць зьвернута на ўсё тое, што яго абкружае і мае ўплыў на працу апошняга. Напрыклад, калі мы цікавімся ўмовамі месца знаходжаньня коопэратыву, яго посьпехам у гандлі, дык варта прыглядзецца таксама, як стаяць справы ў бліжэйшых прыватных крамах, дзяржаўных магазынах і г. д., каб праз параўнаньне можна было выявіць перавагу коопэратыву або наадварот.

Як агульнае правіла, вывучэньне паасобных процэсаў дзеяльнасьці коопэрацыйнага апарату павінна рабіцца ў парадку паступовасьці.

Да працы трэба прыцягнуць актыў вёскі: ячэйкі, профорганізацыі і г. д., прыцягваючы іх асабліва да распрацоўкі мерапрыемстваў, якія вынікаюць з матар'ялаў абсьледваньня.

Табліцы, што прыкладаюцца да програмы, запаўняюцца з коопэрацыйных рахунковых кніг, але гэта павінна рабіцца так, каб не адрываць працаўнікоў ад штодзеннай бягучай працы. Дасьледчыкі павінны сачыць за запаўненьнем табліц, дапамагаючы ім інструктаваньнем.

Для большай дакладнасьці цыфравых даных рэвізыйная камісія павінна заверыць праўдзівасьць табліц.

### Хто будзе рабіць абсьледваньне.

Для таго, каб цыфры былі па магчымасьці паўней і об'ектыўней, патрэбна мець матар'ял па меншай меры ад 40—50 спажывецкіх коопэратываў.

Абсьледваньне будуць рабіць: Інструктарскі апарат Белкоопсаюзу, студэнты Комун. Унівэрсытэту Беларусі, добраахвотнікі корэспондэнты з членаў краязнаўчых організацый БССР.

Хто жадае ўзяць на сябе абсьледваньне, павінен паведаміць аб гэтым Інбелкульт—Асоцыяцыю НОП.

Корэспондэнты-дасьледчыкі атрымліваюць пасьведчаньне на права рабіць дасьледваньне ад імя Інбелкульту і Белкоопсаюзу.

---

# Програма абсьледваньня нізовага коопэратыву.

## А. Месца гандлю.

1. Дзе знаходзяцца ўсе памяшканьні коопэратыву (кантора і крама).

2. Ці знаходзяцца крамы коопэратыву блізка рынку або дарог, па якіх едуць сяляне.

3. Ці клапаціцца праўленьне коопэратыву аб захаваньні ў чыстаце і спраўнасьці дарог, што вядуць да яго (тротуары, сходкі, сумежны пляц і інш.).

Зрабіць параўнаньне месца знахаджэньня данага коопэратыву з крамамі дзяржаўнымі і прыватнымі, суседнімі з ім.

4. Ці ёсьць даволі месца і абсталяваньня для прыежджых сялян (канавязі, павеці, стайні і г. д.).

5. Ці на бойкім месцы стаіць коопэратыў.

6. Пастаноўка рэклямаваньня коопэратыву, як у раёне, дзе знаходзіцца апошні, гэтак сама і ў тых мясцовасьцях, якія да яго прылягаюць.

## Б. Памяшканьне і абсталяваньне.

7. Просторнасьць памяшканьня (плошча).

8. Абсталяваньне (інвэнтар, стойкі, загародкі, вага і інш.). Ці ў поўнай меры здавальняе запатрабаваньні гандлю.

9. Як пабудаваны апарат крамы:

а) ці ёсьць паасобныя магазыны для продажы прамысловых тавараў і для прыёму сельска-гаспадарчых продуктаў;

б) ці магазыны згрупаваны ў адным месцы пры праўленьні, ці параскіданы па ўсім раёне абслугаваньня;

в) ці адбываецца ў рыначныя дні разносны гандаль са столікаў, ці ёсьць пункты для закупкі і г. д.

10. Ці ёсьць асьвятленьне ў патрэбнай меры (у дзень і ў ночы) і ці не засланяе вітрына дзеннага сьвятла.

11. Ці ёсьць досыць паветра ў крамах (кубатура), чыстата і гігіенічныя ўмовы.

12. Ці ёсьць пры коопэратыве двор і як ён выкарыстаны (сыстэма павецяй для пераховуваньня некаторых тавараў, вынаходжаньне тары і як робіцца брудная праца).

## В. Склад супрацоўнікаў.

13. Які штат данага праўленьня.

14. Якая сума продажнага звароту прыходзілася на аднаго супрацоўніка ў 1922/23 і 1924/25 г. г.; які процант забірае ўтрыманьне супрацоўнікаў у вагульнай суме накладных выдаткаў (дадатак № 1).

15. Якая кваліфікацыя супрацоўнікаў коопэратыву, іх агульная падрыхтоўка да гандлёвай дзеяльнасьці, гандлёвы і коопэрацыйны стаж.

16. Падход пэрсоналу да сялянства; ці не заўважваецца рэзкасьць, нехаценьне гаварыць з сялянствам, паказаць яму большы выбар тавараў, што адганяе сялянства да прыватнага гандляра.

17. Падзел працы, разьмежаваньне абавязкаў паміж асобнымі працаўнікамі; парадак падчыненьня.

18. Выпадкі сумешчваньня асноўных коопэрацыйных працаўнікоў (асабліва членаў праўленьня) і які іх уплыў на агульную працу коопэратыву.

### Г. Закупка.

19. Ці ёсьць плян закупкі. Ці прымаецца пад увагу ходкасьць тавараў і неабходныя пропорцыі закупкі тых ці іншых тавараў.

20. Пэрыодычна ці эпізодычна адбываецца закупка тавараў.

21. Ці заўсёды мэтазгодна пасылка ў горад, ці на месца закупкі спэцыяльнага агента. Ці ня выклікае гэта вельмі многа накладных выдаткаў і ці не мэтазгодны ў шмат даных выпадках пісьмовыя зносіны з дастаўшчыкамі.

22. Як часта карыстаецца коопэратыў мэтодам заўсёднай дастаўкі тых ці іншых больш ходкіх тавараў (асабліва прадуктаў харчаваньня).

23. Які асортымэнт тавараў у коопэратыве. Ці адказвае ён запатрабаваньням насельніцтва, якое абслугоўвае коопэратыў (дадат. № 2).

24. Ці прыняты і ўстаноўлены максымальны і мінімальны запас тавараў. Ці ня бывае залежаных тавараў і выпадкаў недахопу ходкіх тавараў, якія ёсьць на рынку ў патрэбнай меры (дадатак № 3).

### Д. Перахоўваньне тавараў.

25. Дзе перахоўваецца запас тавараў: у краме, складзе, прыбудоўцы, на дварэ, пад павецьцю.

26. Ці няма ненормальнасьцяй у парадку перахоўваньня тавараў (вільготнае месца, лішняе цяпло, лішні холад, газа разам з продуктамі харчаваньня і г. д.). Як стаіць барацьба са шкоднікамі (мышы, пацукі).

27. Ці ня цесны склад для перахоўваньня тавару. Ці ёсьць у патрэбным ліку ўваходы і выхады. Ці стаяць склады ў такім парадку, каб было блізка пераносіць тавары.

28. Які парадак у складзе; ці лёгка пералічыць тавары, якія там ёсьць; ці мае кожны род тавару раз назаўсёды прызначанае месца.

### Е. Продаж.

29. Ці ня бывае часам чаргі; па якой прычыне, ці можна зрабіць каб яе ня было, асабліва ў дні рынку.

30. Ці можна ў самыя бойкія дні павялічыць лік прадаўцоў (якія дні лічацца самымі бойкімі), праверыць па цыфрах штодзенных збораў (дадатак № 4); таксама выявіць час гандлю—дні і гадзіны—і яго мэтазгоднасьць.

31. Ці не залежваюцца тавары, якіх няма надзеі прадаць, ці прымаецца гэта пад увагу, чаму яны залежваюцца, колькі часу ляжаць і як думаюць, нарэшце, іх рэалізаваць.

32. Якія цэны і якасьць тавараў у параўнаньні з прыватным рынкам (дадатак № 5).

33. Як даведваецца насельніцтва аб тым, што атрыманы ходкія тавары, якіх раней ня было (рэклямнае пытаньне).

34. Велічыня накладных выдаткаў у паасобных частках параўнальна з усім зваротам продажы (дадатак № 6).

35. Калі даюцца палёгкі (скідкі) пайшчыкам: у канцы году, пры куплі тавараў і г. д.

36. Які процант агульнага таваразвароту прыходзіцца на пайшчыкаў і няпайшчыкаў (дадатак № 7).

37. Ці вывешваецца на відным месцы цана на тавар.

38. Ці ўстаноўлены нормы нястачы тавараў (раструска, усушка і г. д.) у дарозе і ў складзе. Як сьпісваецца нястача.

39. Ці выдаецца тавар у крэдыт; ці прымаецца пры гэтым пад увагу крэдытаздольнасьць; ці ня вельмі шмат даўгоў на руках у пакупцоў (дадатак № 8).

### Ж. Падлічэньне, плян і контроль.

40. Што робіць праўленьне па сваёй ініцыятыве дзеля рацыяналізацыі (паляпшэньня) справы.

41. Якія рацыяналізатарскія паказаньні даюць вышэйшыя коопэрацыйныя організацыі і ў якой меры яны выконваюцца.

42. Як робіцца падлічэньне патрэбнасьці рынку.

43. Ці ёсьць плянавасьць у працы коопэратыву, ці ёсьць плян, ці працуюць па ім, калі ёсьць адхіленьні ад пляну, дык дзеля якіх прычын і ці прыняты яны пад увагу пры распрацоўцы новага пляну.

44. Як і што рэвізавала рэвізыйная камісія; ці запісваюцца яе заўвагі і ці кіруюцца імі ў працы. Тое-ж самае і ў адносінах да ўваг інструктарскага апарату вышэйшых органаў.

45. Ці члены праўленьня і рэв. камісіі правяраюць ход працы па сутнасьці (ня толькі ў грашовых справах). Ці няма захапленьня камэрцыйнай дзеяльнасьцю на шкоду непасрэдным задачам коопэрацыі, як напрыклад, набываньню для насельніцтва патрэбных тавараў.

46. Грашовы стан коопэратыву (дадатак № 9).

### З. Рознае.

47. Ці мае коопэратыў падсобныя прадпрыемствы (млыны, смалакурні і г. д.). Ці апраўдваюць яны сябе.

48. Як ідзе культурна-асьветная праца коопэрацыі.

49. Якія ўзаемаадносіны коопэратыву з вышэйшымі коопэрацыйнымі аб‘яднаньнямі, што стаяць над ім. Якая дапамога даецца коопэратыву зьверху. Ці робіцца інструктаваньне і як часта.

50. Ці мае коопэратыў аддзяленьні. У якой пропорцыі і роўнамернасьці абслугоўваюць яны ў тэрыторыяльных адносінах свой раён. Палічыць звароты розных аддзяленьняў і выявіць ці апраўдваюць яны сябе. Ці запраўды прымацаваныя раёны маюць цягненьне да свайго коопэратыву.

*Увага.* 1. Кожны дасьледчык павінен выявіць сваю ініцыятыву ў справе ўсебаковага выяўленьня дзеяльнасьці коопэратыву, які ён дасьледуе, неабмяжоўваючыся рамкамі данай програмы.

2. Адказы на пастаўленыя пытаньні не павінны мець агульны характар, павінна даваць конкрэтныя апісаньні на грунце фактаў, цыфравых падлічэньняў і г. д.

3. У канцы дакладу даць, па магчымасьці, прапановы аб мерапрыемствах, неабходных паводле разуменьня дасьледчыка, дзеля ліквідаваньня знойдзеных недахопаў.

Дадатак № 1.

| | Сума звароtaў на 1 супрацоўніка. | Агульная сума накладн. выдаткаў. | З іх на ўтрыманьне апарату. | Проц. гр. 3 і 4. |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 1923-24 г. | | | | |
| 1924-25 г. | | | | |

Дадатак № 2.

## Продажны зварот паводле груп тавараў.

| Назва груп тавараў. | Сума. | |
|---|---|---|
| | 1923-24 г. | 1924-25 г. |
| Спажаваньне (вопратка, абуцьце, мануфактура, галянтарэя) . . . | | |
| Тытун, махорка . . . . . . | | |
| Наркотыкі (віно, гарэлка). . . . | | |
| Матар'ялы асьвятленьня . . . . | | |
| Мыла і іншыя тавары . . . . . | | |
| Тавары с.-г. спажываньня. . . . | | |
| Усяго. . . . . | | |

Дадатак № 3.

| Назва ходкіх тавараў. | Асталося на 1/1 1923 г. | Прадана за год. | Асталося на 1/X 1924 г. | Прадана за 1924-25 г. | Асталася на 1/X 1925 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Лёгк. мануфакт. | | | | | |
| Скура . . . | | | | | |
| Соль . . . . | | | | | |
| Цукер . . . | | | | | |
| Галянтарэя . . | | | | | |
| Жалеза . . . | | | | | |
| Цьвякі . . . | | | | | |

Дадатак № 4.

| Сэзон | ЗВАРОТ ЗА ТЫДЗЕНЬ. З яго прыходзіцца на: Нядзелю. | Панядз. | Аўтор. | Сераду. | Чацьвер. | Пятніцу. | Суботу. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Вясна. . | | | | | | | |
| Лета . . | | | | | | | |
| Восень . | | | | | | | |
| Зіма . . | | | | | | | |

Дадатак № 5.

| Назва тавараў. | Да 1/I 1924 г. | | Да 1/VI 1924г. | | Да 1/I 1925 г. | | Да 1/VI 1925г. | | Да 1/I 1926г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Кооп. | Прыв. | Кооп. | Прыв. | Кооп. | Прыв. | Кооп. | Прыв. | Кооп. | Прыв. |
| Паркаль № | | | | | | | | | | |
| Соль . . . | | | | | | | | | | |
| Цукер . . | | | | | | | | | | |
| Газа . . . | | | | | | | | | | |
| Цьвякі № . | | | | | | | | | | |
| Падошвен. скура . . | | | | | | | | | | |

Дадатак № 6.

| | Усяго накладных і гандлёвых выдаткаў | З іх: Заработн. платы з налічэньнем. | Камандыр. разьезды. | Гаспадарч. | Прыстаўка і транспарт тавараў. | Опэрацыйн. | Культ.-асьветн. | Падатак. | Іншыя. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1923-24 г. | | | | | | | | | |
| 1924-25 г: | | | | | | | | | |

Дадатак № 7.

| Каму прадана. | 1923-24 г. | 1924-25 г. |
|---|---|---|
| Пайшчыкам . . . . | | |
| Няпайшчыкам . . . | | |
| Усяго . . . | | |

Дадатак № 8.

| На які тэрмін. | Астача задоўжанасьці коопэратыву. | З яе прыходзіцца: | | |
|---|---|---|---|---|
| | | Грамадз. ня членаў коопэрат. | Звычайн. член. коопэрат. | Членаў праўленьня і рэвізыйн. камісіі. |
| Да 1/X 1923 г. . | | | | |
| Да 1/X 1924 г. . | | | | |
| Да 1/X 1925 г. . | | | | |

Дадатак № 9.

| | Свае і прыцягнутыя сродкі. | | | Разьмяшчэньне сродкаў. | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Зваротныя сродкі. | | | | Нярухомыя. |
| | | | | | З іх: | | | |
| | Паявы капітал. | Уласныя сродкі. | Пазычэныя. | Усяго. | У тавары. | У дэбітор. | Усяго. | З іх заможн. |
| На 1/X 1924 г. | | | | | | | | |
| На 1/X 1925 г. | | | | | | | | |

# ІНСТРУКЦЫЯ

## для запаўненьня анкеты аб вясковых промыслах і хатніх рамествах Беларусі.

Анкета разьлічана на кожны паасобны сельсавет. Яна павінна ахапіць сваімі весткамі ўсе тыя паселішчы (вёскі, дробныя мястэчкі, пасёлкі, хутары і г. д.), у якіх ёсьць той ці іншы промысел альбо рамяство. Гарады і буйныя мястэчкі, якія аднесены да тыпу гарадзкіх паселішчаў, гэтым досьледам не зачапляюцца. Пры запаўненьні анкеты належыць перад усім адказаць на запытаньні, зьмешчаныя на 1 старонцы.

Адказы на пытаньні анкеты павінны быць кароткія і ясныя.

Гэта анкета разглядае толькі тыя промыслы альбо хатнія рамёствы, якія існуюць не дзеля свайго ўласнага ўжытку, а выраб якіх ідзе на рынак, на продаж.

Перад тым як запаўняць самую анкету трэба дасканала разгледзець пабудову яе. Перш на перш анкета падзелена на 14 паасобных граф, з якіх 1, 2 і 3 маюць шчыльную сувязь паміж сабою. Промыслы і хатнія рамёствы разглядаюцца анкетай *у парадку тае сыравіны,* з якой выробляюцца тыя ці іншыя рэчы, альбо тавар. Гэта разьбівае промыслы і хатнія рамёствы на такія паасобныя групы:

| № групы | Назва апрацаванай сыравіны | Назва рэчаў або тавару пасьля вырабу |
|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 |
| 1 | Апрацоўка дрэва. | Абады. Палазы. Дугі. |
| 2 | „ | Колы. Часткі іх: ступіцы (трубкі, калодкі), сьпіцы. |
| 3 | „ | Драбінкі. Кары. Гарбы. Каламажкі. Сані. Вазкі. Часткі гэтых рэчаў: восі драўляныя, трайня, біла, ляскі, падушкі (вузгалоўя), аглоблі, капылы і г. д. |
| 4 | „ | Клешчы хамутовыя. Сядзёлкі. Сядзельныя бірулькі (калодкі для сядзёлак). |
| 5 | „ | Бочкі. Кадушкі. Балеі. Біклажкі. Даёнкі. Ражкі. Маслабойкі. Дзежы. Кублы і г. д. і часткі гэтых рэчаў: абручы, клёпкі, днішчы. |
| 6 | „ | Дубы дзяўбаныя. Чаўны. Душагубкі (выгінанкі). Карыты. Калоды для пчол. Начоўкі. Ступы. Кадоўбчыкі. Шуплі. Шуплікі. Лыжкі, жлукты і г. д. |
| 7 | „ | Мяліцы (цёрніцы). Грэбяні. Калаўроты (самапралкі). Ставы. Навоі. Бёрды. Чапёлкі. Панажы. Набілкі. Чаўнакі. Верацёны. Сукалы. Грабыні. Грабёнкі (часалы) і г. д. |
| 8 | „ | Сельска-гаспадарчыя прылады і іх часткі, плужныя ручкі, дышлы. Рамы для барон. Арфы (веялкі). Малатарні. Сячкарні. Сохі і інш. |

| № групы | Назва апрацаванай сыравіны | Назва рэчаў або тавару пасьля вырабу |
|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 |
| 8а | Апрацоўка дрэва. | Беладраўляныя рэчы: рамы ваконныя. Дзьверы. Вульлі рамачныя (для пчол). Сталы. Лавы. Тапчаны. Зэдлі. Зэдлікі. Шафы. Скрыні (куфры). Школьныя лаўкі і дошкі. Варстаты сталярныя і такарныя. |
| 9 | " | Мэбля ўсялякая. |
| 10 | " | Такарныя рэчы. Разьба па дрэве. |
| 11 | " | Лодкі абшыванкі. Баркі (лайбы). Дубіцы. Вёслы. |
| 12 | " | Расьпілоўка дошчак. Заготоўка матар'ялаў для мэблі. Паркет. |
| 13 | " | Драніца. Лучына. Гонты. Драўляная стружка. Абічайкі. Кашолкі і кашы з лучыны. |
| 14 | " | Музычныя інструманты: скрыпкі, балалайкі, цымбалы, дуды, бандура, ражкі-трубы пастухоўскія. |
| 15 | " | Дзіцячая мэбля і цацкі з дрэва. |
| 16 | Апрацоўка пруцьцяў | Мэбля. Корабы розных сартоў. Кошыкі. Палукашкі. Падстаўкі і кошыкі для вазонаў і кветак. Палавікі. Кружкі. Дзіцячыя каляскі. Кашары. |
| 17 | Апрацоўка кары і лубу | Лыкі. Лапці. Кашалі. Вярэнькі. Каробкі. Пляцёнкі (аплятаная пасуда). Рашоты (палатно). Лубкі. Сявалкі. Рагожы. Берасьцянкі і іншыя вырабы. |
| 18 | Сухая перагонка дрэва | Смала. Дзёгаць. Пік. Шкіпінар (шпіганар). Вугаль. |
| 19 | Плісьнік, сітнік, мячэўнік (балотная трава) | Кашы з плісьніку. Сядзеньні. Цыноўкі. Кузавы, кашолкі, хамуціны. |
| 20 | Папяровая маса і кардон | Цацкі і школьныя модэлі. Справы кніжок (абкладка для кніжок). |
| 21 | Пянька | Вяроўка. Шпагат. Бічоўка. Лапці вяровачныя. Пасы. Канаты. Рыбалоўныя прылады. Гунькі і г. д. |
| 22 | Лён | Ніткі. Палатно. Рушнікі. Абрусы. Хусткі. Кужаль. Зрэб'е. Радно. Крашаніны і набойкі. Вышываньні. Антуляжы (кружавы). |
| 23 | Салома і трава | Кружкі. Капялюшы. Каробкі. Лубкі. Маты. Кублы. Вульлі. |
| 24 | Апрацоўка воўны | Ніткі. Рукавіцы. Пальчаткі. Панчохі. Хусткі. Вязаныя каптаны. Сукны. Коўдры. Лямцы. Войлакі (валёнкі). Паясы. Шапкі. |
| 25 | Шарсьціна, пільсьць і конскі волас | Шчоткі ўсялякія. Пэндзалі. Вырабы з воласу. |
| 26 | Апрацоўка скур | Выраб аўчын і іншых скурак. Юхта. Апойкі. Сырамяць. Падэшвы. Рэмні. |
| 27 | Абуцьцё | Боты. Гамашы. Чаравікі. Сандалі. |
| 28 | Рымарскі выраб | Збруя. Хамуты. Сядзёлкі. Падпінкі. (Чэрассядзельнікі). Набераткі (поўшоры). Уздэчкі. Лейцы (вожкі). Атосы. |
| 29 | Пушніна | Апрацоўка скурак. |
| 30 | Апрацоўка касьцей, рогу і капытоў | Вырабы з косьці і рогу. Клей. Грабянцы. Гузікі. Табакеркі. |
| 31 | Апрацоўка жыроў | Мыла. Мазь. Сьвечкі. |
| 32 | Воск | Вашчына. Сьвечкі. |

| № групы | Назва апрацаванай сыравіны | Назва рэчаў або тавару пасьля вырабу |
|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 |
| 33 | Гліна | Цэгла—сырэц і апалены. Жбаны. Гладышы. Міскі. Талеркі. Макотры. Спарышы. Дзіцячыя цацкі (сьвісьцюлькі і інш.). Чарапіца, трубы. |
| 34 | Крэйда. Гіпс. Пясок і інш. | Выпал вапны. Вырабка шкла. Здабываньне крэйды. Адліўкі з гіпсу і г. д. |
| 35 | Граніт. Вапняк. Інш. камень | Помнікі. Жорны. |
| 36 | Жалеза | Плугі. Лемяшы. Бароны. Матыкі і цёслы. Вілкі. Чапёлы і качэргі. Тапары. Далоты, сьвярдзёлкі. Нажы. Скабёлкі. Сярпы. Завесы. Клямары. Ланцугі. Замкі. Путы. Падковы. Цьвякі і інш. |
| 37 | Бляха | Вёдры. Конаўкі. Лейкі. Цадзілкі. Таркі. Карыты. Даёнкі і г. д. |
| 38 | Дрот | Пасткі. Клеткі і г. д. |
| 39 | Медзь. Бронза | Рондлі. Конаўкі. Замкі. Гарнітуры для дзьвярэй і вакон. Рэчы хатняга ўжытку і інш. |
| 40 | Апрацоўка стужак | Чуні. Хусткі. Гунькі. |
| 41 | Апрацоўка малака | Сыраварэньне. Масларобства. |
| 42 | Апрацоўка мяса і рыбы | Кілбасы. Вяндліна. Рыба сушаная, вандзоная. |
| 43 | Агародніна і садовіна | Сушаная, марынаваная, салоная агародніна і садовіна. Варэньне (конфэктуры). |
| 44 | Апрац. льнян. семя і канап. | Выраб алею і макухі. |
| 45 | Крухмаль | Крухмаль. Патака. |
| 46 | Вырабы з мукі | Булкі. Баранкі. Пернікі. Сухары. Каржы і г. д. |
| 47 | Вада і квас | Квас і г. д. |
| 48 | Кравецтва | Шыцьцё адзежы, кажухі, сьвіткі і інш. |
| 49 | Шапачніцтва | Шапкі. Чапцы. |
| 50 | Малярства | Маляваньне абразоў, ахварбоўка тканін і інш. |

Трэба разгледзець да якой групы належыць той ці іншы промысел або хатняе рамяство і, калі ў ім працуе адна або некалькі асоб у Вашым сельсавеце, тады адзначце адпаведны нумар групы па інструкцыі ў першай графе анкеты. У другой графе назавеце на мясцовай гаворцы сыравіну, з якой вырабляюцца адпаведныя рэчы або тавар, у трэцяй графе адзначаецца назва вырабляных рэчаў або тавару ў мясцовай гаворцы. У графе 3 трэба пералічваць ня ўсе тыя рэчы, што напісаны ў інструкцыі ў паасобных групах, а толькі тыя, якія вырабляюцца ў Вашым сельсавеце.

Графа 4. Мясцовасьць—самая назва паасобных паселішчаў (вёска, хутар і г. д.). Калі па якой-небудзь групе займаюцца промыслам альбо хатнім рамяством ня толькі ў аднэй, а нават у некалькіх вёсках, то належыць памянуць кожную вёску асобна і асобна па ёй даць усе лічбы.

Графа 5—9 ставіць пытаньне—арцелі ці адзіночкі займаюцца гэтым рамяством і лік іх.

Пры кожным паказаным у графе 4 паселішчы належыць паказаць формы працы арцелі альбо адзіночкі і адзначыць колькасьць іх.

Пры гэтым належыць помніць, што пад адзіночкай разумеецца не „адна асоба“, а адна хата (уся сям'я).

Графа 6 павінна адказваць колькі асоб працуе ў арцелі па кожным промысле і па кожнай вёсцы.

Графа 7 і 8 павінны высьветліць соцыяльны склад рамесьнікаў і асоб занятых у промыслах. У графе 7 адзначаецца лік рамесьнікаў неземляробаў (беспасеўных) у полі, а ў графе 8 толькі адзначыць, які пераважна склад земляробаў займаецца вызначаным рамяствам (напрыклад, „большасьць маламоцных і частка серадняцкіх“, „заможныя“, „серадняцкія“ і г. д.

Графа 9. Назва на мясцовай гаворцы інструмантаў і прылад, якія ўжываюцца пры вырабе.

Графа 10-11. Экономічныя ўмовы; прычым у графе 10 адзначыць адкуль і якім чынам атрымоўваецца сыравіна (напрыклад—„замежная (з па-за межаў Беларусі), праз коопэрацыю“, „мясцовая, самастойна“, „мясцовая, праз скупшчыка вырабу“ і г. д.), а ў графе 11 адзначыць куды і як прадаюцца вырабы (напрыклад—„на мясцовым рынку, самастойна“, „на даму, самастойна“, „праз коопэрацыю на замежны вываз“ і г. д.).

Графа 12 і 13 высьвятляюць гістарычны бок рамяства, прычым у графе 11, калі магчыма, абавязкова адзначыць час пачатку рамяства ў той ці іншай мясцовасьці, альбо адказаць: „з старыны“, „у дарэволюцыйны час“, „пасьля рэволюцыі“ і гэтак далей.

У графе 13—адкуль завялося гэта рамяство, ці занесена яно сюды з староны (напрыклад — з Ніжагародзкай губэрні, з Сібіры і г. д. ці распачалося тут здаўна па пачыну насельніцтва гэтага ці суседняга паселішча.

Графа 14—зазначаюцца розныя дадаткі, якія маюць магчымасьць высьветліць становішча промыслу альбо хатняга рамяства той ці іншай групы, і ўсялякія паметкі, якія папоўняць адказы папярэдніх граф.

У графах 14 і 15 азначыць лік выробленых за апошні год (1925) продуктаў усімі рамесьнікамі кожнае вёскі. У левай графе напісаць якая ўжываецца мера продукту (штукі, пуды, аршыны і г. д.), а ў правай—колькасьць продукту ў гэтых адзінках. Для промыслаў азначыць лік дзён работы.

# Парадак разбору матар‘ялу экскурсій.

*(Першыя крокі энтомолёга).*

Галоўнае правіла: ні ў якім выпадку нельга адкладваць на доўгі час разборку сабранага падчас экскурсіі матар‘ялу – шмат якія дэталі збору лёгка зблытваюцца ў памяці; даволі часта заўважваецца, што нават запісы, зробленыя падчас экскурсіі, трацяць сваё значэньне.

Парадак разбору сабранага матар‘ялу:

А. Жывыя вусені.

Б. Капшучкі.

В. Слоік з матылькамі.

Г. „ „ іншымі шасьціножкамі.

Д. Спробаўка з чарвой (личинка).

Е. Матар‘ял у мяшэчках.

Ж. Вусені для колекцыі.

А. Вусені пасадзім у скрынку з сухім мохам і паставім на холадзе, каб захаваць іх да паяўленьня адпаведнага корму.

Б. Капшучкі трэба палажыць таксама на сухі мох, а пасьля паставіць у цёплым ня зусім сухім месцы. Зразумела, увесь сабраны матар‘ял павінен мець уважна зробленыя этыкеткі.

В. Матылькі прышпільваем і прыводзім у належны выгляд; этыкетку прышпільваем збоку.

Г. Іншыя шасьціножкі трэба высыпаць на ліст чыстай паперы і дакладна разабраць іх па „відах“, г. зн. падбіраць аднародныя па знадворным выглядзе формы.

Гэта робіцца, зразумела, на вока і прытым у шмат чым больш-менш глыбака абмыляемся, але гэта ня так важна.

Разабраўшыся, выясьняем, што некаторых форм у нас шмат, другіх мала, а некаторыя будуць толькі ў адзінкавым паасобніку.

Практыка лёгка пераконвае, што ўвесь сабраны матар‘ял нашпіліць, прывесьці ў належны выгляд і г. д. проста немагчыма, хоць-бы ўжо і дзеля таго, што ня хопіць часу.

Дзеля гэтага ўвесь наш збор разаб‘ем на колекцыйны матар‘ял; першых мы нашпілім і ўставім у скрынкі, а другіх пакладзем на вату.

З прычыны выразнай нашай беднасьці шпількамі, і скрынкамі, мы прапанавалі-б толькі па два паасобнікі кожнага „віду“ прэпараваць, а рэшта пакласьці на вату. Трэба адзначыць, што пажадана было-б паасобнікі, злоўленыя ў розных варунках аднаго і таго-ж „віду“, нашпіліць. У будучыні, навучыўшыся разьбірацца ў відах, вы заўсёды будзеце мець магчымасьць скарыстаць з матар‘ялу блізкія, падобныя адзін да аднаго віды; гэты матар‘ял дасьць у будучыні, пры апрацоўцы фаўны данага раёну, каштоўныя даныя адносна лікавага распаўсюджаньня таго ці іншага віду.

Д. Вусені лепш укладаць у пласты дробнай солі з этыкеткай, напісанай тушам: гэта дае вам магчымасьць сабраць вялікі матар'ял, без вялікіх клопатаў з слоікамі, спробаўкамі, сьпірутасам і іншым.

Е. Разьбярэм уважна на белым аркушы паперы наш збор у мяшэчках.

Усё, што там знаходзіцца найлепш выбіраць пры дапамозе пэндзэлька, зьлёгка абмочанага ў вадзе.

Пасьля абязжыцьцяўленьня можна разабраць згодна ніжэйпаказанаму.

Ж. Калі вельмі шмат матар'ялу з вусеняў, дык трэба частку іх добра прэпараваць для колекцый.

Узор этыкеткі:




Кожны нумар павінен быць запісаны ў дзеньнік, дзе можна, зразумела, даваць больш шырокае апісаньне.

Толькі пасьля паказанай работы можна распачаць азначэньне любога матар'ялу. Як на першы падручнік, можна паказаць на працу— Н. Н. Багданава-Кацькава: „Практическая энтомология. Вып. I. Ленинград. 1925 г."

Пасьля некаторай практыкі зьявіцца жаданьне ўнікнуць у вывучэньне тэй ці іншай групы шасьціножак і вы самі спэцыялізуецеся (трэба адкінуць шырака распаўсюджаны погляд, што можна быць спэцыялістым па ўсіх галінах энтомолёгіі: яна занадта шырока для аднаго чалавека), зьявіцца магчымасьць пры дапамозе іншых спэцыялістых азначыць рэшту матар'ялу; гэтым шляхам колекцыя таго раёну, які вы вывучаеце, будзе пастаўлена на належную вышыню.

Усе труднасьці, якія сустракаюцца пры рабоце, можна лёгка перамагчы, калі зьвярнуцца ў Сэкцыю Прыродазнаўства Інстытуту Беларускае Культуры.

# Do ludności polskiej na Białorusi.

Po latach zwycięskich walk na rozmaitych frontach nadszedł czas, czas aby skupić siły społeczne na froncie naukowym.

Nauka, wiedza—to podstawa, na której winno opierać się budownictwo nowego ustroju.

Musimy znać przeszłość i rozumieć teraźniejszość, aby budować przyszłość. To daje nauka. W tym celu Władza Sowiecka Białorusi powołała do życia Instytut Białoruskiej Kultury, by stał się on ośrodkiem życia umysłowego kraju. Ma to być Białoruska Akademja Nauk.

Każdy, kto rozumie potrzebę nauki i wiedzy,—rozumie znaczenie dla Białorusi Instytutu Kultury Białoruskiej.

Powyższy Instytut posiada, prócz licznych sekcji i komisji, dwa wydziały: polski i żydowski. Przy Instytucie istnieje Białoruskie Towarzystwo Krajoznawcze.

Towarzystwo Krajoznawcze jest spójnią, wiążącą Instytut z szerokiemi masami ludności Białorusi, przy pomocy przeszło 100 filji, rozrzuconych po całym kraju.

Wydział Polski Inbiełkultu (skrócona nazwa Instytutu Białoruskiej Kultury) przez swego stałego przedstawiciela w Centralnym Zarządzie Towarzystwa (Centralne Biuro Krajoznawcze) znajduje się w związku z pracą krajoznawczą Towarzystwa i jego filji.

Prace Wydziału Polskiego Instytutu Białoruskiej Kultury wymagają bliższego kontaktu z ludnością polską. Sekcje Towarzystwa Krajoznawczego mają w tym mu dopomóc.

Wydział Polski Instytutu Kultury niniejszym odwołuje się do wszystkich obywateli-polaków, zamieszkałych na terytorjum Białorusi, z gorącą zachętą wstępowania do filji miejscowych Towarzystwa Krajoznawczego i do czynnego udziału w ich pracach.

W polskich radach wioskowych, przy klubach i szkołach polskich należy organizować polskie sekcje krajoznawcze, wchodzące w skład okręgowej organizacji krajoznawczej.

Należy kierować się zwyczajną ustawą, przyjętą przez Towarzystwo Krajoznawcze, zatwierdzone zaś, jak wszystkie sekcje T. K., przez miejscowe Komitety Wykonawcze (Ispołkomy), sekcje polskie prócz tego winny być w stałym kontakcie z Wydziałem Polskim IBK.

Do pierwszych prac sekcji polskiej należy źbieranie folkloru czyli twórczości ludowej, źbieranie według wskazówek Wydziału materjałów historycznych, pamiątek polskich, danych o ludności polskiej, o cechach i różnicach etnograficznych i t. d.

Pożądanym jest, aby nauczycielstwo polskie i bardziej uświadomione warstwy społeczeństwa polskiego, wzięły na siebie inicjatywę i bliższe kierownictwo tą sprawą—w porozumieniu, jak z miejscowemi filjami T. K., tak też z Wydziałem Polskim.

Tym sposobem powstanie jeszcze jedna placówka naukowa, na której każdy polak-obywatel Republiki Sowieckiej Białorusi, zależnie od swych sił i możności, będzie mógł złożyć dowody swej pracy dla dobra mas pracujących.

**Prezydjum Wydziału Polskiego I. B. K.**

# ХРОНІКА

## У Цэнтральным Бюро Краязнаўства.

### Пэрспэктыўны плян працы Цэнтральнага Бюро Краязнаўства.

Шпаркі тэмп росту краязнаўчых організацый Беларусі дазваляе спадзявацца, што ў працягу бліжэйшых гадоў краязнаўчая справа пусьціць глыбокае карэньне на беларускай вёсцы, а краязнаўчыя гурткі павырастаюць на тэрыторыі кожнага сельсавету. Выходзячы з дапушчэньня, што краязнаўчыя організацыі ў БССР ў бліжэйшыя гады будуць расьці прыблізна такім самым тэмпам, як і цяпер, Цэнтральнае Бюро Краязнаўства намячае адпаведна пашыраць ды паглыбляць свае заданьні і разгортваць сваю працу.

На бягучы 1926 год, на пэрыод май—кастрычнік, у зьвязку з перапынкам у школьных занятках, ЦБК мае на ўвазе галоўным чынам вывучэньне жывой прыроды і летніх сэзонных зьяў, як у прыродзе, гэтак і ў гаспадарцы. ЦБК рыхтуецца выдаць шэраг спэцыяльных сэзонных інструкцый па зьбіраньні колекцый жывёл ды расьлін і прапануе краязнаўчым таварыствам і гуртком зьвярнуць увагу на наступнае: a) зьбіраньне зоолёгічных колекцый паводле інструкцыі проф. А. Фядзюшына, асабліва зьбіраньне шкоднікаў саду, поля, лесу і гароду; b) зьбіраньне мясцовых гэрбарыяў, асабліва лекавых і тэхнічных дзікіх расьлін, паводле ўказаньняў проф. Васількова (гл. „Наш Край“ № 1 за 1925 год, ст. 34—36); c) запаўненьне анкет па абсьледваньні бюджэту часу беларускага селяніна (гл. „Наш Край“ № 2—3 за 1926 г., ст. 70—76 і дадатак), і анкеты проф. Скандракова аб тэхніцы сялянскага ральніцтва; d) запаўненьне анкет проф. Тарлецкага аб карысных выкапнях (Гл. „Наш Край“ № 2—3 за 1925 г., ст. 31—40); g) зьбіраньне сэзонных песень і слоўніка—тэрмінолёгічнага матар‘ялу. Апроч таго ЦБК распачынае працу па організацыі ўсебаковага краязнаўчага абсьледваньня аднаго тыповага раёну БССР (Асіпавіцкага). Затым, з мэтай вывучэньня сучаснага стану краязнаўчай справы на Беларусі, ЦБК разаслала па акруговых таварыствах краязнаўства адпаведныя анкеты з просьбай запоўніць іх да 1-га ліпня г. г. Нарэшце, ЦБК мае намер зрабіць захады да правядзеньня акруговых краязнаўчых конфэрэнцый у тых акругах, дзе яны дагэтуль не адбыліся.

Прымаючы пад увагу, што за 1925-26 опэрацыйны год лік краязнаўчых організацый па Беларусі вырас з некалькіх дзесяткаў да 121 дзейнай організацыі, ЦБК спадзяецца, што за 1926-27 опэрацыйны год лік гэтых організацый дойдзе да 300—400, так што ў кожным раёне будзе дзейнае раённае таварыства і 2—3 гурткі. ЦБК лічыць сваім заданьнем у 1926-27 годзе дапамагчы ўзмацненьню і пашырэньню краязнаўчай сеткі БССР, асабліва акруговым таварыствам, пры кожным з якіх маюць існаваць сталыя слоўнікавая камісія і сэкцыі яўрэйская ды польская, а таксама музэі мясцовага краю. (Музэяў можа ня быць пры Менскім, Віцебскім і Магілеўскім таварыствах, якія могуць абслугоўвацца

...аўным Музэем і яго аддзя-...ямі). Далей ЦБК мае дапамагчы усі... раённым таварыствам у справе утварэньня пры кожным з іх краязнаўчых бібліотэчак з важнейшымі сучаснымі выданьнямі па краязнаўству. ЦБК, апроч гэтага, бярэ на сябе абавязак: 1) паклапаціцца аб правядзеньні цыклю краязнаўчых лекцый на курсах па падрыхтоўцы культасьветных, політасьветных і іншых працаўнікоў; 2) склікаць і правесьці Другі Ўсебеларускі Краязнаўчы Зьезд; 3) паклапаціцца аб правядзеньні краязнаўчых конфэрэнцый па аднэй у кожнай акрузе і ў кожным раёне; 4) склікаць два пашыраныя пленумы ЦБК з удзелам прадстаўнікоў ад акруговых таварystваў; 5) практыкаваць выкліканьні прадстаўнікоў мясцовых організацый на пасяджэньні прэзыдыуму ЦБК; 6) з мэтай інструктаваньня і абсьледваньня працы командыраваць інструктарскі пэрсонал і членаў ЦБК ува ўсе акруговыя і ў 40 раённых таварystваў; 7) командыраваць на краязнаўчыя зьезды і конфэрэнцыі саюзных рэспублік прадстаўнікоў Беларусі; 8) командыраваць аднаго прадстаўніка за межы Саюзу ССР з мэтай вывучэньня краязнаўчага руху ў суседніх дзяржавах; 9) пачаць усебаковае краязнаўчае абследваньне трох тыповых раёнаў БССР; 10) выдаваць рэгулярна часопіс „Наш Край“, пашырыўшы яго разьмер да 6 друкаваных аркушоў у нумары, а таксама выдаваць інструкцыю па розных пытаньнях краязнаўства, справачнікі, узорнае апісаньне тыповага раёну, вынікі краязнаўчых абсьледваньняў і г. д.

Чакаючы ў 1927-28 опэрацыйным годзе далейшага разьвіцьця краязнаўчай справы, ЦБК спадзяецца, што ў канцы гэтага году дзейны краязнаўчы гурток будзе існаваць на тэрыторыі кожнага сельсавету, а ў краязнаўчую працу будуць уцягнуты шырокія колы работнікаў і сялян. ЦБК мае на мэце ў 1927-28 годзе зьвярнуць асаблівую ўвагу на дапамогу раённым таварystвам краязнаўства, пры кожным з якіх павінен быць сталы тэхнічны сакратар. ЦБК лічыць патрэбным, каб пры кожным раённым таварystве ў 1927-28 годзе быў краязнаўчы музэй і бібліотэка з новай краязнаўчай літаратурай. У пэрспэктыўны плян на гэты год ЦБК далей унесла наступныя заданьні: 1) склікаць ды правесьці Трэці Ўсебеларускі Краязнаўчы Зьезд і дапамагчы правядзеньню краязнаўчых конфэрэнцый па аднэй у кожнай акрузе і па дзьве ў кожным раёне; 2) правесьці два пашыраныя пленумы ЦБК з удзелам прадстаўнікоў ад акруговых і 10 найболей дзейных раённых таварystваў; 3) практыкаваць вызавы прадстаўнікоў мясцовых організацый на пасяджэньні прэзыдыуму ЦБК; 4) командыраваць інструктарскі пэрсонал ува ўсе акруговыя і раённыя організацыі, давёўшы лік агульных інструктароў да трох асоб; 5) наладзіць каротка-тэрміновыя курсы для працаўнікоў краязнаўства ў буйных гарадох БССР, а таксама дабіцца ўвядзеньня краязнаўства, як дысцыпліны, у тэхнікумах і вышэйшых школах; 6) командыраваць прадстаўнікоў Беларусі на краязнаўчыя зьезды і конфэрэнцыі саюзных рэспублік; 7) командыраваць двох асоб за межы Саюзу для вывучэньня краязнаўчай справы ў Заходняй Эўропе; 8) пачаць усебаковае краязнаўчае абсьледваньне аднэй тыповай акругі БССР; 9) рэгулярна выдаваць часопіс „Наш Край“, давёўшы разьмер нумара да 10 друкаваных аркушоў, а таксама выдаваць друкаваныя інструкцыі, адозвы, програмы, справачнікі, узорныя апісаньні абсьледваных раёнаў і іншых прац па краязнаўству.

## Спробнае краязнаўчае абсьледваньне тыповага раёну БССР.

### Уступ.

Цэнтральнае Бюро Краязнаўства ўнесла ў плян працы на 1926 год спробнае краязнаўчае абсьледваньне тыповага раёну БССР.

**Мэты.**

Мэтай такога абсьледваньня зьяўляецца: узорнае краязнаўчае апісаньне раёну, якое пры гэтым будзе замяняць сабой падручнік па краязнаўству для культасьветных устаноў. Гэтым будзе распачата грунтоўнае ўсебаковае апісаньне Беларусі, якое, згодна з пастановамі Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду, зьяўляецца галоўным заданьнем краязнаўчай сеткі рэспублікі.

**Выбар раёну.**

Вырашана, што раён, узяты для спробнага абсьледваньня, павінен мець моцную краязнаўчую організацыю, якая магла-б наладзіць стацыянарныя працы на месцы. З другога боку, гэты раён павінен быць тыповым для Беларусі і, значыць, мусіць быць лясістым, балатністым з перавагай лёгкіх грунтаў, сярэднім паводле прасторы і па колькасьці насельнікаў. Прымаючы пад увагу неадкладную патрэбу ў узорным апісаньні тыповага раёну, ЦБК прызнала пажаданым, каб раён быў забясьпечаны палепшанымі дарогамі, бо йначай яго нельга будзе хутка аб'яжджаць, а, значыць, ня можна будзе абсьледваць у кароткі час. Па згодзе ЦБК з географічнай падсэкцыяй Інбелкульту, найболей адпаведным раёнам для спробнага абсьледваньня прызнаны Асіпавіцкі раён Бабруйскае акругі.

**Як будзе праводзіцца праца.**

З мэтай найхутчэйшага зьдзейсьненьня гэтага проекту ЦБК прызнала патрэбным прыцягнуць да яго ўвагу ўсіх навуковых сіл Інбелкульту, краязнаўчых, партыйных, профсаюзных працаўнікоў Бабрускае акругі і Асіпавіцкага раёну.

Далей ЦБК мае на ўвазе:

1) тэрмінова выслаць прадстаўніка ў Бабруйск і ў Асіпавічы, каб распачаць працу і разьмеркаваць паміж членамі Асіпавіцкага Раённага Таварыства Краязнаўства і гуртка пры Асіпавіцкай гарадзкой сямігодц... вязкі па выкананьні асобных ... таньняў, зьвязаных з вывучэн нем раёну;

2) наладзіць 2-3 экспэдыцыі спэцыялістых па асобных галінах прыродазнаўства і грамадазнаўства ў Асіпавіцкі раён з мэтай навуковай разьведкі;

3) прасіць аддзелы, камісіі і сэкцыі Інбелкульту праводзіць намечаныя на гэты год экспэдыцыі і экскурсіі па магчымасьці ў Асіпавіцкім раёне;

4) у кожным сельсавеце раёну залажыць аддзелы раённага т-ва або краязнаўчыя станцыі для правядзеньня стацыянарных назіраньняў над прыродай бліжэйшых аколіц, бытам і гаспадаркай;

5) скарыстаць усе друкаваныя і архіўныя матар'ялы, а таксама матар'ялы адпаведных устаноў аб Асіпавіцкім раёне (матар'ялы былых валасных архіваў, прыёмачных камісій, раённага і акруговага фінаддзелаў, акрстатбюро і ЦСУ, асабліва перапісныя матар'ялы 1916, 1917 і 1926 г. і г. д.

6) адказнасьць за стацыянарную працу ўскласьці асабіста на т. А. Нямцова, як старшыню Асіпавіцкага Раённага Таварыства Краязнаўства;

7) агульнае кіраваньне працы пакінуць за ЦБК;

8) сабраныя матар'ялы апрацоўваць у вадпаведных сэкцыях і камісіях Інбелкульту або перадаваць на апрацоўку асобным спэцыялістым;

9) вынікі працы друкаваць асобхым зборнікам з далучэньнем сырых матар'ялаў.

У васнову програмы апісаньня кладзецца програма, зьмешчаная ў часопісе „Наш Край“ № 1 за 1925 г. пад назвай: „Што рабіць раённым краязнаўчым таварыствам“.

Інструктаваньне мясцовых прадстаўнікоў па кожным разьдзеле програмы і падбор матар'ялу па пытаньнях, зьвязаных з кожным разьдзелам, даручаецца асобным спэцыялістым.

19 мая г. г. гэты проект прэзыдыуму ЦБК разглядаўся на асаблівай нарадзе пленуму ЦБК з удзелам спэцыялістых па розных галінах краязнаўства, прычым была прынята наступная рэзолюцыя:

Заслухаўшы даклад т. Азбукіна аб пляне ўсебаковага краязнаўчага абсьледваньня тыповага раёну, нарада ўхваляе думку прэзыдыуму ЦБК, прызнае плян сваечасовым і вельмі карысным ды патрэбным і пастанаўляе:

a) усімі спосабамі падтрымаць гэтае пачынаньне;

b) выбар Асіпавіцкага раёну прызнаць удалым;

c) у васнову абсьледваньня палажыць програму па вывучэньні раёну, зьмешчаную ў часопісе „Наш Край“ № 1;

d) для дасканалай апрацоўкі пляну і програмы працы абраць камісію ў складзе прэзыдыуму ЦБК і т. т. Доўнар-Запольскага, Фядзюшына, Кіркевіча, Макарэўскага, Бірылы, Папяленка, Сербава і Зьбіткоўскага;

e) па магчымасьці накіроўваць экспэдыцыі і экскурсіі, якія маюць на мэце сяголета правесьці сэкцыі і камісіі ІБК, у Асіпавіцкі раён;

f) усю працу праводзіць пры непасрэдным удзеле мясцовых краязнаўчых організацый і працаўнікоў, пачынаючы працу зараз-жа, каб скарыстаць летні сэзон;

g) зьвярнуцца да Бабруйскага АВК аб прыцягненьні ўсіх мясцовых сіл да гэтай працы і да ўсіх дзяржаўных устаноў аб выкарыстоўваньні матар'ялаў, якія ў іх ёсьць па гэтым раёне;

20-га мая гэтае пытаньне разглядалася ў прэзыдыуме Інбелкульту, які пастанавіў згадзіцца з гэтым плянам і адшукаць неабходныя сродкі дзеля яго выкананьня.

ЦБК прыступіла да практычнага ажыцьцяўленьня гэтай справы.

---

## Праца сэкцый і камісій Інбелкульту.

### Аб упарадкаваньні беларускага правапісу.

На сходзе Навуковай Рады Інбелкульту ад 8 траўня 1926 г., па пытаньні аб упарадкаваньні беларускага правапісу пастаноўлена: прыняць належныя крокі да таго, каб да пастанаўленьня Ураду ніводная школа, ні асоба ня ўжывалі іншага правапісу, апроч таго, які устаноўлены Б. Тарашкевічам і апрацаваны Я. Лёсікам.

Даручыць правапісна-тэрмінолёгічнай камісіі разам з т. Чаржынскім і т. Байковым апрацаваць сьпіс альбо слоўнічак пашыраных чужаземных слоў, якія ўвашлі ў народную мову і якія трэба пісаць праз „а“. Гэтую працу камісія павінна ўнесьці на абгаварэньне пашыранага сходу сэкцыі беларускае мовы і літаратуры і на зацьверджаньне Навуковае Рады. Гэтай-жа камісіі ў вышэйазначаным складзе даручыць зрабіць рэвізію беларускага правапісу, і тэксты прынятых правілаў унесьці праз сэкцыю ў Навуковую Раду.

## Праца Асоцыяцыі НОП (навуковая організацыя працы) пры Інбелкульце.

### Псыхотэхнічная ляборатория.

У вапошні час псыхотэхнічная ляборатория прыгатавала неабходную апаратуру для псыхотэхнічнага дасьледваньня шофэраў, друкароў; распрацоўвала плян дасьледваньня стомленасьці студэнтаў Менскага Комвузу. Псыхотэхнічнае дасьледваньне шофэраў была разьбіта на дзьве галіны:

1. Дасьледваньне разумовай надаронасьці шофэраў і

2. Дасьледваньне профэсыянальнай надаронасьці шофэраў.

Першая частка дасьледваньня (разумовыя надаронасьці) закончана ляборатарыяй месяцы 2 таму назад.

Цяпер, у вапошнія дні, праз лябораторыю праходзяць шофэры Белаўтопрамторгу, у якіх дасьледуецца іх профэсіянальная надаронасьць. Вынік гэтай працы будзе выяўлены 15 чэрвеня, гэта значыць, у той час, калі скончыцца гэтае дасьледваньне і апрацоўка матар'ялу. Тады толькі і можна будзе параўнаць вынікі дасьледваньня разумовай надаронасьці з профэсіянальнай і зрабіць агульны вывад.

Псыхотэхнічнае дасьледваньне друкароў ставіць сабе мэту высьветліць профпсыхаграму гэтай профэсіі праз дасьледваньне як разумовай надаронасьці друкара, так і профэсіянальнай. Гэта праца таксама павінна быць скончана да 15 чэрвеня.

Дзеля дасьледваньня стомленасьці студэнтаў Менскага Комвузу псыхотэхнічная лябораторыя распрацоўвае шэраг тэкстаў. Гэтае дасьледваньне будзе насіць падгатоўчы характар да больш дэтальнага паглыбленага дасьледваньня, якое будзе пастаўлена ў восень 1926 году.

У гэты-ж пэрыод лябораторыя мае рабіць наступныя дасьледваньні: дасьледваньне разумовай надаронасьці 300 курсантаў палкавой школы кав. дывізіі, профадбор 70 курсантаў прызначаных для кавалерыйскага аддзяленьня Паграншколы і дасьледваньне кругу рачавістага ўяўленьня ў чырвонаармейцаў кавдывізіі ў ліку 300 чалавек.

Псыхотэхнічную лябораторыю, якая зьяўляецца першай у Беларусі (наагул такіх лябораторый па СССР ёсьць толькі каля 10), наведваюць розныя экскурсіі, якім даецца падрабязнае тлумачэньне як аб мэце, так і аб працы псыхотэхнічнай лябораторыі Інбелкульту.

### Сэкцыя адміністрацыйнай тэхнікі.

У сьнежні 1925 году на пасяджэньні прэзыдыуму Асоцыяцыі НОП была зроблена пастанова організаваць сэкцыю Адміністрацыйнай тэхнікі. У плян працы гэтай сэкцыі ўвашло як азнаямленьне з дасягненьнямі НОП'у ў галіне адміністрацыйнай тэхнікі па літаратуры, так і азнаямленьне з практычнымі дасягненьнямі па рацыяналізацыі ў галіне адміністрацыйнай тэхнікі БССР.

Апроч гэтага, сэкцыя ўключыла ў плян сваёй працы організацыю консультацыі па пытаньнях адміністрацыйнай тэхнікі, таксама распрацоўвае проекты ў справе адміністраваньня, з мэтаю рэкомандаваць гэтыя проекты дзеля ўжываньня ў Савецкіх установах БССР.

### Практыкум па НОП і псыхотэхніцы.

У чэрвені скончыць сваю працу практыкум па НОП і псыхотэхніцы, організаваны Асоцыяцыяй НОП яшчэ ў лістападзе 1925 году. Некаторыя таварышы, якія канчаюць практыкум у цяперашні час, працуюць з інспэктарамі НКРСІ па вывучэньні работы Мінцэрабкопаўскіх хлебапякарань. Мэта гэтай работы з аднаго боку—высьветліць недахопы хлебапякарань і палепшыць іх працу, з другога боку—даць магчымасьць нашым практыкантам вывучыць ступень мажлівасьці практычнага дапасаваньня НОП'у організацыі Савецкай гаспадаркі.

### Бягучая праца Асоцыяцыі НОП.

У вапошні час Асоцыяцыя НОП распрацоўвае наступнае: 1) пастаноўка дысконту бюджэту часу беларускага селяніна і студэнтаў БДУ., 2) выданьне зборніку „Праца Асоцыяцыі НОП пры Інбелкульце" і 3) папраўка навукова-дасьледчай працы фізіолёгіі працы.

Апроч гэтага, Асоцыяцыя НОП вызначыла камісію па правядзеньні НОП'у ў вышэйшай школе БССР.

**С. Вержбаловіч.**

### Праца Сэкцыі Рэвруху І. Б. К.

Сэкцыя па вывучэньні рэволюцыйнага руху ў Беларусі здолела дасягнуць значных рэзультатаў у ажыцьцяўленьні намечанага пляну сваёй

працы. За першую палавіну акадэмічнага году ў Сэкцыі былі зачытаны публічныя даклады: З. Жылуновіч —„Рабочы рух у Беларусі ў 1905 г. і яго разьвіцьцё з 90-х гадоў“ (Надр.: Полымя № 8, 1925), М. Мялешка—„З гісторыі барацьбы прыгонных сялян Беларусі ў XIX в.“ (Полымя № 4, 1926 г.), В. Зелязей—„Утварэньне і праца БСГ“, В. Вітноўскі— „Вучнёўскі рух у 1905 г. ў Менску“, ён-жа—„Крытычныя заўвагі да проклямацый 1905 г. соцыялістычных партый і організацый у Беларусі“.

Спэцыяльна ўтворанай пры сэкцыі біографічнай камісіяй (Віткоўскі, Мялешка, Ільлючонак) праводзіцца зьбіраньне матар'ялаў да гісторыка-біографічнага слоўніка рэволюцыйных барацьбітоў у Беларусі. З гэтай мэтай Сэкцыя распрацавала адозву: „Да ўсяго грамадзянства БССР“, (якая будзе друкавацца ў чарговым нумары „Н. К.“).

На пасяджэньні 28 IV г.г. Прэзыдыуму Сэкцыі было вырашана ўтварыць пры Сэкцыі камісію па ўмеркаваньні да выданьняў матар'ялаў і прац па рэвруху ў Беларусі. У першую чаргу намечана распрацоўваць да выданьня матар'ялы III аддзяленьня б. царскай канцэлярыі.

Вядзецца праца па складаньні зборніку, пад рэдакцыяй Жылуновіча ў памяць А. Бурбіса. У зборнік увойдуць наступныя артыкулы: З. Жылуновіч — Успаміны аб А. Бурбісу; Я. Дыла — Біографія А. Бурбіса; С. Гэльтман—Дзейнасьць А. Бурбіса ў Савецкім будаўніцтве БССР; З. Бядуля—Значнасьць Бурбіса ў разьвіцьці беларускага тэатру; М. Мялешка,—Спадчына А. Бурбіса; П. Б.—Памяці А. Бурбіса і інш.

У бліжэйшы час з друку выйдзе зборнік Сэкцыі: „Проклямацыі 1905г. соцыялістычных партый і органзацый у Беларусі“.

Сакратар Сэкцыі **Мялешка**.

**Biuletyn Nr. 2 wydziału Polskiego Instytutu Białoruskiej Kultury na dz. 1-go maja 1926 roku.**

1. Od ostatniego biuletynu aż dotąd, jak i od samego początku istnienia, Wydział Polski prawie nie miał możności oddawać się studjom i referatom akademickim, programowym, gdyż cały czas—na zasadzie art. 8 statutu IBK—winien był dawać naukowe odpowiedzi na najbardziej palące pytania, skierowywane do Wydziału przez różne organizacje i instytucje polskie nie tylko BSSR, lecz i całego SSSR.

2. Spokojna i planowa praca będzie możliwą tylko po wyczerpaniu najbardziej pilnych kwestji, wysuniętych przez nowe warunki bytu.

3. W związku z tym druk Nr. 1 roczników prac Wydziału znowu odłożono do jesieni r. b.

W tym czasie, t. j. od biuletynu Nr 1.:

4. Posiedzeń Wydziału odbyło się 8.

5. Rozpoczęto prace kartkowe w związku z wydaniem słownika polsko-białoruskiego i białorusko-polskiego (w każdej części po 60.000 słów) z tym, by wszystkie prace zakończyć do 1-go kwietnia roku przyszłego.

6. Dokonano kilku przekładów technicznych z języka rosyjskiego i białoruskiego na polski dla różnych instytucji sowieckich.

7. Wzięto na ewidencję materjały historyczne do bieżących prac w archiwach Moskwy i rozpoczęto systematyczny odpis tychże.

8. Wzięto na ewidencję i rozpoczęto systematyczny odpis materjałów historycznych w archiwach Leningrodu, naukowe opracowanie których i wydanie—przy obecnym stanie sił i funduszów—zajmie co najmniej około 10 lat.

9. Wzięto na ewidencję literaturę do sprowadzenia z zagranicy.

10. Wygłoszono 24 popularno-naukowe referaty w BSSR, Leningrodzie i Moskwie.

11. Przeprowadzono kampanję przygotowawczą w związku z organizacją

Sekcji Polskich Towarzystwa Krajoznawczego w okręgach Słuckim i Borysowskim i rozpoczęto organizację tychże w innych okręgach (Połock, Bobrujsk e t. c.).

12. Nabyto dla Wydziału jużto za gotówkę, jużto gratis całą szafę naukowej literatury (około 600 tomów).

13. Wzięto do połowy na ewidencję ludność polską i szkolnictwo polskie na Białorusi.

14. Stały czynny udział w Prezydium IBK, sekcji ruchu rewolucyjnego i jnnych, z dostarczeniem cennych materjałów archiwalnych sekcji ruchu rewolucyjnego.

15. Przepuszczono przez maszynkę Wydziału kilkadziesiąt arkuszy druku w języku polskim i kilkanaście—w języku łacińskim, niemieckim, angielskim i żydowsko-niemieckim z dziedziny botaniki, bibljografji, językoznawstwa etc., oraz bieżącej korespondencji w językach obcych różnych sekcji i komisji IBK.

**Кампанія па барацьбе з малярыяй і з шкоднікамі саду.**

У канцы зімы г. г. ЦБК правяло камнанію па вывучэньні малярыйных камароў. Апроч агульнай інструкцыі проф. Салаўёва аб зьбіраньні камароў, ЦБК разаслала па краязнаўчых організацыях Беларусі друкаваныя на шклопісе інструкцыі проф. Яцанткоўскага спэцыяльна аб зьбіраньні камароў у канцы зімы.

Адначасна была выпушчана інструкцыя проф. Яцанткоўскага аб зьбіраньні гнёзд матылёў Aporia crataegi і Euproctes chrysorrhea.

На гэтыя інструкцыі адгукніліся многія краязнаўчыя організацыі БССР. Каштоўныя матар'ялы былі прысланы ў ЦБК з Слуцкага акр. т-ва, з Прапойскага, Асіпавіцкага і Лельчыцкага раённых таварыстваў, а таксама з гурткоў Лаўжанскага (Віцебск. акр.) і Цімкавіцкага (Слуцк. акр.).

Сабраныя колекцыі камароў былі накіраваны Цэнтральным Бюро Краязнаўства проф. Салаўёву, які спэцыяльна вывучае малярыйнага камара. Што датыча колекцый шкоднікаў саду, дык яны перададзены на вывучэньне Менскай Дасьледчай Станцыі па барацьбе з шкоднікамі. Усе гэтыя колекцыі пойдуць на папаўненьне цэнтральнага зоолёгічнага музэю пры Інбелкульце.

---

## Акругі і раёны.

**Краязнаўчая праца на Віцебшчыне.**

Віцебскае Таварыства Краязнаўства складаецца з віцебскай гарадзкой організацыі, 9-ёх раённых Таварystваў Краязнаўства і 6-ёх Краязнаўчых гурткоў. Віцебская організацыя ў сваю чаргу складаецца з сэкцый: Экономічнай, Прыродазнаўчай, Мастацкай, Культурна-гістарычнай, Яўрэйскай, а таксама Сьветазнаўчай пры Акруговым Праўленьні Таварыства.

*Экономічная сэкцыя* знаходзіцца ў стане організацыі.

*Культурна-гістарычная сэкцыя* заслухала даклады: аб беларускіх прозьвішчах—Тараноўскага, да гісторыі будынкаў Марыявіцкага кляштару—Мельнікавай і інш., а таксама асьвятляла краязнаўчыя пытаньні ў мясцовай газэце „Заря Запада", пакольні гэта было магчыма.

*Мастацкая* сэкцыя апрацавала даклады: 1) Беларуская набойка—Шлюбскага, прачытаны Касьпяровічам. 2) Віцебск у гравюрах Юдовіна—Юурманам. 3) Археолёгічныя знаходкі Віцебшчыны з гістарычна-мастацкага пункту гледжаньня—Касьпяровіча. 4) Заданьні і мэтоды прац сэкцыі—яго-ж, і іншыя, а таксама організавала дыспут на тэму: „Шляхі новага беларускага мастацтва" з уводным дакладам „Марксызм і Мастацтва" і распрацавала бягучыя організацыйна-мэтодычныя пытаньні. Організавала выстаўку дрэварытаў С. Б. Юдовіна.

*Прыродазнаўчая* сэкцыя організавалася нядаўна, адбыліся тры агульныя сходы з дакладамі: 1) Аб гео-

лёгічнай экспэдыцыі па Заходняй Дзьвіне—Ціханава; 2) арганізацыя і мэта сэкцыі і іншыя. Цяпер сэкцыі перададзена энтомолёгічнае бюро на чале з Плюшчыкам-Плюшчэўскім, што працавала раней на правох сэкцыі і вывучала мясцовых шкоднікаў сельскае гаспадаркі.

*Яўрэйская* сэкцыя заснавалася раней, але асабліва сябе ня выявіла. Яна мае мэтай вывучэньне быту, гісторыі яўрэяў на Віцебшчыне.

*Сьветазнаўчая* сэкцыя працавала інтэнсыўней за іншыя, бо складалася пераважна з моладзі. Штотыднёва адбываліся агульныя сходы, на якіх распрацоўваліся адзін-два рэфэраты, а часам і даклады. Сэкцыя рабіла фэнолёгічныя, астрономічныя і мэтэоролёгічныя назіраньні, асьвятляла сваю працу ў газ. „Заря Запада“ і праз лекцыі на розных сходах. Друкавалася ў Ленінградзкіх выданьнях. Цяпер яна вырасла і стала сэкцыяй акруговага значэньня.

*Сеньненскае Раённае Таварыства Краязнаўства* арганізавалася 7-га красавіка 1925 г. Праўленьне складаецца з трох настаўнікаў, заг. раёну і райаграноміа; членаў 45, пераважна настаўнікаў. Адбылося пяць агульных сходаў, на якіх вырашаліся мэтодычна-арганізацыйныя пытаньні. Арганізуецца мэтэоролёгічная станцыя 2-га разраду і Радзімазнаўчы Музэй. Нядаўна таварыства падзялілася на сэкцыі: культурна-гістарычную, прыродазнаўчую і экономічную. Кожны член вядзе тыя ці іншыя назіраньні і зьбірае матар‘ялы. Сабраны гісторыі школ раёну; запаўняецца анкета аб помніках прыроды і мастацтва. У мясцовых сямігодках арганізаваны краязнаўчыя гурткі. Сабраны матар‘ял на тэму: „Мінулае горада Сянно“, установлены сьнегамер, укладзены гэрбары палявых расьлін, паступаюць сьпевы, казкі і іншыя віды фольклёру.

*Высачанскае Раённае Таварыства Краязнаўства* арганізавалася ў кастрычніку 1924 г., але праца пачалася толькі з студзеня 1925 г. Агульныя сходы заслухалі даклады: вывучэньне помнікаў прыроды і старажытнасьці — Сяргеенкі, фэнолёгічныя назіраньні і іх арганізацыя—Баранава і інш. Зроблены падлік царкоўных архіваў. На раённай конфэрэнцыі распрацаваны даклад: „Краязнаўства і Працоўная школа“ — Бараноўскага. Вялася популярызацыя ідэй краязнаўства сярод комсамольцаў.

*Гарадоцкае Раённае Таварыства Краязнаўства* заснавана ў ліпні 1925 г. заслуханы даклад: „Былое места Гарадка“ і „Краязнаўства ў школе“. Праведзена сьвяткаваньне 400-годзьдзя беларускага друку. Зьбіраецца матар‘ял па рэволюцыі 1905 г. у Гарадку, вядзецца вывучэньне экономікі раёну, арганізуецца краязнаўчы музэй.

*Чашніцкае Раённае Таварыства Краязнаўства* працуе з красавіка 1925 г., членаў—53. Вядзецца апісаньне раёну, зьбіраецца анкетны матар‘ял па будаўніцтве. Пры сямігодцы працуе гурток краязнаўства. Адбылася першая раённая краязнаўчая конфэрэнцыя з дакладамі: „Чырвоназорская папяровая фабрыка і яе праца“—Арла, „Фатыньская гаспадарка і яе значэньне“—Квяткоўскага, „400-годзьдзе беларускага друку і Васіль Цяпінскі—ураджэнец нашага раёну“—Іванова і „Праца Акруговага Праўленьня Таварыства Краязнаўства“—Касьпяровіча. Прымала ўдзел у конфэрэнцыі 73 дэлегаты з месц.

*Сураскае Раённае Таварыства Краязнаўства* на мяжы з РСФСР пачало сваю дзейнасьць са студзеня 1926 г. Раней тутака працавалі паасобныя працаўнікі, справу якіх і мае працягваць новая арганізацыя.

*Бешанкавіцкае Раённае Таварыства Краязнаўства* актыўна працуе з 22 сакавіка 1925 г., мае 60 членаў, з якіх 50 настаўнікаў. Агульных сходаў было два, праўленьня—10. Популярызавалася краязнаўства сярод членаў профсаюзаў (1 даклад), вучняў (5), комсамольцаў (1) і старшынь сельсаветаў (2). Зроблены справаздачны даклад прэзыдыуму райвыканкому.

Сабраны музэйны матар'ял, часткова адасланы ў Віцебскае аддзяленьне Бел. Дзярж. Музэю, а часткова захоўваецца на месцы. Сабраны колекцыі яек, мясцовых птушак, лекавых траў, каменьняў, мясцовай жалезнай руды, і збожжавых расьлін, а таксама шмат матар'ялаў па фольклёры. Пры сямігодцы організаваўся гурток радзімазнаўства. Таварыства цесна зьвязана з райвыканкомам, райкомам КПБ, мясцкомам асьветы і інш.

*Віцебскае Раённае Таварыства Краязнаўства*, якое зорганізавалася ў сьнежні 1925 г.; апроч популярызацыі краязнаўства, яшчэ не пасьпела сябе выявіць.

*Лезьненскае Раённае Таварыства Краязнаўства* пачало сваю дзейнасьць у сьнежні 1924 г. Дасьледвана Буеўскае возера і рэчкі Машна і Чарніца. Сабрана шмат фольклёру. Адбылася экскурсія ў мясцовую царкву для абсьледваньня старасьвецкіх ікон. Вядуцца мэтэоролёгічныя назіраньні. Укладзена колекцыя мясцовых скамянеласьцяй, зьбіраецца колекцыя мясцовых дрэў. У вапошні час праца таварыства прыціхла, але ўпарта падтрымліваецца маладым краяведам—Варапаевым.

*Езёрышчанскае Раённае Таварыства Краязнаўства* пачало сваю працу ў траўні 1925 г.; усяго членаў—40, з якіх партыйных—9, мужчын—24. На раённай конфэрэнцыі асьветнікаў пастаўлены даклад „Аб працы асьветніка па краязнаўству". Вядзецца апісаньне адзежы насяленьня, збор матар'ялаў для слоўніка, фольклёру і мэлёдый, а таксама фэнолёгічныя назіраньні. Устаноўлены сьнегамер.

*Янавіцкі Гурток Краязнаўства* Сураскага раёну аформіўся ў канцы 1925 г., хоць краязнаўчая праца пачалася там з 1923 г. Вывучаны архіў Тадулінскага кляштару, запісана 60 народных песень, знойдзены архіўныя дакуманты XVII-XVIII веку. Гурток кіруе краязнаўчай працаю мясцовай сямігодкі.

*Старасельскі Гурток Краязнаўства* Кузьняцоўскага раёну, што організаваўся ў кастрычніку 1925 г. ў колькасьці 48 асоб, меў два сходы. Распрацована падрабязная карта сельсаветаў, заслуханы даклад: „Аб п'янстве на тэрыторыі сельсавету", „Аб народных звычаях" і іншыя. Вядуцца мэтэоролёгічныя назіраньні, зьбіраецца фольклёр.

*Лужанскі Гурток Краязнаўства* Сіроцінскага раёну мае ў сваім складзе 69 членаў па 3 сэкцыях: прыродазнаўчай, этнографа-экономічнай і гістарычнай. Вядуцца мэтэоролёгічныя назіраньні. Укладзены сьпіс дрэў нашай мясцовасьці з адзначэньнем іх гаспадарча-экономічнага значэньня, укладаецца сьпіс птушак, сабрана шмат песень і казак, укладзена колекцыя—модэляй рэчаў мясцовага быту, дыяграма насяленьня па нацыянальнасьці, полу і г. д.

*Пустынскі Гурток Краязнаўства* Сенненскага раёну ўжо пасьпеў сабраць гісторыі ўсіх школ у сельсаветах, запоўніў анкеты: „Культ і народная гаспадарка", „Помнікі архітэктуры" і „Помнікі прыроды і гісторыі". Сабрана колекцыя мясцовых тканін, пачалося падворнае абсьледваньне сельсавету і збор колекцыі мясцовых дрэў, а таксама фольклёру.

*Астровенскі Гурток Краязнаўства* Віцебскага раёну заснаваны 2 студзеня 1926 году ў колькасьці 15 асоб. Сабрана колекцыя грошай, якія мелі зварот у раёне. Пачаты запіс фольклёру і організацыя радзімазнаўчага музэю. Зроблены зарысоўкі мясцовага арнамэнту і быту.

*Добрамысьленскі Гурток Краязнаўства* Лезьненскага раёну вядзе пакуль што популярызацыю ідэй краязнаўства сярод насяленьня, а таксама зьбірае фольклёр і колекцыі мясцовых расьлін.

*Агруговае Праўленьне Таварыства* аб'яднала працу краязнаўчай сеткі Віцебшчыны, кіравала ёю і працавала над пашырэньнем сеткі. За ўвесь час склікана дзьве акруговыя сьветазнаўчыя нарады і дзьве акруговыя краязнаўчыя конфэрэнцыі. Апроч гэтай бягучай працы Праўленьне

выдрукавала выданьні ў колькасьці 12.230 прымернікаў разьмерам ад аднога да 20 друкаваных аркушоў, організавала экспэдыцыі і лекцыі на акрузе і ў Віцебску, організавала экскурсіі па Віцебску, дзьве выстаўкі і г. д. Колькасьць членаў краязнаўчай сеткі дасягае 300 чалавек; грашовы зварот—каля 3.000 руб.

Організацыйны кругабег краязнаўчай працы на Віцебшчыне скончыўся. Пачынаецца кругабег сталага азнаямленьня з мэтодамі і заданьнямі працы. Трэцім кругабегам будзе сталае дасьледваньне і вывучэньне Віцебшчыны. **М. К—ч.**

### 2-ая Аршанская Акруговая Краязнаўчая Конфэрэнцыя.

25-га красавіка ў будынку Дома Асьветы адбылася 2-ая Акруговая Конфэрэнцыя Краязнаўчых організацый. На зьезд прыбыла 30 дэлегатаў раённых таварыстваў і гурткоў, абраных па модусу 1 на 50. Цэнтральнае Бюро Краязнаўства пры Акадэміі Навук СССР, Віцебскае Акруговае Таварыства прыслалі сваіх прадстаўнікоў. Былі таксама прадстаўнікі і навуковага таварыства па вывучэньні Беларусі, якое існуе пры Беларускай Сельска-Гаспадарчай Акадэміі на правах сэкцыі Інбелкульту.

На павестцы дня стаялі даклады Аршанскага Акруговага і Горацкага Раённага Таварystваў Краязнаўства.

Конфэрэнцыя праходзіла пры актыўнай дапамозе Акруговага Выканаўчага Камітэту і партыйных організацый. Старшыня Акрвыканкому т. Амбражунас прымаў самы шчыры ўдзел у працы Конфэрэнцыі.

Конфэрэнцыю адчыніў старшыня Акруговага Таварыства т. *Саўліч*.

Прэзыдыум быў выбраны ў складзе 5 таварышоў: *Амбражунас*, *Саўліч*, проф. *Салаўёў*, *Хведасюк*, *Васілеўскі*.

Аб дзейнасьці навуковага таварыства па вывучэньні Беларусі выступіў профэсар Горацкай Сельска-Гаспадарчай Акадэміі *Лунгерзгаўзен*.

Навуковае Таварыства па вывучэньні Беларусі было заснавана 1-га сакавіка 1925 г. у сьценах Горацкага Сельска-Гаспадарчага Інстытуту. Навуковае Таварыства дзеліцца на сэкцыі: агрономічную, прыродазнаўчую, сэкцыю яўрэйскай гаспадаркі і г. д. Сэкцыі дзеляцца на падсэкцыі і камісіі. Праца так шырака разгарнулася, што ўзьнікае патрэба організоўваць усё новыя і новыя падсэкцыі. Навуковая дзейнасьць Таварыства агарнула ня толькі абшар Савецкай Беларусі, але перакінулася на Гомельшчыну і іншыя краіны. У сэкцыях чытаюцца даклады на спэцыяльныя тэмы: як вынік самастойнай дасьледчай працы таго ці іншага працаўніка. Зараз друкуецца зборнік прац Навуковага Таварыства. Частка прац, якія друкуюцца ў гэтым зборніку, асьвятляюць розныя бакі быту сучаснае Аршаншчыны, але большасьць работ маюць агульна-дзяржаўнае значэньне. З дакладаў, якія спыняліся галоўным чынам на вывучэньні сучаснай Аршаншчыны, можна зазначыць працу профэсара *Скандракова* па вывучэньні тэхнікі сельскай гаспадаркі, гаспадаркі на вёсцы, профэсара *Бурштэйна* аб вясковых садох Дрыбінскага і Горацкаго раёнаў, профэсара *Афанасьсева* аб глебах Аршаншчыны і г. д. Частка прац членаў Навуковага Таварыства друкуецца за межамі БССР. Дасьледчая праца вядзецца плянава, але навуковае таварыства не абмяжоўваецца толькі навуковай дзейнасьцю, а праводзіць шырокую популярызацыйную працу сярод насельніцтва Горацкага і Дрыбінскага раёну. Насельніцтва ня толькі Аршаншчыны, але і суседніх акруг зьвяртаецца ў Акадэмію за дапамогай па тых ці іншых пытаньнях свайго практычнага жыцьця, і кожны раз Навуковае Таварыства дае пэўны адказ, тую ці іншую раду селяніну. Таварыства значную дапамогу аказвае і працоўнай школе. Пасьля дакладу профэсара Лунгерзгаўзена зьезд пераходзіць да дакладу профэ-

сара Салаўёва аб дзейнасьці Горацкага Раённага Таварыства Краязнаўства. Трэцім заслухваецца даклад профэсара *Серады* аб працы тэрмінолёгічнай камісіі. Да гэтага часу тэрмінолёгічная камісія запісала расійскіх тэрмінаў па земляробству да 3.000, па глебазнаўству 1.000 тэрмінаў, па садоўніцтву больш тысячы і г. д. Зараз распрацавана анкета да зьбіраньня сельска-гаспадарчых тэрмінаў. Яна разаслана ўва ўсе раённыя таварыствы з просьбай запоўніць іх адпаведнымі тэрмінамі і прыслаць тэрмінолёгічнай камісіі ў Сельска-Гаспадарчую Акадэмію.

Аб дзейнасьці Акруговага Таварыства Краязнаўства зрабіў даклад тав. *Васілеўскі*. Краязнаўчыя організацыі на Аршаншчыне мінулі організацыйны кругабег свайго жыцьця. Краязнаўчыя організацыі агарнулі ўвесь абшар акругі. Краязнаўчыя гурткі ёсьць ня толькі пры ўсіх сямігодках але і пры хатах-чытальнях. Агульна па акрузе налічваецца 768 членаў краязнаўчых організацый. Праца да гэтага часу вялася галоўным чынам па вывучэньні мінулага. Ужо надрукавана 1-ая частка непэрыодычнага зборніку „Аршаншчына“. Наладжана добрая сувязь з раённымі таварыствамі акругі. Краязнаўчыя організацыі карыстаюцца матар'яльнай дапамогай і моральным падтрыманьнем Акруговага Выканаўчага Камітэту і належным кіраўніцтвам з боку Акруговага Камітэту КПБ. Зорганізаваны і пашыраны музэі. Праводзіцца рэгістрацыя, учот і ахова ўсіх помнікаў старасьветчыны, быту і мастацтва. Шмат знойдзена новых помнікаў, асабліва часта знаходзяцца скарбы на Аршаншчыне. Цяпер патрэбна перавесьці краязнаўчую працу на вывучэньне сучаснасьці. Шчыльней зьвязацца з акруговай і раённымі плянавымі камісіямі. Краязнаўчыя організацыі ў сваёй працы павінны стаць першымі дапаможнікамі савецкага соцыялістычнага будаўніцтва гаспадаркі і культуры.

Пасьля дакладу т. Васілеўскага конфэрэнцыя зрабіла экскурсію ў Аршанскі сельска-гаспадарчы музэй, які за адзін год свайго існаваньня сабраў шмат матар'ялаў па экономіцы і быту сучаснай Аршаншчыны.

Пасьля спрэчак па дакладах, была прынята наступная рэзолюцыя;

2-ая Аршанская Акруговая Конфэрэнцыя Краязнаўчых Таварыстваў адзначае:

1. Узрост і сталую працу Горацкага Раённага Таварыства Краязнаўства, шырокую дасьледчую працу аддзяленьняў Інбелькульту пры Сельска-Гаспадарчай Акадэміі і Навуковага Таварыства па дасьледваньні Беларусі.

2. Узмацненьне сувязі Краязнаўчых організацый паміж сабой і насельніцтва.

3. Пляновасьць працы і ўцягнутасьць лепшых навуковых сіл у краязнаўчую працу.

4. Добрыя адносіны і падтрыманьне краязнаўства з боку акруговых і партыйных і савецкіх ўстаноў.

5. Для зьнішчэньня недахопаў у далейшай працы патрэбна: пашырыць сувязь з краязнаўчымі таварыствамі суседніх акруг.

6. Паступова ўцягваць шырокія колы рабочых у горадзе і працоўнага сялянства ў вёсках у краязнаўства. Больш шырока паставіць популярызацыю краязнаўчай працы, шляхам пастаноўкі дакладаў на сялянскіх і профсаюзных сходах і зьездах, пашырэньня допісаў у мясцовыя газэты і часопісы.

7. Пашырыць сувязь раённых таварыстваў акругі з „Навуковым Таварыствам“ па дасьледваньні Беларусі пры Беларускай Сельска-Гаспадарчай Акадэміі.

8. Новаму праўленьню Акруговага Таварыства перагледзець плян працы і выканаць тое, што не закончана ў мінулым годзе; у далейшым узмацніць мэтодычнае кіраўніцтва краязнаўчай працы раёнаў і аформіць організацыйна раённыя таварыствы.

9. Дабіцца ўнясеньня ў мясцовы бюджэт сродкаў на краязнаўчаю справу, організацыю адзінага музэю і платных працаўнікоў у ім.

10. Дабіцца належнага будынку пад памяшканьне Акруговага Архіву.

11. Ня менш 4-х раз у год склікаць пашыраныя пленумы Праўленьня Акруговага Таварыства і акруговыя конфэрэнцыі.

12. Шырака папулярызаваць задачы і дасягненьні краязнаўства сярод насельніцтва.

У склад новага праўленьня абраны наступныя таварышы: Акулік, Васілеўскі, Градзюшка, Кіпрыянец, профэсар Лунгерзгаўзен, Пазьняк, профэсар Салаўёў, Саўліч, Чудовіч.

Кандыдаты ў члены праўленьня абраны Хведасюк, Паскрэбка, Ухналёў, Рэмез, Грудзінскі, Чэрская.

Праўленьнем вылучаны прэзыдыум у складзе т. т. Саўліч—старшыня, намесьнік яго Васілеўскі, скарбнік—Акулік.

**Д. Васілеўскі.**

## Знаходкі ў Аршанскім раёне.

На беразе Дняпра, каля вёскі Кабылякі, Аршанскага раёну знашлі зуб маманта і скарб ангельскіх талераў 1699 году ў вёсцы Межавы, Межаўскага сельсавету; а ў г. Воршы ў час паводкі на беразе ракі знашлі скарб медных польскіх грошай 1534 г.

## Праца Горацкага Раённага Т-ва Краязнаўства.

Працу т-ва можна дзяліць на два пэрыоды: 1) з 7-га сьнежня 1924 г. па 1-е лістапада 1925 г. і 2) з 1-га лістапада 1925 г. да апошніх часоў.

У першым пэрыодзе вялася, галоўным чынам, організацыйная праца па ўцягваньні ў т-ва студэнцтва і настаўніцтва, пасьля чаго пачала вясьціся навукова-дасьледчая краязнаўчая праца.

Горацкае т-ва вызначаецца тым, што вялікая частка яго членаў складаецца з профэсароў і студэнтаў, якія за ўвесь працяг часу прачыталі на агульных сходах т-ва шмат цікавых дакладаў у розных галінах краязнаўства. Вось няпоўны пералік дакладаў і лекцый, якія былі заслуханы на сходах т-ва:

1) *Проф. Кайгародаў*—Аб мэтэоролёгічных назіраньнях, якія магчыма правесьці ў абставінах пачатковай школы.

2) *Ламака*—Народная творчасьць і зьбіраньне народных твораў.

3) *Проф. Салаўёў*—Аб фэнолёгічных назіраньнях.

4) *Проф. Васількоў*—Вывучэньне флёры нашай мясцовасьці.

5) *Ламака*—Запіс вясеньніх песень.

6) *Кулік* (супрацоўнік Акадэм. Навук)—Аб мэтэорытах.

7) *Проф. Салаўёў*—Аб шкодных шасьціножках у 1925 г.

8) *Асыст. Навіцкая*—Аб сьвірнёвых шкодніках.

9) *Студ. Фірсаў*—Аб шкодніках саду.

10) *Студ. Фірсаў*—Аб мацярынскім інстынкце ў павукоў.

11) *Проф. Салаўёў*—Аб чатырохногім качуры.

12) *Супрац. Іваноў*—Аб відах матылькоў, знойдзеных у Горках улетку 1925 г.

13) *Наст. Дзянісенка*—Аб краязнаўчай працы сярод настаўніцтва.

14) *Проф. Салаўёў*—Аб фэнолёгічных назіраньнях у Горках у 1925 г.

15) *Проф. Скандракоў*—Пытаньне аб вывучэньні тэхнікі сялянскага паляводзтва.

16) *Студ. Новікаў*—Аб пячоначным двуроце.

17) *Проф. Салаўёў*—Аб шкоднасьці павукоў.

18) *Проф. Васількоў*—Аб ліставой галаўні маньніка, як мажлівай прычыне атручваньня рагатае жывёлы на сырых пасьбішчах.

19) *Асыст. Дзянісаў*—Назіраньні над засьмечанасьцю розных севазваротаў Стэбутаўскага дасьледчага поля.

20) *Проф. Салаўёў*—Аб зьбіраньні народных песень.

21) *Проф. Лунгерсгаўзен*—Аб гідролёгічных назіраньнях у Горацкім і

Дрыбінскім раёнах і аб болідзе 18 сакавіка гэтага году.

22) *С. Г. Цытовіч*—Польскія паўстанцы ў Горы-Горках 24 красавіка 1863 г.

Апроч пералічаных дакладаў, чыталася яшчэ шмат дакладаў па краязнаўству на розных конфэрэнцыях і настаўніцкіх зьездах.

У розных выданьнях друкуюцца артыкулы краязнаўчага характару членаў Горацкага Т-ва. Зьбіраюцца народныя песьні, розныя рэчы старасьветчыны і інш.

Вось у вагульных рысах праца Горацкага Раённага Т-ва.

Паводле апошняй перарэгістрацыі на 1-е сакавіка бягучага году аказалася членаў т-ва, якія ўнесьлі за гэты год членскія ўзносы: настаўнікаў—78, навуковых працаўнікоў—23, студэнтаў—9 і 1 селянін, а ўсяго—101 чал.

На сходы таварыства, апроч членаў, запрашаюцца працаўнікі навуковых і культурна-грамадзкіх установаў.

### Мазырскае Акр. Т-ва Краязнаўства.

Ня гледзячы на тое, што організацыя т-ва пачалася ўжо гадоў два таму назад, т-ва да гэтага часу не аформілася. Завербавана больш 40 членаў, а статут яшчэ ня прыняты. Няма сталага праўленьня т-ва, а толькі часовае бюро.

Праца сякая-такая ўжо пачалася. Вядзецца зьбіраньне слоўнікавага матар'ялу і народнае творчасьці. Заложана маленькая краязнаўчая бібліотэчка. Куплены фотоапарат. Знойдзены плян гор. Мозыра 1769 г.

З раённых організацый т-ва зьвязалася з Азарыцкім, Лельчыцкім, Пятрыкоўскім і Ельскім т-вамі. Разасланы анкеты па выяўленьні аховы помнікаў, па фэнолёгічных назіраньнях, інструкцыі па зьбіраньні слоўнікавага матар'ялу і народнай творчасьці.

Недахопам зьяўляецца тое, што пры т-ве няма музэю. Утварэньню яго перашкаджае адсутнасьць памяшканьня.

### Праца Жлобінскага Раённага Т-ва Краязнаўства.

Раённае т-ва ўтварылася 25 кастрычніка 25 году. Працай кіруе часовае бюро з 5 чалавек. Старшыня—настаўнік сямігодкі Багатаў, сакратар—Чуліцкі. Таварыства падзелена на 2 сэкцыі—прыродазнаўчую і этнографічную. Статут яшчэ не зацьверджаны. Сходаў сэкцый было 2. Пасяджэньняў бюро—2. Плян пляцы выпрацаваны па кожнай сэкцыі асобна, агульнага няма. Сабрана ўжо трохі фольклёрнага матар'ялу. Распачата праца па зьбіраньні слоўнікавага матар'ялу. Плян працы і сэкцый разасланы ў падраённыя гурткі настаўнікаў.

У т-ве налічваецца 40 чалавек. Зроблена прапанова Саюзу Рабземлес і ЛКСМ аб уцягненьні членаў у краязнаўчую працу.

### Ініцыятыўная група краязнаўства ў Каленкавічах.

Ініцыятыўная група ўтварылася ў студзені месяцы г. г. ў складзе 3-х чалавек. На чале—загадчык яўрэйскае школы і сакратар раймясцкому працасьветы т. Разанкоў. Працы ніякай не вялося. Некалькі разоў на павестку дня раённых настаўніцкіх конфэрэнцый ставіліся даклады аб заданьнях краязнаўства і ўсякі раз зьнімаліся дзеля абмяжовасьці часу. На апошняй нарадзе ініцыятыўнай групы пастанавілі на бліжэйшай настаўніцкай конфэрэнцыі зрабіць даклад аб мэтах і заданьнях краязнаўства і дабіцца ўтварэньня т-ва.

### Праца Асіпавіцкага Раённага Т-ва Краязнаўства.

У Асіпавіцкае Раён. Т-ва ўваходзіць звыш 50 чалавек, у тым ліку 2 агрономы. Бюро абрана 23 студз. г. г., складаецца з 5 асоб. Па програме, якая складзена яшчэ раней да ўтварэньня бюро, з мэтай абхапіць па ўсіх галінах краязнаўства ўвесь раён, апошні падзелены на маленькія падраёны, прымаючы пад увагу школы,

якія знаходзяцца ў падраёнах. Гэтакіх падраён. наліч. 29. У васнову праграмы паложана праграма, надрукаваная ў № 1 час. „Наш Край“. Падрабязна распрацоўваць пытаньні ўзяліся члены бюро. Дзеля таго, каб уцягнуць у працу ўсіх членаў т-ва, кожнаму з іх даецца спэцыяльная праца—заданьне на вызначаны тэрмін. Агроному даецца таксама асабістае заданьне; у сучасны момант ён падрыхтоўвае глебавую карту раёну. Т-ва мае намер шырака карыстацца данымі статыстыкі.

Заданьні ў падраёны пасылаюцца праз Р. Адз. Нар. Ас. (па школах); яны друкуюцца на гэктографе.

У вапошні час уведзена членская плата—у м-ц 5 кап. Ёсьць і маленькая яўрэйская сэкцыя—адзін з сяброў бюро ўзяў на сябе працу сярод яўрэяў. Значна адчуваецца адсутнасьць краязнаўчай бібліотэкі.

Пры Асіпавіцкай гарадз. сямігодцы ёсьць вучнёўскі краязнаўчы гурток; ён налічвае 30 членаў (вучні з вышэйшых кляс), мае сваё праўленьне. Праца яго вельмі добрая. Ён падзелены на 2 часткі: 1) мястачковыя—вывучаюць сваё мястэчка з боку прыроды, прамысловасьці, вядуць назіраньні на мэтэоролёгічнай станцыі; зьбіраюць словы жывой мовы. Цяпер вясной мае рабіцца зьёмка мясцовасьці навакол Асіпавіч радыусам у 3 вярсты. Калі будзе магчымасьць,—сабраўшы матар'ял, у нас намечана зрабіць выстаўку „Асіпавічы ў мінулым і сучасным“.

2) Вясковыя вучні вывучаюць свае вёскі, хутары, бліжэйшыя да Асіпавіч, зьбіраюць словы, узоры на тканінах, робяць пляны сваіх паселішчаў. Ёсьць некаторы матар'ял для музэю, але пакуль што няма для яго памяшканьня. **А. Немцаў.**

**Чарэйская Раённая Краязнаўчая Конфэрэнцыя.**

6 сакавіка г. г. ў мястэчку Чарэі адбылася 1-ая Чарэйская Раённая Краязнаўчая конфэрэнцыя. Усяго зьявілася 65 членаў Чарэйскага Раённага Таварыства. На павестцы дня сталі наступныя пытаньні:

1. Інформацыя аб працы 1-га Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду.
2. Справаздача аб працы Чарэйскага Краязнаўчага Т-ва.
3. Даклад „Задачы вывучэньня мясцовага краю“.
4. Даклад „Краязнаўства і школа“.
5. Даклад аб складаньні гэрбарыю.
6. Перавыбары праўленьня.

Заслухаўшы даклад т. Бельскага аб працы 1-га Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду, Конфэрэнцыя пастанавіла прыняць даклад да ведама, далучыцца да рэзолюцыі Зьезду па дакладу т. Чарвякова і выразіць гарачы протэст супроць Лістападаўшчыны.

У дакладзе аб працы Чарэйскага Раённага Таварыства старшыня праўленьня т. Бельскі зазначыў, што таварыства ўтварылася 10 лістапада 1925 году і ў сучасны момант налічвае 80 членаў. Першы час праца насіла пераважна організацыйны характар. Праўленьне распрацавала плян працы, які быў накіраваны кожнаму члену т-ва для выкананьня. У зімовы пэрыод праца членаў таварыства выяўлялася, галоўным чынам, у назіраньні над прыродай, зьбіраньні слоўнікавага матар'ялу і народнай творчасьці. Дакладчык адзначыў, што работа таварыства наагул вялася слаба дзеля таго, што яшчэ ня ўсе члены т-ва ўявілі сабе значэньне краязнаўчае працы.

Конфэрэнцыя пастанавіла лічыць кірунак працы праўленьня правільным; прымаючы пад увагу організацыйны пэрыод, працу лічыць здавальняючай; члены краязнаўчага т-ва павінны прыняць самы актыўны ўдзел у гэтай працы.

Выступіўшы з дакладам аб задачах вывучэньня мясцовага краю т. Дагурэвіч адзначыў, што працу гэту трэба весьці ў некалькіх кірунках, зьвярнуўшы галоўную ўвагу на вывучэньне гаспадаркі і прыроды краю.

Конфэрэнцыя пастанавіла весьці працу па вывучэньні краю плянава, да-

пасоўваючыся да пор году і зьвяртаючы ўвагу больш на якасьць працы, а не на колькасьць.

Выступіўшы з дакладам „Краязнаўства і школа“ т. Гісторы падкрэсьліў, што краязнаўства ў школе мае вялікае выхаваўчае значэньне, падругое—праз вучняў лягчэй прывіць ідэю вывучэньня краю і насельніцтву, а гэта дапаможа апошняму падняць свой дабрабыт. Пасьля гэтага дакладчык даў практычныя ўказаньні, як наладзіць краязнаўчую працу ў школе.

Заслухаўшы даклад, конфэрэнцыя пастанавіла лічыць удзел школы ў краязнаўчай працы неабходным; у працы патрэбна наладзіць сувязь з мясцовымі організацыямі: партыйнымі, савецкімі і профэсыянальнымі, прыступіць да організацыі раённага музэю; популярызаваць справу краязнаўства сярод працоўных рабоча-сялянскіх мас.

Т. Робін, робячы даклад аб зьбіраньні гэрбарыя, даў каштоўныя ўказаньні, як практычна прыступіць да гэтай працы і ілюстраваў свой даклад гэрбарыем, які сабраў ён сам.

Т. Кегеліс, як садакладчык, даў указаньні, як практычна зьбіраць гэрбары разам з вучнямі, каб ён меў выхаваўчае значэньне.

У склад новага праўленьня выбраны: Бельскі, Кутман, Сколіна, Рубін, Пэўзьнер, Маркоўнік і Дагурэвіч.

**Першая Калінінская Акруговая Нарада старшынь краязнаўчых т-ваў.**

28-го студзеня г. г. у Клімавічах адбылася 1-я Калінінская Акруговая Нарада старшынь краязнаўчых т-ваў, на якой прысутнічалі старшыні раённых т-ваў акругі. У павестцы дня былі пастаўлены такія пытаньні: 1) справаздача Акр. Праўленьня, 2) чарговыя задачы краязнаўчых т-ваў, 3) даклады з месц і 4) бягучыя справы.

З дакладамі выступілі т. т. Юшкевіч (нам. старш. Акруг. Праўленьня Кр. Т-ва), Гірконд, Запольскі (Расьнянскага раёну), Мікалаеў (Касьцюковіцкага раёну), Ісакаў (Крычаўскага раёну), Піскун (Бялынкавіцкага раёну).

З дакладаў выявілася, што яшчэ ня зусім добра наладжана сувязь акругі з раёнамі. Па ўсіх дакладах з месц нарада ўхваліла вось якую рэзолюцыю:

Адзначаючы дасягненьні ў працы краязнаўчых т-ваў, як напрыклад: збор археолёгічных рэчаў, высьвятленьне гістарычных мясцовасьцяй, курганоў і інш., Акруговая Нарада старшынь раённых краязнаўчых т-ваў Калінінскае акругі на далейшы час працы ставіць сваёй мэтай наступнае:

1) Сыстэматызаваць сабраныя матар'ялы аб асаблівасьцях сваіх раёнаў і накіраваць у Акруговае Праўленьне.

2) Пашырыць і ўзмацьніць працу, дзеля чаго распрацаваць сталыя пляны па сэкцыях.

3) Заняцца зьбіраньнем матар'ялаў дзеля выданьня часопісу „Калініншчына“.

4) Кожнаму раённаму краязнаўчаму т-ву мець сталыя карты з нанясеньнем на яе курганоў, лесу, глебы і іншых цікавых мясцовасьцяй (адзін паасобнік карты прысылаць акруговаму т-ву).

5) Дэтальна вывучыць этнографічны стан раёну.

6) Мець сталую сувязь з Акруговым Праўленьнем, ні ў якім разе не накіроўваць матар'ял у Інбелкульт бяз згоды Акруговага Праўленьня.

7) Заняцца зьбіраньнем казак, сьпеваў і народных мэлёдый.

8) Заняцца зьбіраньнем рознага роду мясцовай тканіны, узоры якіх прысылаць Акруговаму Праўленьню.

9) Перагледзець і скласьці сталае праўленьне краязнаўчых т-ваў, уцягнуўшы ў гэту працу актыўных працаўнікоў.

10) Уцягнуць у працу краязнаўчых організацый членаў КПБ, Комсамолу і вясковага актыву.

## У Р. С. Ф. С. Р.

### Смоленское Общество Краеведения.

У Смаленску ўтварылася і прыступіла да працы „Общество Краеведения“, якое зьвярнуляся ў ЦБК Беларусі з пропозыцыяй завязаць цесную сувязь і мяняцца выданьнямі.

### Гурток па дасьледваньні Беларусі пры Ленінградзкім Унівэрсытэце.

У лютым месяцы гэтага году пры этнографічным аддзеле Геофаку Ленінградзкага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ўтварыўся гурток па дасьледваньні Беларусі, які складаецца з 22 членаў.

За кароткі час свайго існаваньня гурток пасьпеў шырака разгарнуць сваю працу, да якой прыцягнуты студэнты ня толькі розных факультэтаў Ленінградзкага Дзяржаўнага Унівэрсытэту, але і іншых ВУЗ‘аў. Дагэтуль былі заслуханы і абгавораны гэткія даклады:

1. Экономічнае становішча БССР.
2. Гісторыя этнографічнага вывучэньня Беларусі.
3. Новая беларуская літаратура.
4. Аб зьбіраньні беларускага дыялекталёгічнага матар‘ялу.
5. Беларускае вясельле.
6. Этнографічныя межы Беларусі.
7. Гісторыя беларускага тэатру.

Гурток прыступіў да адказнай працы па складаньні поўнай бібліографіі аб Беларусі.

### Краязнаўчая справа ў Польшчы.

Польскае Т-ва Краязнаўства мае да 30 аддзелаў у розных мясцох польскай дзяржавы. Членаў краязнаўства, паводле часопісу „Ziemia“, 3.000. Т-ва мае свой статут, організоўвае свае краязнаўчыя зьезды. Часопісы т-ва „Ziemia“ і „Orli Lot“.

Часопіс „Ziemia“ выдаецца адзін раз ў месяц, багата ілюстраваны. Паводле зьместу ён ахоплівае архэолёгію, гісторыю, мастацтва, этнографію, гаспадарку, прыродазнаўства і іншыя.

# Бібліографія.*)

## Працы па археолёгіі Магілеўшчыны.

**Антонович, В. Б.**

1897. — Погребальный тип могил Радимичей.

Труды IX археологическаго с'езда в Вильне 1893. Москва, 1897 г., т. II. Протоколы, стр. 48-49.

**Аникіевич, К. Т.**

1907.—Сенненскій уезд Могилевской губерніи. Опыт описанія... с картою уезда, схемою двух озер и рисунками в тексте.

Могилев губ., 8⁰. Стр. (6)+148+(2).

(На стар. 60-65 аб археолёгічных досьледах].

[ . . .

1857. — Археологическая находка (стальной рубашки) в г. Орше, Могилевской губ.

Журнал Министерства Народнаго Просвещенія. 1857 г. март, отд. VII, стр. 163-4.

[ . . .

1892.—Археологическая находка в Александровке Рогачевскаго уезда (колец и бус).

Могилевскія Губ. Ведомости 1892 г. № 31.

[ . . .

1899.—Борисов камень. (В с. Высоком-Городце, Сеннен. у.).

Археологическія Известія и Заметки Моск. Арх. О-ва. Москва, 1899, т. VII, стр. 362-364.

**Бранденбург, Н. Е.**

1908.—Журнал раскопок 1888-1902. Работы в губ.: Кіевской, Полтавской, Харьковской, Каменец-Подольской, Екатеринославской, Таврической, Черниговской, *Могилевской*, *Смоленской*, и в области Войска Донского. С одним портретом и картой.

СПБ. 8⁰, стр. VII+220.

**Wankel, dr.**

1878.—Ein erratischer Sranitblock mit phönicischer İnschrift bei Smolensk in Russland gefunden.

Wien.

[д. Горацкі павет, Магілеўскай губ.].

**Головацкій, Яков.**

1880. — Археологическія раскопки курганов, произведенныя графом А. С. Уваровым в именіи Вотне, Могилевской губ.

Виленскій Вестник, 1880, № 228.

Могилевскія Губ. Ведомости, 1880, № 95.

[ . . .

1893.—[Гривны кіевскія, найденныя возле д. Задрутье, близ г. Рогачова].

В архиве Археологической Коммиссіи дело 1893 г. № 151.

**Данилевич, В. Е.**

1895.—Стоянка и мастерская каменнаго века в Могилевской губ., изследованная летом 1893 года.

Кіевская Старина. 1895, том XLIX апрель, отд. II, стр. 12—19.

[д. Залозье Рагачэўскага пав.]

[...

1898.—Два клада, найденные в Сенненском у., Могилевской губ.

Археологическія Известія и Заметки Моск. Арх. Об-ва. Москва, 1898 г., т. VI, стр. 241—243.

[...

1905—Два монетные клада 1903 г. [в Сенненском у.]

Известія Археологической Комиссіи. вып. 17. 1905, стр. 133—137.

**Доброславскій, В.**

1905.—Несколько мыслей и соображеній по поводу существующаго у нас в Могилеве церковно-археологическаго музея.

Могилевскія Губ. Ведомости, 1905, № 53.

---

*) З картотэкі Бібліографічнае Камісіі Інстытуту Беларускае Культуры апрацавана С. А. Дубінскім.

Транскрыпцыя вытрымана старая за выключэньнем ъ і ѣ, якіх у друкарні няма.

[...
1866.—Древняя плащаница в Могилевском братском монастыре.
Могилевскія Губернскія Ведомости, 1866 г., № 12.
[...
1902.—Из Могилевской старины.
Могилевскія Губ. Ведомости, 1902, № 49.
[...
1893.—Из Могилевскаго Историко-Этнографическаго Музея.
Каталог предметов, доставленных на археологическую выставку при IX археологическом с'езде в Вильне в 1893 году. Вильна. Стр. 29—50.
[...
1910. — Историко-археологическіе музеи С.-З. Края. [Витебскій, Могилевскій, Гродненскій, Виленскій, Минскій].
Записки Сев.-Зап. Отд. Имп. Русскаго Географическаго О-ва. Вильна. 1910. Кн. I. Хроника. Стр. 222—236.

**Красницкій, Н.**
1909.—Старый Быхов и его окрестности.
Могилевскій Вестник, 1909, № 147 (3 іюля).
[Паміж іншым аб раскопках бліз вёскі Лучыцы].
[...
1893.—[Курганныя раскопки в 5-ти уездах Могилевской губ. М. В. Фурсова и С. Ю. Чоловскаго]. (С картой и 2 таблицами).
Памятная книжка Могилевской губ. на 1893 год.

**Лоначевскій, А.**
1885.—Археологическія находки в Гомельском уезде, Могилевской губ.
Кіевская Старина. 1885, т. XI. Март. стр. 573—577.

**Митрофан, архим.**
1905.—О значеніи Могилевскаго церковно—археологическаго музея.
Могилевскія Губ. Ведомости, 1905, № 50.
[...
1906.—Могилевская губ.
Известія Археологической Комиссіи. Прибавленіе к вып. 18. СПБ. 1906, стр. 24.
Из Могилев. Губ. Ведомостей за 1905 г., № 114.
[Аб раскопках Раманава ў Новым Быхаве, Лучыне, Салоным, Праскурнях, Каменцы, Кардоне, Гразіўцы].
[...
1908.—Могилевской губерніи, Оршанскаго у., местечко Голошевка. Рогволодов камень 1171 г. [С рис. камня и иконостаса].
Известія Археологической Комиссіи, вып. 28, 1908 г. стр. 1—2; вып. 31, 1909 г., стр. 23—24.
[...
1911.—Могилевская губернія. Археологическая хроника.
Известія Археологической Комиссіи. Прибавленіе к вып. 39, 1911, стр. 106—108.
Перепеч. из Могилевскаго Вестника, 1910, № 204, 208, 277, 278 и 178 [?].
[Аб Самусёвай гары; знаходках ў Гомельскім, Чаускім і Аршанскім пав.].
[...
1912.—Могилевская губернія. Раскопки в им. Мужичке, Климовичскаго у.
Известія Археологической Комиссіи. Прибавленіе к вып. 44. СПБ. 1912, стр. 110.
Перепечатка из Могилевскаго Вестника за 1911 г., № 207.
[...
1900—2.—„Могилевская Старина". Сборник статей „Могилевских Губернских Ведомостей".
Могилев.—4⁰.
вып. 1—статьи 1898—1899 г.
вып. 2—1900—1901.
вып. 3—1902—1903.
[...
1911.—Могилевскій церковно-археологическій музей в 1910 г.
Записки Сев.-Зап. Отд. Русскаго Географическаго О-ва. Вильна. 1911, Кн. 2. Хроника, стр. 361—365.
[...
1910. — Могилевскій епархіальный музей.
Известія Археологической Комиссіи. Прибавленіе к вып. 37. СПБ. 1910, стр. 116—117.

[...
1891.—Могилевскій музей. [Каталог].
Могилев, Губ. Тип. 8⁰. 82 стр.

**Муромцев.**
1871.—[Заявленіе о Могилевских курганах и находках монет].
Труды I Археологическаго с'езда. Т. I. Москва, 1871, стр. LXVI., стр. 119—123.

[...
1887.—Находки археологическія в пределах Россіи за 1886 г.
Записки Русскаго Археологическаго Общества. Том II, вып. 3. Новая серия. СПБ. 1887, стр. CLVI—CLIX.
[Знаходка монэт ў д. Магілеўскай, Віцебскай і Горадзенскай г. г.].

[...
1900.—[Об обряде погребенія у кривичей].
Рус. Архив, 1900, № 12, стр. 578.

[...
1896.—Обозреніе некоторых губерній и областей Россіи в археологическом отношеніи: I и II. Могилевская и Черниговская губ.
Записки Русскаго Археологическаго Общества, т. VIII, в. I и 2. СПБ, 1896, стр. 115—132.

[...
1893.—Обозреніе раскопок и находок.
Археологическія Известія и Заметки Моск. Арх. Об-ва. Москва, 1893 т. I, стр. 112 и стр. 191.
[Раскопки Фурсава і Чалоўскага ў 1892 г. у Маг. губ.].

[...
1893.—Обозреніе раскопок и находок.
Археологическія Известія и Заметки Моск. Арх. Об-ва Москва, 1893. т. I, стр. 446—450.
[Аб раскопках Чалоўскага ў 1893 г. у Маг. губ.].

[...
1909.—Опись коллекцій Московскаго Археологическаго Об-ва, пожертвованных Историческому Музею. Древности. Труды Моск. Арх. О-ва т. XXII, 1909, в. 1. Протоколы, стр. 313 и далее.
[На стар. 330—339 і 342 аб рэчах з д. Магілеўскай губ.].

[...
1898.—Открытіе Могилевск. музея.
Могилев. Губ. Ведом., 1898, № 86.

**Покровскій, Ф.**
1892.—Оршанская кольчуга Виленскаго музея.
Виленскій Вестник. 1892, № 88.

**Прахов, В.**
1847.—Остатки древних укрепленій Мстиславля.
Могилевскія Губ. Ведомости. 1847, № 8, стр. 165—167.

[...
1905.—Преобразованіе Могилевскаго „древлехранилища" в церковно-археологическій музей.
Известія Археологической Комиссіи. Прибавленіе к вып. 14. 1905, стр. 25—26.
Из „Могилевских Епархіальных Ведомостей". 1904, № 30.

[...
1888. —[Раскопки Голынскаго в Кричеве в 1888 г.].
Архив Археологической Комиссіи, дело 1888 года № 38.

[...
1889.—[Раскопки, произведенные близ города Орши Бранденбургом в 1889 г.].
В архиве Археологич. Комиссіи дело 1889 г. № 32.
[Раскопкі 5 курганоў ў в. Гразіўцы.]

[...
1890.—[Раскопки 1890—92 г. г. в Могилевской губ. в верховьях реки Сожа].
В архиве Археологич. Комиссіи дело 1890 г. № 33.
Указатель Историческаго музея, стр. 590.

[...
1892.—Раскопки в Могилевской г. в 1892 г. [в Рогачевском, Быховском, Чериковском, Климовичском и Мстиславском уездах].
Могилевскія Губернскія Ведомости, 1892, № 91—92.

[...

1910.—Раскопки в 1910 г. близ г. Климович, Могилевской губ.

Записки Сев.-Зап. Отд. Русскаго Географическаго О-ва. Вильна. 1910, кн. I. Хроника, стр. 239—243.

**Романов, Е.**

1886.--Борисов камень в с. Высоком Городце Сенненскаго уезда.

Могилевскія Губернскія Ведомости. 1886, № 42.

**Романов, Е. Р.**

1886.--Раскопки у фольварка Спиц Сенненскаго у., Могилевской губ.

Труды Антропологическаго отдела Общества Любителей Естествознанія, вып. III, 1886, стр. 597—606 и т. XII, стр. 422 (карта).

[...

1888.—[О раскопках Романова в 1886 г. в Чигиринках Быховского у. и Озеранах Рогачевского у., Могилевской губ]

Древности. Труды Моск. Археол. О-ва. 1888, т. XII. Протоколы, стр. 54—56.

**Романов, Е. Р.**

1889.—Раскопки в Могилевской губ. в 1888 году.

Древности. Труды Моск. Археолог. О-ва, т. XIII, 1889, в. 1, стр. 129—153.

**Романов, Е. Р.**—

1889.—Борисов камень в селе Высоком Городце, Сенненскаго уезда, Могилевской губ.

Древности. Труды Москов. Археол. О-ва, т. XIII, 1889 г., стр. 191—195.

**Романов, Е. Р.**

1893.—Заметка о дополнительных археологических местонахожденіях [по Витебской и Могилевской г. г.].

Труды Виленскаго Отделенія Москов. Предварительнаго Комитета по устройству в Вильне IX Археологич. с'езда, стр. 43—45.

[...

1895.—[Раскопки Е. Р. Романова в 1893 году в с. Вядец, Сенненскаго у. Могилевской губ.]

Отчет Археологической Комиссіи за 1893 год. СПБ, стр. 11.

Архив Археологической Комиссіи, дело 1893 года, № 7.

**Романов, Е.**

1897.—Могилевская старина.

Могилевскія Губернскія Ведомости, 1897, №№ 93, 99, 102, 105.

**Романов, Е. Р.**

1897.—Могилевское епархіальное древлехранилище.

Витебскія Губ. Ведомости, 1897, № 64.

**Романов, Е. Р.**

1898.—Каменный крест 1598 года.

Могилевскія Губ. Ведомости, 1898, № 76 [У с. Вендарож бліз Магілева].

**Романов, Е. Р.**

1898.—(О Лукомле и раскопках возле него).

Могилевскія Губ. Ведомости, 1898, № 38.

**Романов, Е. Р.**

1898. — Археологическія находки.

Могилевскія Губ. Ведомости, 1898, № 38.

[У в. Горах і в. Стражэвічах д. Сенненскага пав. Знаходкі монэт і курганных рэчаў].

**Романов, Е. Р.**

1899.—Две надписи в церквах Гомельскаго уезда.

Могилевскія Губ. Ведомости, 1899, № 47.

**Романов, Е. Р.**

1899.— Раскопка в им. Чирчине.

Могилевскія Губ. Ведомости, 1899, № 37.

Могилевская Старина, выпуск 1. 1898-1899 г., Могилев губ. 1900, стр. 1.

**Романов, Е. Р.**

1899.—Монетные клады.

Могилевскія Губ. Ведомости, 1899, №№ 56, 57, 69, 82; 1900, № 46.

**Романов, Е. Р.**

1900--1.--Археологическая заметка.

Могилевскія Губ. Ведомости, 1900, № 85; 1901, № 6.

**Романов, Е. Р.**

1900.—Пробная раскопка в Брусневичах Могилевскаго уезда 15-16 июля 1900 г.

Могилевскія Губ. Ведомости. 1900, №№ 59, 60.

**Романов, Е. Р.**

1900.--Оригинальный памятник старины. Кресло 1769 г.

Могилевскія Губ. Ведомости, 1900, № 13.

[У Дабрускай царкве, д. Гомельскага павету].

**Романов, Е. Р.**

1901.—Плащаница 1566 года.

Мог. Губ. Вед. 1901, № 45.

Историческій Вестник 1901, февраль, стр. 240--246.

**Романов, Е. Р.**

1901.—Археологическая заметка.

Могилевская Старина. Вып. 2, стр. 76—77.

[Знахадка каменных прыладаў у д. Сенненскім павеце].

**Романов, Е. Р.**

1903.—Могилевская губернія. Еще два клада близ древняго Лукомля.

Известія Археологической Комиссіи. Прибавленіе к вып. VI. 1903, стр. 73-74.

Из Могилевских Губ. Вед. 1903, № 44.

**Романов, Е. Р.**

1904—Две археологическія разведки.

Известія Археологической Комиссіи. Прибавленіе к вып. 9. СПБ. 1904, стр. 46—47

Перепечатка из Могилевских Губ. Ведомостей за 1903 год, № 76.

[Раскопкі ў д. Магілеўскай губ. на р. Проні].

**Романов, Е. Р.**

1908.—Старина доисторическая Северо-Западнаго Края. Популярный очерк с 70 рис.

Вильна, тип. „Русскій Почин", 8⁰, 46 стр.

[З „Виленскаго Календаря" за 1908 г.].

**Романов, Е. Р.**

1910.—К археологіи Северо-Западнаго края Россіи.

Археологическій очерк Гомельскаго уезда.

Записки Сев.-Зап. Отд. Русскаго Географическаго О-ва. Вильна, 1910. Кн. 1, стр. 97—128.

**Романов, Е. Р.**

[1912].—Археологическія разведки в Могилевской губерніи.

Вильно, тип. І. Завадзкаго. 8⁰, 32 стр.,

[Отдельный оттиск из кн. 3-ей Записок Сев.-Западнаго Отдела Русскаго Географическаго Общества. 1912 г., кн. 3, стр. 33—63.

**Романов, Е. Р.**

1912.—Древніе ляпидарные памятники Западно-Русскаго края.

Борисов камень в с. Высоком-Городце Сенненскаго уезда, Могилевской губ.

Записки Сев.-Зап. Отд. Русскаго Географическаго О-ва. Вильна, 1911, кн. 3, стр. 64—72.

**Романов, Е. Р.**

1912.—Древніе ляпидарные памятники Западно-Русскаго края. Борисов камень в с. Высоком-Городце, Сенненскаго уезда, Могил. губ.

Вильна. 8⁰. 10 стр. С тремя снимками.

**Рыков, П.**

1915.—Кольчуга Виленскаго музея [найденная в Орше]. С рис.

Москва, 4⁰.

**Самоквасов, Д. Я.**

1878.—Северянскіе курганы и их значеніе для исторіи.

Труды III - го Археологическаго с'езда в Кіеве, т. І. Киев, 1878, стр. 185 – 194.

[ . . .

1903.—Сведенія 1873 года о городищах и курганах. Могилевская губернія.

Известія Археологической Комиссіи, вып. V, 1903, стр. 29—64.

**Сигов, А.**

1915.—Замок князя Паскевича в Гомеле (С рис.).

Историческій Вестник, 1915, кн. І.

[ . . .

1902.—М. Смольяны (замок).

Могилевскія Губ. Ведомости, 1902, № 34.

**Соколов.**

1851.—Дорога из Могилева до Гомеля.

Чернигов. Губ. Ведомости, 1851, №№ 5, 6, 9, 10.

[Аб курганох д. Быхаўскага і Рагачоўскага паветаў].

**Спицын, А. А.**

1899.—Разселеніе древне-русских племен по археологическим данным.

Журн. Мин. Нар. Просв., 1899, № 8.

[. . .

1893. [Три подвески из серебра и одно витое из проволоки кольцо... из Могилевскаго Историко-Этнографическаго Музея].

Каталог предметов, доставленных на археологическую выставку при IX археологическом с'езде в Вильне в 1893 году. Вильна. Табл. 23, стр. 41.

**Турбин.**

1880.—Вещи из курганов, раскопанных в Быховском у., Могилевской губ.

Древности. Труды Моск. Арх. Об-ва. Т. VIII. Стр. 33 и 37.

**Турчинович, О.**

1857.—Обозреніе исторіи Белоруссіи с древнейших времен.

СПБ. 12⁰, стр. XII+304.

[Паміж іншым аб рэчах каменнага веку з Быхаўскага павета].

**Тышкевич, К. П.**, граф.

1867.—О древних камнях—памятниках Западной Руси и Подляхіи. С примечаніями А. К.

Древности. Археологическій Вестник. 1867 г. № 4 [Іюль—Август], стр. 154-160.

[Аб камені Рагвалодавым каля Воршы].

**Тышкевич, К.**

1865.—О курганах в Литве и Западной Руси.

Вильна.

(Отд. оттиск из Вилен. Вестн. за 1864 г., №№ 112—117).

[На стар. 23—25 аб раскопках Нарбута каля Рагачэва ў 1810 г.].

**Уваров, А. С.**, граф.

1873.—Изследованія. О существенных и второстепенных признаках народности могильных насыпей.

Древности. Труды Моск. Арх. О-ва, т. III, 1873 г., вып. 3, стр. 265—289.

[Аб палачанах, крывічах, дрыгавічах, радзімічах].

**Уваров, А. С.**

1881—Археологія Россіи. Каменный період. Том II.

Москва 8⁰, стр. 152.

[На стар. 139 д. Магілеўская губэрнія. Знаходкі каменных прылад].

[...

1902.—Урочище Залозье, Рогачевскаго уезда, Могилевской губ.

Каталог выставки XII археологическаго с'езда в г. Харькове. Харьков. Стр. 195—196.

[Стаянка кам. веку; пералік знаходак].

[**Фурсов и Чоловскій**].

1892.—Дневник курганных раскопок, произведенных Фурсовым и Чоловским в Рогачевском, Быховском, Климовичском, Чериковском и Мстиславском уездах.

Могилев. 4⁰, стр. 38+IV.

**Фурсов, М. В.**

1898.—Описаніе Могилевскаго музея. 2-ое изданіе.

Могилев на Днепре, 8⁰, стр. [10]+ +106.

**Фурсов, М. В.**

1895.—Курганныя раскопки в пяти уездах Могилевской губерніи в 1892 г.

Труды девятаго археологическаго с'езда в Вильне 1893 г.

Москва. т. I, стр. 236—245.

**Фурсов, М.**

1895.—Поселенія Смоленских кривичей в пределах Могилевской губ.

Могилевскія Губ. Ведомости, 1895, № 70.

[...

1911.—Церковный музей г. Могилева в 1910 г.

Могилевскій Вестник. 1911, № 53.

**Cercha, Stanisław.**

1895.—Poszukiwania archeologiczne w gub. Mohylowskiej, dokonane w latach 1892—1894.

Odbitka ze „Zbiór wiadomości do antropologii krajowej".

Kraków. 8⁰, str. 15.

**Cercha, St.**

1896.—Poszukiwania archeologiczne w gubernii Mohylewskiej, w pow. Rohaczewskim, Bychowskim i Mohylewskim.

Materjały antropologiczno-archeologiczne i etnograficzne wydawane staraniem komisii antropologicznej Akademii umiejętnosci w Krakowie. 1896, t. I.

**Черепанов, В.**

1901.—Раскопки кургана в им. Хизово, Рогачевскаго у., Могилевской губ.

Записки Русскаго Археологическаго Общества, т. XII, в. 1 и 2. Новая Серія, СПБ. 1901, стр. 299—301. С 3 рис.

**Чоловскій, С.**

1904.—Археологическія раскопки 5 и 6 октября 1903 года (при дер. Василевке, Чериковскаго уезда).

Известія Археологической Комиссіи. Прибавленіе к вып. 9. СПБ. 1904, стр. 47—48.

Перепечатка из Могилев. Губерн. Ведом. за 1903 г. № 90.

**Чоловскій, С. Ю.**

1902.—Курганныя раскопки около дер. Гибалы, Чериковскаго уезда.

Могилевскія Губ. Ведомости. 1902.

[...

1851.—Чортова гора близ Чечерска,

Черниговскія Губ. Ведомости, 1851. № 6.

**Шкадышек, М. Ф.**

1913.—Славянскій могильник в Могилевской губ.

Записки Одесскаго Общества Исторіи и Древностей, 1913, т. XXXI Протоколы, стр. 12—20.

[Магільнік у Клімавіцкім павеце Забелішынскай воласьці, каля рэчкі Трасьцінкі].

*Выдавец*—**Інстытут Беларускае Культуры.**

*Рэдактар*—**С. Плаўнік (З. Бядуля).**

# ЗЬМЕСТ.



---

Застаўкі і канцоўкі выкананы мастаком **А. Тычынам.**

ПРЫМАЕЦЦА
ПАДПІСКА
НА

КРАЯЗНАЎЧЫ ЧАСОПІС



# НАШ КРАЙ



ШТОМЕСЯЧНІК
ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА
ПРЫ ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ.

УМОВЫ ПАДПІСКІ:
4 РУБ. У ГОД.

**АДРЭС РЭДАКЦЫІ:**
**Менск, Рэволюцыйная 21, тэлефон 7-71.**

УСІХ НАСТАЎНІКАЎ РЭДАКЦЫЯ ПРОСІЦЬ ПРЫСЫЛАЦЬ У ЧАСОПІС МАТАР'ЯЛЫ АБ КРАЯЗНАЎЧАЙ ДЗЕЙНАСЬЦІ ШКОЛ.

УСЕ АКРУГОВЫЯ І РАЁННЫЯ ТАВАРЫСТВЫ, ШКОЛЬНЫЯ І ІНШЫЯ ГУРТКІ КРАЯЗНАЎСТВА ПАВІННЫ НА СТАРОНКАХ ЧАСОПІСУ „НАШ КРАЙ“ АСЬВЯТЛЯЦЬ СТАН КРАЯЗНАЎЧАЙ СПРАВЫ НА МЯСЦОХ.

